

# ПРАПАГАНДЫСТ АНЯ КАНАПЛЯНІК

Раніцай, калі шырокая вуліца калгаса імя Молакава яшчэ заценена векавымі ліпамі і бярозамі, а паветра, крыху пыльнае ад нядаўна прайшоўшага статку, напоўнена ранішняй свежасцю, высокая дзяўчына спяшаецца да невялікага будынка, што стаіць у цэнтры сяла. Будынак гэты нічым не адрозніваўся-б ад тых, што побач з ім, калі-б не газетная вітрына, Дошка гонару і дошка паказчыкаў соцспаборніцтва, прымацаваная проста да бярвенчатай сцяны хаты.

Дзяўчына адчыняе газетную вітрыну і вывешвае ў ёй свежую газету, запісвае на дошку паказчыкаў новыя лічбы. Хутка прыдуць сюды калгаснікі і перад тым, як пайсці ў поле, пазнаёмяцца з вынікамі работы за ўчарашні дзень.

Так пачынаецца працоўны дзень комсамолкі Ані Канаплянік, загадчыцы Акцябрскай хаты-чытальні Бабруйскай вобласці.

Гісторыя Акцябрскай хаты-чытальні — гэта частка біяграфіі самой Ані. У 1946 годзе, калі дзяўчына прышла сюды працаваць, многа цяжкасцей паўстала на яе шляху.

— Цяжка было працаваць, — гаворыць Аня. — Хаты-чытальні тады ў нас яшчэ не было. Інцы раз нам удавалася ўгаварыць гарманіста з суседняга калгаса, каб пайграў нам вечар. Моладзь збярэцца ў памяшканні праўлення калгаса, паспявае, патанцуе ды і разыходзіцца. А што было рабіць там пажылым калгаснікам? У нас нават чытаць не было чаго — уся бібліятэка складалася з адной газетнай падшыўкі... А цяпер... Ды вось вы самі лепш паглядзіце.

Аня не без гордасці адчыняе кніжныя шафы. Якіх толькі кніг тут няма! Вось паблісквабць залатыя літары на вокладках твораў Леніна і Сталіна, а вось творы класікаў мастацкай літаратуры ў масіўных прыгожых пераплётах, рознакаляровыя вокладкі сельскагаспадарчай, палітычнай, навуковай і тэхнічнай літаратуры.

Пасля працоўнага дня, у гадзіны адпачынку, ёсць чым заняцца ў хаце-чытальні і пажылым, і моладзі. Тут ёсць шашкі, шахматы, даміно, кнігі, газеты, радыё. А калі выступае драматычны гурток або чытаецца цікавая лекцыя — хата-чытальня ледзь умяшчае ўсіх жадаючых паслухаць канцэрт або лекцыю.

Асаблівай папулярнасцю карыстаецца драматычны гурток. Спачатку ён быў невялікі — усяго чатыры чалавекі ўваходзілі ў яго склад. Першая п'еса была пастаўлена на сцэне, змайстраванай са звычайных варот. Зараз драмгурток мае ў сваім складзе дастаткова ўдзельнікаў і ставіць такія п'есы, як «Пяюць жаваранкі», «Канстанцін Заслонаў», «Партызаны», «Маладая гвардыя» і іншыя. Тое, што некаторыя з гэтых п'ес пастаўлены ім на раённай сцэне, гаворыць аб майстэрстве самадзейнага калектыва.

Складаная і рознастайная работа загадчыка хаты-чытальні. Тут і заняткі гурткоў, і арганізацыя вечароў мастацкай самадзейнасці, і канферэнцыі чытачоў, і выезды ў поле з газетай і кнігамі. Каб паспяхова наладзіць работу хаты-чытальні, мала адной толькі асабістай ініцыятывы. Партыйная і комсамольская арганізацыі, актыў хаты-чытальні — вось першыя памочнікі і дарадчыкі Ані Канаплянік. Дастаткова паглядзець на шматлікія лозунгі, якія ўпрыгожваюць сцены хаты-чытальні, з густам аформленыя фотавітрыны і агракуток, пабыць на занятках харавога або літаратурнага гуртка, каб пераканацца ў тым, што Ані ўдалося стварыць моцны актыў хаты-чытальні, уцягнуць у гэтую цікавую работу шырокі круг моладзі.

Тут, у сценах клуба, вы пачуеце лекцыю агранома Аляксандра Сасноўскага аб квадратна-гнездавой пасадцы бульбы, цікавую гутарку маладога настаўніка Аляксандра Нікалавіча аб узнікненні жыцця на зямлі, з задавальненнем паслухаеце народныя песні ў выкананні брыгадзіра паляводчай брыгады комсамолкі Марыі Клімавай.

Літаратурныя вечары, канферэнцыі чытачоў, вечары пытанняў і адказаў — усё гэта рыхтуецца грунтоўна з любоўю, пры самым шырокім удзеле комсамольцаў і ўсёй моладзі.

Энергічная, задорная ў рабоце, Аня Канаплянік не замыкаецца ў чатырох сценах хаты-чытальні. Часта ва ўсякае надвор'е, захапіўшы з сабою газеты і часопісы, яна ідзе ў поле, дзе працуюць калгасныя брыгады. Уважліва слухаюць калгаснікі свайго агітатара. Тэма гутаркі — значэнне вырошчвання тэхнічных культур у сувязі з рашэннямі XIX з'езда КПСС — блізкая і зразумелая ўсім. Простай, дакладнай мовай расказвае Аня аб значэнні рашэнняў з'езда. Гутарку яна будуе на канкрэтных прыкладах з жыцця свайго калгаса.

А вечарам мы зноў бачым яе ля кніжных шафаў.

— Дык вы Радзішчава хочаце пачытаць? — пытаецца яна ў старога пенсіянера Нікалая Козака. І, выдаўшы кнігу, дадае: — Пачытайце тут з поўгадзіны, а потым паслухаеце лекцыю. Ды і самадзейнасць паглядзіце.

У пакоі ярка гарыць святло. Тут неяк асабліва ўтульна. На сценах — прыгожыя стэнды і фотавітрыны, на стале, засланым чырвоным сукном, — вялікі букет кветак. За сталом заўзята спрачаюцца шашысты.

Памыўшыся, пераапрануўшыся, добра адпачыць пасля напружанага працоўнага дня. Крэслы ў зале ўжо напалавіну заняты. А калгаснікі ўсё прыходзяць і прыходзяць. Яны ведаюць, што ў хаце-чытальні, дзе працуе Аня Канаплянік, не будзе сумна.

**В. АЛЯКСАНДРАЎ.**



Дзеці працоўных Баранавіцкай вобласці, студэнты-камсамольцы завочнага аддзялення педагагічнага вучылішча ў Навагрудку: (злева направа) першы рад — Надзежда Заблоцкая, Соф'я Гаўрон і Канстанцін Варанко, другі рад — Іван Баўтрушка і Мікола Маляўка.

Фота А. Дзітлава.


# МАЛАДОСЦЬ

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

№ 5. Жнівень, 1953 год.

# У адзінай сям'і

Вялікая сям'я савецкіх народаў! У еднасці і згодзе, у дружбе і згуртаванасці будуюць комуністычнае грамадства рускія і беларусы, украінцы і грузіны, казахі і кіргізы, латышы і літоўцы — увесь многамільённы і многанацыянальны савецкі народ.

Адыйшлі ў нябыт нацыянальная варожасць і недавер'е паміж народамі нашай краіны. Мудрая нацыянальная палітыка Комуністычнай партыі забяспечыла ўсім народам самыя шырокія ўмовы для росквіту іх эканомікі і культуры, для выяўлення і развіцця іх духоўных сіл і здольнасцей. Нідзе, ні ў адной краіне свету, не знойдзеш такога велізарнага культурнага росту раней адсталых народаў, як у нашай савецкай краіне.

У яркім сузор'і брацкіх рэспублік на шырокую дарогу эканамічнага і культурнага будаўніцтва выйшла Савецкая Беларусь. Раней адсталая, аграрная краіна, яна за гады савецкай улады стала «краем фабрык дымных і машын», краем перадавой індустрыі і буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Беларускі народ пазбавіўся непісьменнасці, культурнай адсталасці. Пышна расквітнелі яго літаратура, мастацтва, навука, выраслі кадры нацыянальнай інтэлігенцыі. І кожны з працоўных нашай рэспублікі добра разумее, што гэтых велічных поспехаў мы дасягнулі дзякуючы брацкай дапамозе другіх народаў савецкай краіны і ў першую чаргу вялікага рускага народа.

Выпрабаваная і загартаваная ў баях Вялікай Айчыннай вайны дружба савецкіх народаў расце і мацнее. З яе дапамогай пасля вайны наша рэспубліка хутка адбудавала разбураныя гарады і вёскі, узняла гмахі новых заводаў, школ і інстытутаў, тэатраў і бібліятэк.

З вялікай сілай праявілася дружба савецкіх народаў у збудаванні гідраэлектрастанцыі «Дружба народаў». Калгаснікі перадавых калгасаў Беларусі, Літвы і Латвіі, імкнучыся зрабіць сваё жыццё яшчэ больш багатым, яшчэ прыгажэйшым, адзінай сям'ёй выйшлі на возера Дрысвяты і за кароткі тэрмін пабудавалі электрастанцыю. Газеты прынеслі радасную вестку: на зялёных берагах дрысвяцкага возера адбылося радаснае свята пуску ГЭС. На дзесяткі кіламетраў па беларускай, літоўскай і латвійскай землях весела заззялі лямпачкі Ільіча.

Рост і ўмацаванне дружбы народаў можна бачыць на самых разнастайных прыкладах. З дня ў дзень пашыраюцца культурныя сувязі паміж савецкімі народамі. Працоўныя Беларусі з вялікай зацікаўленасцю сочаць за дасягненнямі навукі, літаратуры і мастацтва братніх народаў, вывучаюць багатую культурную спадчыну свайго старэйшага брата — вялікага рускага народа. На беларускай мове выдадзены многія творы класікаў рускай літаратуры, лепшыя творы сучасных рускіх савецкіх пісьменнікаў, творы пісьменнікаў братніх рэспублік. Адначасова на многіх мовах Савецкага Саюза выдаюцца лепшыя творы беларускай літаратуры.

У культурным жыцці нашай рэспублікі гэтым летам адбылося многа цікавых падзей, якія сведчаць аб узмацненні брацкіх сувязей паміж народамі нашай краіны. Мінчане з захапленнем слухалі ў Беларускім тэатры оперы і балета выступленні выдатных прадстаўнікоў рускага мастацтва, салістаў Вялікага Акадэмічнага тэатра Саюза ССР, глядзелі спектаклі старэйшага украінскага драматычнага тэатра імя М. Заньказецкай. Мінск нядаўна наведала група вядомых рускіх пісьменнікаў, якія падзяліліся з літаратурнай моладдзю нашай рэспублікі вопытам творчай працы. У сваю чаргу група беларускіх пісьменнікаў выязджала на Украіну, дзе адбыліся вечары беларускай савецкай літаратуры.

«Той, хто дружбы шукае, — у нас знойдзе яе», — гаворыць у паэме «Дзённік міру» лаўрэат Сталінскай прэміі Максім Танк. І сапраўды, міралюбівы савецкі народ падае руку дружбы кожнаму, хто шчыра жадае міру на зямлі, хто клапоціцца аб пашырэнні культурных сувязей. Іменна такая шчырая і трывалая дружба ўстанавілася і ўсё больш развіваецца паміж савецкім народам і краінамі народнай дэмакратыі. Працоўныя краін народнай дэмакратыі, што сталі на шлях соцыялізма, вучацца ў нашай краіны будаўніцтву жыцця на новых, соцыялістычных асновах. За лета ў Мінску пабывала дэлегацыя Таварыства кітайска-савецкай дружбы, якая азнаёмілася з жыццём нашых калгасаў, з працай прадпрыемстваў, з культурнымі дасягненнямі нашай рэспублікі. У Мінску выступаў ансамбль песні і танца Народнай арміі Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі. Сустрэчы з прадстаўнікамі кітайскага і карэйскага народаў выліліся ў дэманстрацыю непарушнай дружбы і адзінства савецкага народа з працоўнымі Кітая і Карэі.

У гэтым нумары часопіса мы друкуем вершы і апавяданні кітайскіх і украінскіх пісьменнікаў, прысвечаныя дружбе народаў, мірнай стваральнай працы савецкіх людзей.

Дружба паміж народамі Савецкага Саюза, адзначаў І. В. Сталін, гэта вялікая і сур'ёзная заваёва. Пакуль гэтая дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабоднымі і непераможнымі. Нам не страшны ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэтая дружба жыве і перамагае.

Вораг партыі і народа, агідны авантурыст Берыя хацеў пасеяць варожасць паміж народамі, парушыць іх моцную дружбу. Савецкі народ адказаў на злачынныя спробы Берыя яшчэ большай згуртаванасцю вакол Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі.

Няхай жыве і квітнее магутная і непераможная дружба савецкіх народаў!

**У нядзелю 19 ліпеня 1953 года адбыўся пуск гідраэлектрастанцыі «Дружба народаў».** На здымку: агульны выгляд будынка электрастанцыі.

Фота М. Мінковіча.




Да 50-годдзя КПСС

Максім ТАНК

## Райком

На плошчы горада стаіць высокі дом,
Дзе размясціўся штаб наш баявы — райком.
І да яго, нібы да сэрца жылы,
Дарогі цягнуцца і правады
З заводаў, фабрык, дзе гудуць машыны,
З прастораў ніў, дзе жыта ўскаласіла,
Дзе льецца ўдаль прыбой яго няспынны,
Дзе наліваюцца калгасныя сады.
Часамі слухаеш, як правады гудуць,
Нібыта на іх гутарку вядуць
Не толькі з сённешнім днём працавітым,
А і з наступным — комунізма днём.
Таму заўжды карціць зайсці ў райком,
Даведацца аб гэтым аб усім там.
Даведацца: калі дзе загарацца
У нас новыя агні электрастанцый,
Якія багны будзем асушаць,
Дарогі весці ў сонечныя далі,
Дамы, палацы, школы будаваць?..
І я бязмерна рад, што я не госць,
Не бестурботны у жыцці вандроўнік,
Што для мяне заўжды заданне ёсць
У нашых планах велічных, цудоўных.
Краіне трэба песня так, як сталь,
Як хлеб і вугаль... Часам да світання
Шліфуеш верша кожную дэталь,
Бо гэта — сэрца, партыі заданне.
І можа песні суджана маёй
Сягоння з мулярамі цэглу класці
Або ўступіць у непераможны бой
За мір на ўсёй зямлі, за наша шчасце.
Я ведаю адно, што песня мусіць быць
Крылатай, боездольнай і нязломнай,
Каб на любы фронт працы, барацьбы,
Яе паслаць мог сакратар райкома.

Аляксандр НАУМЕНКА

## Партыя родная нас узрасціла

Здаецца, нядаўна я хлопчыкам босым,
У штоніках выцертых бегаў з сябрамі.
Хацелася мне, у няспоўненых восем,
Абняць увесь свет наваколны рукамі!

Каня запрагаць навучыў мяне бацька,
У маці — вучыўся я працы на полі.
Жыццё зразумець ўсёй душою юнацкай
Я змог па-сапраўднаму у комсамолеǃ

На ясную вывеў мяне ён дарогу,
І я не спалохаўся цяжкай гадзіны:
Я зведаў і смутак, і боль, і трывогу,
І ўперад ішоў — па загаду Радзімы.

Ніколі ў жыцці таго дня не забуду,
Як грознай парою, пад выбухі грому,
Пайшоў я на фронт юнаком з інстытута,
Узяўшы лісток выбыцця у райкоме.

І дзе-б ні праходзіў — студэнтам, салдатам,
Праз пушчы, праз мінамі зрытае поле, —
Заўжды адчуваў сябе сілай багатым,
Бо я гадаваўся і рос ў комсамоле.

Заўжды мы — на вахце, заўжды — на заданні,
Вунь колькі кругом збудаванняў высокіх!
Сябры уздымаюцца на рыштаванні —
Атрад маладых, баявых, сінявокіх.

Тут пустка ляжала — лапух, вербалозы, —
А сёння — прывабілі птушак азёры.
На новай чыгунцы гудуць паравозы,
Кідаюць свой радасны кліч у прасторы.

На беразе тым разрываліся міны,
Ляжалі рачныя, з іржой, параходы,
А зараз тут грэбля, і клёкат турбіны,
І сажалак новых люстраныя воды...

Усё пабудована, створана намі —
Саюзам адважных, нястомных і моцных.
То мы запалілі агні над капрамі
Той шахты, што носіць імя маладосці.

А колькі яшчэ у нас поспехаў будзе!
Памножым дзяржавы магутнасць і сілу.
Жаданнямі творчасці поўняцца грудзі —
Нас партыя наша такімі ўзрасціла.

Пераклад з украінскай мовы Н. Гілевіча.



# Дарагія госці



На вокладцы гэтага нумара часопіса вы бачыце ажыўленую пару. Мастак з Шанхая па імені Хан Шай-ій танцуе з беларускай дзяўчынай Надзяй Бляўскай, даяркай калгаса «Рассвет» Бабруйскай вобласці. Яны, таксама як і многія іншыя пары, вальсіравалі проста на вуліцы, перад калгасным клубам, акружаныя ўсхваляваным, радасным натоўпам сяброў. У той дзень у «Рассвеце» гасціла вялікая група пасланцоў Народнага Кітая.

Сустрэча была вельмі сардэчнай.

Вестка аб прыездзе гасцей абляцела калгас імгненна. Раніцай лугі ў ваколіцах былі запоўнены калгаснымі рэбятамі. Кожны імкнуўся зрабіць свой букет найпрыгажэйшым.

І вось з-за павароту паявіліся і, павольна пакалыхваючыся, прайшлі сярод натоўпу два яркачырвоныя аўтобусы...

Калгаснікі сустрэлі гасцей хлебам-соллю. Былі сказаны кароткія прывітанні. Прыціхшы натоўп з асаблівай увагай слухаў кіраўніка дэлегацыі. І, нават не ведаючы кітайскай мовы, яго прамову ўсе зразумелі правільна: інтанацыя, усмешка і бляск вачэй не маглі мець двух значэнняў. А калі малады чалавек, кітаец-перакладчык, таксама ўсміхаючыся, з такім-жа бляскам у вачах, гучна пераклаў прывітанне, натоўп прышоў у такое захапленне, ад якога сумеліся нават кінаапаратары.

У адным з вялікіх пакояў памяшкання калгаснага праўлення старшыня калгаса Герой Совецкага Саюза К. Арлоўскі падрабязна расказаў гасцям аб усім, што іх цікавіла. Перакладчык перакладаў кожны сказ. Госці запісвалі ў свае блакноты і памеры зямельных плошчаў, і колькасць жывёлы, і тое, што ўсе дзеці калгаснікаў вучацца ў вялікай школе, будынак якой быў бачны з вокан праўлення...

Госці папрасілі паказаць ім калгасную гаспадарку.

На жывёлагадоўчых фермах, на птушніку і ў калгасным гаражы Арлоўскі нетаропка вёў расказ, чакаючы пакуль кожны сказ будзе перакладзены на кітайскую мову. Старонкі блакнотаў пакрываліся новымі і новымі запісамі...

Пасля некалькіх гадзін падарожжа па калгасу гасцей запрасілі ў клуб на абед. Было ўзнята нямала тостаў, але калгасным кухарам усё здавалася, што вельмі мала ўдзялялася ўвагі халаднікам і салатам, смажаным парасятам і блінцам, мёду і творагу, віну і піву.

Потым усе зноў выйшлі на вуліцу, і госці, па запрашэнню калгаснікаў, разыйшліся па калгасных хатах. Многія з іх крыху ведалі рускую мову, і то там, то тут узнікалі нешматслоўныя гутаркі.

Моладзь танцавала. Група калгасных дзяўчат праспявала некалькі народных беларускіх песень. Госці дружна адказалі сваёй песняй. Затым, нечакана для гасцей, іх зноў запрасілі ў клуб, каб прагледзець там кінафільм аб тым самым калгасе, у якім яны зараз знаходзіліся. Гісторыя перадавога беларускага калгаса прайшла перад імі на экране. Яны ўбачылі руіны, знятыя кінахронікай у першы год пасля вайны, а таксама і тое, як на месцы гэтых руін быў створаны буйнейшы ў рэспубліцы калгас.

Расставаліся ўжо на змярканні. Развіталіся доўга і сардэчна. Пакінулі адзін другому нямала аўтографаў. А калі, нарэшце, госці размясціліся па аўтобусах, нехта з хлопчыкаў даведаўся, як гучыць у перакладзе на кітайскую мову наша звычайнае «Да пабачэння!» І ўсе хлопчыкі, колькі іх ні было каля аўтобусаў, па чарзе падыходзілі да адной з адчыненых дзверцаў аўтобуса і, працягваючы руку маладому чалавеку ў яркасінім касцюме, што сядзеў з краю, гаварылі:

— Цзай-цзянь!

... Кітайскія госці агледзелі таксама новабудоўлі Мінска, пабывалі на заводах, у інстытутах, у Палацы піянераў.

У Мінску пабываў ансамбль песні і танца Народнай арміі Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі. З вялікім поспехам ён паказаў працоўным сталіцы таленавітае мастацтва карэйскага народа.

Прабыванне кітайскіх і карэйскіх гасцей у нашай рэспубліцы вылілася ў дэманстрацыю шчырай дружбы паміж народамі Беларусі, Кітая і Карэі.

**А. СЯРГЕЕЎ.**

На здымках: **1. На канцэрце ансамбля песні і танца Народнай арміі Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі. Выступае аркестр народных інструментаў.**

**2. «Дарагія сябры! Я нікалі не забуду нашу сустрэчу. Вярнуўшыся на радзіму, я раскажу ўсё, што я тут бачыў!» — напісаў у запісной кніжцы ветэрынарнага ўрача калгаса «Рассвет» Юрыя Мершчэга** (на здымку злева) **жыхар горада Харбіна Лу Ган.**

**3. Кітайскія госці сярод дзяцей калгаснікаў калгаса «Рассвет».**

**4. Група кітайскіх гасцей разам з моладдзю калгаса «Рассвет» накіроўваецца аглядаць грамадскую гаспадарку.**

Фота М. Мінковіча і А. Дзітлава.





# Пераклічка сяброў

Паўлюк ПРАНУЗА

## ПЕСНЯ АБ ДРУЖБЕ

Не жадалі маразы скарыцца,
Хоць вясна трывожыла зіму.
Зерняты галіністай пшаніцы
Адбіралі мы па аднаму.

Пра лянок спявалі кучаравы,
Гэта песня па душы была.
І пайшла пшаніца пад Варшаву
Ад калгаснай моладзі з сяла.

Кінулі на вопытнае поле
Тое зерне нашыя сябры,
Даглядалі ўсходы і палолі
З раніц да вячэрняе зары.

Узняліся гонкія сцяблінь,
Сонца ласкай саграваля іх.
Ім хапала і ў другой краіне
Цеплыні і клопатаў людскіх.

Праляцела лета,
І пад восень
К нам прыйшла пасылка у калгас:
Ліст у ёй і некалькі калоссяў,
І такія ўсе, нібыта ў нас.

Паглядзіш — не можаш надзівіцца
На вусаты колас залаты.
Будзем вечна дружбай ганарыцца,
Дарагія сёстры і браты!

Косць АВЕРЧАНКА

## РУСКАМУ НАРОДУ

Народзе-тытане! Народзе, магутны без меры,
У бітве нязломны, ты — міру і праўды аплот!
Табе мая песня, любоў майго сэрца і вернасць,
Табе мае слова, вялікай Расіі народ!
З тваімі сынамі ляжаў я ў снягах Падмаскоўя,
З тваімі сынамі ішоў па дарогах вайны.
Няхай будзе вечна свяшчэннай зямля, што крывёю,
Што чыстай крывёю твае арасілі сыны!

Няхай будзе вечна свяшчэннай сляза, што упала,
І месяц і зоры, што шчодра глядзелі з імглы,
Як гэтыя кручы, вярнуўшыся, мы абдымалі,
Як з каскі адной мы дняпроўскія воды пілі.

Няхай будзе вечна свяшчэнным мой бераг Славуцін,
Дзе светлае неба, дзе хваляў шумлівая сінь,
Дзе побач з Тарасам ляжыць незабыўны Ватуцін,
Народзе-тытане, твой чэсны і мужны твой сын!

Дарога адна ў нас і з мэтай жывем мы адзінай,
Над намі гарыць пяцікутная зорка адна.
У будучынь побач з Расіяй ідзе Украіна,
Мой край чарнаморскі, дняпроўская старана.
Народзе-тытане! Народзе, магутны без меры,
У бітве нязломны, ты — міру і праўды аплот!
Табе мая песня, любоў майго сэрца і вернасць,
Табе мае слова, вялікай Расіі народ!

Пераклад з украінскай мовы
Ул. Нядзведскага.

Алекса ЮШЧАНКА

## УКРАІНА — БЕЛАРУСЬ

Марыць цішынёй узлессе,
Сустракаючы зару...
Украіны тут Палессе,
А за ўзлессем — Беларусь.

Ранак выплыў, супыніўся
Каля волатаў-дубоў,
Што галлём перапляліся
Між сабою шмат гадоў.

Не адрозніш, дзе якога
Вузлаватыя сукі.
Кожны гонкі і разлогі,
Як браты, стаяць вякі!

Я гляджу і заўважаю:
Нават шапка ў іх адна.
Велізарная такая,
Як з зялёнага сукна!

Што адзін — з майго Палесся,
Беларусі ён сусед.
Прабудзілася узлессе,
Прывітала сонца след.

Зашумела, заспявала...
Колькі фарбаў яркіх тут!
Лета рвецца ад прычалу
Аздабляць палескі кут.

На узлессі між суседзяў
Колькі галасоў жывых:
«Про калину» — ад мяне йдзе,
«Пра каліну» — йдзе ад іх.

Мы навечна паўплятали
У сяброўскія вянкі
Песні светлыя Купалы
І Шэўчэнкавы радкі.

Слухаць выйду я на ўзлессе,
Сустракаючы зару,
Як адну спяваюць песню
Украіна, Беларусь.

Пераклад з украінскай мовы
А. Астрэйкі.

ВЭЙ ЯН

## Я ЗНОЎ З ТАБОЙ, АЙЧЫНА!

Ялуцзян!* І цягнік мой, быццам
Птах імклівы, — ляціць, імчыцца.
Я з табой ізноў, Айчына,
Каб і радасць і боль дзяліць!
Я твой голас пяшчотны чую,
Ты далёкага клічаш сына,
Каб да сэрца яго прытуліць.

Ялуцзян! І цягнік мой, быццам
Птах імклівы, — ляціць, імчыцца.
Хіба нельга хутчэй ляцець!
Хіба шчырага ён не можа
Сэрца сынава зразумець!

Ялуцзян! Мой цягнік імчыцца,
Дзе пралегла рака граніцай
Паміж рознымі берагамі.
Што ў іх рознага? Глеба хіба
Тут і там дорыць іншыя ўсходы?
Ці па-рознаму працу любяць
Гэтых двух берагоў народы?

Адкажу я:
Усходні бераг —
Кроў... руіны, дзе гора галосіць.

А кітайскі, заходні бераг...
Залатыя даспелі калоссі —
Усім адмерана поўнай мерай.

Адкажу я:
І днём на ўсходзе
У зямлянкі не гляне сонца,
А на захадзе нават увечары
Гэтак светла, нібыта сонца
Ззяе ў кожным з вячэрніх агнёў!

О Радзіма!
Усходні бераг
Прыгадаў я, і вось мае сэрца
У Карэю ляціць ізноў...

Ялуцзян! Мой цягнік імчыцца...
Глянь у бацькаўшчыны аблічча —
Угледайся пільней, таварыш,
Як выростае старана!
Гэты год пераможна-вялікі —
Пяцігодкі першай вясна...
А у родным маім Кітаі
Мкне бамбук з глебы ў час вясны.
І як парасткі-пікі бамбука
Завадскія растуць каміны.

У народзе я чуў не раз,
Што дзіця сваёй маці не кіне.

Дай мне веры, Айчына,
У баях
Аб табе былі ўсе мае думы!
І савецкая песня адна
Для мяне, нібы песня пра нас.

А у песні спявалася той:
Маці сына праводзіць ў дарогу, —
Сын ідзе за Радзіму на бой
З верай моцнаю у перамогу.

Сэрца,
Думы
У той песні мае —
Да пляча да твайго прыпадаю,
І калі запяваю яе —
Я смялейшага ў бітве не знаю.

Ялуцзян! І цягнік мой, быццам
Птах імклівы, — ляціць, імчыцца.
Зноў з табою я, маці Айчына,
Зноў пачуцці не знаюць слоў.
Вось ужо абняла ты сына,
Вось я плачу ад шчасця,
А сэрца
У Карэю ляціць ізноў.

Пераклад С. Дзяргая.

* Ялуцзян — рака на граніцы паміж Кітаем і Карэяй.



**Павел Бірыч** (у цэнтры) **і Васіль Бондар за выпускам чарговага нумару калгаснай насценгазеты, якую яны паказваюць кавалю І. С. Смалю** (крайні злева).

**А. РЫЛЬКО**

# СТУДЭНЦКАЕ ЛЕТА

**Нарыс**

Фота А. Дзітлава.

У тэхнікумах, вучылішчах і вышэйшых навучальных установах закончана экзаменацыйная сесія. Прышло студэнцкае лета. Сотні тысяч юнакоў і дзяўчат пакінулі вучэбныя карпусы, светлыя інтэрнаты і на цэлых два месяцы паехалі дамоў, частка з іх у вёскі, у родны калгас, каб адпачыць, набрацца новых сіл, дапамагчы сваім землякам у рабоце.

Вось вузкакалейная чыгунка Наваельня — Любча. Паравозіксвістун весела коціць за сабой каля дзесяці вагончыкаў. У вокнах цягніка — пераважна моладзь, хлопцы і дзяўчаты. Машыніст з ходу гукае свайму знаёмаму:

— Студэнцкі састаў! Вяду дакладна па графіку! — і машыніст смяецца. Яму прыемна, што сёння вязе такіх жыццерадасных, цікавых пасажыраў, — усе вагончыкі гудуць, залiваюцца песнямі, смехам. Але машыністу бывае з гэтымі неўгамоннымі пасажырамі і клопат, — на крутых паваротах ці пад'ёмах, калі даводзіцца вельмі збаўляць хуткасць, таго і глядзі, каб не згубіць пасажыраў, — адзін саскоквае на хаду нарваць палявых кветак, а другі гуляе навыперадкі з паравозам!

Голасна гукае паравозік, паведамляе навакольным вёскам, што едуць на пабыўку студэнты. А для вёсак іх прыезд — свята. Раней, пры панскай Польшчы, нават марыць не мог працоўны чалавек аб тым, каб яго дзіця магло атрымаць хаця-б сярэднюю адукацыю, а цяпер, пры савецкай уладзе, у кожнай вёсцы ёсць студэнты, дзеці працоўных сялян, людзі, якія атрымліваюць вышэйшую адукацыю. Напрыклад, у вёсцы Шчорсы Любчанскага раёна да вызвалення Заходняй Беларусі была толькі пачатковая школа, не было ніводнага чалавека з сярэдняй адукацыяй, большасць дзяцей зусім не вучылася ў школе. Зараз там — дзесяцігодка, дзе навучаецца чатырыста дваццаць чатыры вучні. Сёлета атэстат сталасці атрымалі трыццаць восем вучняў гэтай школы. Многа юнакоў і дзяўчат са Шчорсаў навучаецца ў інстытутах і тэхнікумах Навагрудка, Гродна, Баранавіч, Пінска, Львова, Мінска, Ленінграда і іншых гарадоў Савецкага Саюза. Пры бліжэйшым знаёмстве з гэтай вёскай ствараецца ўражанне, што ў кожным чацвертым доме жыве студэнт. Дзеці былых батракоў, былой вясковай бедната становяцца высокакваліфікаванымі інжынерамі, навуковымі супрацоўнікамі, урачамі, педагогамі...

З Любчы ў Шчорсы студэнты заўсёды прыязджаюць на калгасйай аўтамашыне. Пад высачэзнымі дрэвамі ля праўлення калгаса спыняецца машына, выскакваюць з кузава госці і пачынаюцца вітанні з дарагімі землякамі, роспыты, з аднаго боку пра горад, з другога — пра родны калгас. Старшыня калгаса дэпутат Вярхоўнага Совета СССР Анна Трафімаўна Кумец радасна, па-мацярынску вітае гасцей.

— Даўно мы вас чакаем, харошыя, — кажа Анна Трафімаўна, вітаючыся за руку з кожным, хто прыехаў. — З вамі весялей жывецца. Адпачніце добра, а там, глядзіш, і работа ў нас знойдзецца, дапаможаце крыху...

Адпачыць у Шчорсах ёсць дзе: рукой падаць — вялікі былы графскі парк ды і амаль каля кожнага дома невялічкія садочкі са спелай смародзінай, парэчкамі і вішнямі. А лепш за ўсё — на Нёмане! Вунь ён, прыгажун, нясе свае светлыя воды ў родную далячынь. Па берагах яго — заліўныя лугі, мора рознакаляровых кветак.

Але пакуль на Нёман, прыехаўшыя адразу заўважаюць цудоўную змену ў сваёй вёсцы — па вуліцах стаяць роўнымі шарэнгамі высокія абгабляваныя слупы, на правадах — нязменныя ластаўкі, і далей, з вёскі, слупы бягуць праз роўны луг да рэчкі Сервеч, дзе будуецца калгасная электрастанцыя.

Цікавая гісторыя гэтай станцыі. Калгаснікі з любоўю часта называюць яе студэнцкай. Назва такая — не выпадковая...

Летась, прыехаўшы на летнія канікулы дамоў, студэнты Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна Міхаіл Сазановіч, Канстанцін Нагулевіч і Аляксандр Рубан, параіўшыся між сабой, вырашылі аказаць свайму калгасу канкрэтную дапамогу — спраектаваць гідраэлектрастанцыю. Але дзе яе будаваць? На Нёмане? Мясцовы калгас імя Варашылава хоць і мільянер, аднак не здужае перагарадзіць плацінай такую шырокую раку. Пабудаваць на рэчцы Сервеч? Каб даць адказ на гэтае пытанне, трэба было зрабіць вялікія даследчыя работы, даведацца аб запасах вады ў Сервечы, аб грунце яе берагоў і іншае. Сябры, будучыя інжынеры, неадкладна ўзяліся за работу.

Атрымаўшы патрэбныя даныя для праектавання электрастанцыі, Міхаіл, Канстанцін і Аляксандр пайшлі да старшыні калгаса.

— Анна Трафімаўна, — сказалі яны, — а што, каб нашаму калгасу электрастанцыю...

— Мілыя вы мае! — усклікнула старшыня. — Ды яна мне кожную ноч сніцца, спаць не дае!

— Мы даследавалі, на Сервечы можна пабудаваць.

— А якой магутнасці?

— Кілават на дваццаць пяць.

— Такая нашаму калгасу малаватая, — адказала Анна Трафімаўна. — Каб разоў у пяць большую, далі-б энергію ва ўсе грамадскія пабудовы, ва ўсе дамы калгаснікаў...

— Станцыя на сто дваццаць пяць кілават будзе дорага каштаваць...

— Мільёнчыкі паўтара хопіць? — і старшыня ўсміхнулася, гледзячы на хлопцаў. — А то можна і больш, у нашай гаспадарцы, самі ведаеце, грошыкі водзяцца...

Зрабіўшы больш дэталёвыя даследаванні, сябры спраектавалі гідраэлектрастанцыю на 125 кілават... Сыны былых батракоў электрыфікуюць родную вёску, іх бацькі маюць магчымасць тра́ціць на гэта каля паўтара мільёна рублёў! Усё гэта — не мары, а ява, хоць і падобна яна на цудоўную казку.

Студэнты дапамагаюць роднаму калгасу і ў палявых работах, і ў наладжванні культурна-масавай работы. Адпачынак без работы — не адпачынак. Сенаўборка... Ды што лепшае можна прыдумаць, як выйсці ў росны луг з касой і размахнуцца на двухметровы пракос! З апетытам папрацуеш, з апетытам і паабедаеш, адпачнеш на духмяным мурагу.

**Міхаіл Моніч** (злева) **дапамагае свайму бацьку — дарожнаму майстру — А. К. Монічу ў будаўніцтве маста.**





Вера Калбаска (злева) і Надзя Вайтовіч вяртаюцца з палявых работ.

Дзяўчаты, вядома, касу не возьмуць у рукі, гэта работа ім не зусім па плячу. Затое акучваць бульбу, зграбаць сена, вязаць снапы ці палоць — адна любата працалюбівай дзяўчыне, той, якая не хоча быць беларучкай.

Вось Вера Калбаска і Надзя Вайтовіч. Вера закончыла сёлета Пінскі настаўніцкі інстытут, паедзе працаваць у адну з вясковых школ на Піншчыне, адначасова будзе вучыцца далей завочна. Надзя закончыла Навагрудскае педвучылішча, атрымала там атэстат з адзнакай і паступае сёлета ў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя В. І. Леніна. Сяброўкі часта выходзяць на працу ў калгас. Працуюць з песнямі. А песень яны ведаюць шмат!

Міхаіл Моніч займаецца іншай справай. Ён студэнт Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна і можа спраектаваць мост. Ён дапамагае ў гэтым свайму бацьку Аляксандру Канстанцінавічу, які працуе дарожным майстрам. Масты атрымліваюцца моцныя, прыгожыя, зробленыя не абы як, а па інжынерскаму разліку. Такія масты і патрэбны калгаснай вёсцы, каб камбайн ці трактар мог па іх свабодна прайсці, ды і калгасныя аўтамашыны павінны хутка бегаць па цяністых ад прысад дарогах. Вось Міхаіл і выйшаў разам з бацькам а восьмай гадзіне раніцы на работу. Вымяраюць колькасць лесаматэрыялу, робяць разлікі.

На наша пытанне, куды марыць Міхаіл паехаць працаваць пасля заканчэння інстытута, ён не без гонару адказаў:

— Я — комсамолец, і куды пашле мяне Радзіма, там і пастараюся аддзякаваць яе за добрае жыццё, за права на вучобу.

Павел Бірыч вучыцца таксама ў Беларускім політэхнічным інстытуце імя І. В. Сталіна. Ён дапамагае свайму калгасу ў іншым. Маючы здольнасці мастака-карыкатурыста, Павел у інстытуце працуе адказным рэдактарам сатырычнай насценгазеты «Аса», якая сярод студэнтаў карыстаецца вялікім аўтарытэтам. Вось ён са сваімі таварышамі Васілём Бондарам, студэнтам Гродненскага педінстытута, і Міколам Паўловічам, студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна, вырашылі перанесці «Асу» ў свой калгас, назваць сатырычную насценгазету так: «Аса ў Шчорсах». А ўжаліць ёй ёсць каго: дзе-небудзь у закутку прытуліўся гультай, абібок. Акрамя таго, у газеце адводзіцца месца і сяброўскім шаржам: у калгасе многа добрых, прыкладных людзей — стаханаўцаў. Аднойчы, у абедзенны перапынак, хлопцы прышлі да калгаснага каваля Івана Сільвестравіча Смаля. Сказалі, што вырашылі падараваць яму ў газеце сяброўскі шарж, і тут-жа, не марудзячы, Павел зрабіў з натуры шарж, патрэбны-ж подпіс быў падрыхтаваны раней. Выкарысталі народную прымаўку, у якой гаворыцца пра чалавека — добрага майстра: «І жнец, і шавец, і на дудзе ігрэц». У Івана-ж Сільвестравіча сапраўды залатыя рукі!

Вечарамі моладзь калгаса збіраецца ў сельскі клуб. Тут часта можна пачуць даклады, лекцыі на самыя розныя тэмы. Чытаюць іх студэнты.

Добра пастаўлена ў калгасе мастацкая самадзейнасць. Часта на сцэне клуба выступаюць харавы і танцавальны гурткі. Выступаюць яны па-майстэрску і не выпадкова маюць тры граматы ад раённага аддзела культасветустаноў. Поспех мастацкай самадзейнасці тлумачыцца тым, што ёй пастаянна дапамагаюць студэнты, самі ўдзельнічаюць у самадзейнасці.

У калгасе імя Варашылава больш сарака студэнтаў. Усе яны комсамольцы, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскай рабоце ў навучальных установах, а таксама дома, у калгасе.

Калгас імя Варашылава з кожным годам множыць свае багацці. Ёсць усе падставы меркаваць, што сёлета там атрымаюць грашовы даход памерам у 2,5 мільёна рублёў, ураджай збожжавых у сярэднім па 20 цэнтнераў з кожнага гектара і г. д. Ва ўсіх гэтых здабытках ёсць доля і мясцовых студэнтаў-працаўнікоў.

Адна з лепшых спартсменак калгаса імя Варашылава комсамолка Надзя Кісель. Сёлета яна закончыла дзесяцігодку і паступае на вучобу ў ВНУ.



# АД ПАРАВОЗА ЧАРАПАНАВЫХ ДА ЭЛЕКТРАВОЗА

Наша краіна — вялікая чыгуначная дзяржава. Па працягласці чыгуначных шляхоў, па аб'ёму перавозак, па тэхнічнай аснашчонасці транспарту СССР займае першае месца ў свеце. Якая чыгунка якой краіны можа параўнацца, напрыклад, з нашай Вялікай Транссібірскай магістраллю, што працягнулася амаль на 10 тысяч кіламетраў — ад Масквы да берагоў Ціхага акіяна!

Больш ста год таму назад, у 1851 годзе, была пабудавана першая ў Расіі чыгунка Пецербург — Масква. Ужо ў той час гэта была самая буйная ў свеце двухпутная магістраль. На ёй было ўзведзена 272 штучныя пабудовы, у тым ліку 184 масты. Такіх будоўляў не ведала ў той час ні Еўропа, ні Амерыка. Тут упершыню былі выкарыстаны паравыя «землекапальныя машыны» (экскаватары). Кожная з такіх машын замяняла працу 150 рабочых. Інжынер гэтай чыгункі выдатны рускі вынаходца Б. С. Якобі вынайшаў першы ў свеце літарадрукарскі тэлеграфны апарат. Другі інжынер чыгункі Я. Н. Гардзіенка стварыў першы апарат для механічнай цэнтралізацыі стрэлак і сігналаў.

Доўгі час лічылася, што раскосная сістэма пабудовы маставых фермаў належыць амерыканцу Гаў. Выдатны рускі вучоны-мастаўік Д. І. Жураўскі давёў, што гэтая сістэма распрацавана не амерыканцам, а рускім вучоным І. П. Кулібіным. За сваю класічную працу аб мастах раскоснай сістэмы Жураўскі атрымаў у свой час Дзямідаўскую прэмію.

Наша краіна — радзіма паравозабудавання. Шмат часу мінула з той пары, як выдатныя рускія ўмельцы бацька і сын Чарапанавы сканструявалі і пабудавалі першую ў свеце машыну, якая рухалася па спецыяльных чыгунных рэйках з дапамогай пары. Але прынцыпы, пакладзеныя Чарапанавымі ў аснову пры канструяванні сваёй машыны, і да нашых дзён з'яўляюцца кіруючымі для паравозабудаўнікоў усяго свету.

На нашых чыгунках працуюць магутныя таварныя і пасажырскія лакаматывы, вырабляемыя айчыннымі заводамі. З гэтых прадпрыемстваў асабліва вызначаецца Каломенскі паравозабудаўнічы завод імя В. В. Куйбышава. Першы паравоз вышаў з яго варот 80 год таму назад. З таго часу каломенцы далі чыгуначнаму транспарту тысячы і тысячы лакаматываў, канструкцыя якіх бесперапынна паляпшаецца, удасканальваецца.

Зараз на чыгуначных магістралях, як вядома, працуюць пасажырскія паравозы серый «СУ» і «ІС», таварныя серый «ФД», «2—3—2», «Л». Усе яны зроблены на Каломенскім заводзе. Выдатныя гэта машыны! Але на змену ім прыходзяць ужо новыя, больш дасканалыя.

Канструктары завода на чале з лаўрэатам Сталінскай прэміі Л. С. Лебядзянскім стварылі новы звышмагутны таварны лакаматыў так званага сучлянёнага тыпу. Паравозы, якія выпускаюцца да гэтага часу, — і таварныя, і пасажырскія, — маюць па дзве паравыя машыны. На новым таварным лакаматыве — чатыры паравыя машыны: па дзве з кожнага боку. Гэта сапраўдны паравоз-асілак! Ён можа на высокай хуткасці вадзіць паязды вагой да 3500 тон.

Усё большыя памеры набывае на чыгуначным транспарце электрыфікацыя. На электрычную цягу ўжо зараз пераведзены некалькі важных магістральных ліній на Урале, у Падмаскоўі, Закаўказзі Прыдняпроўі, Кузбасе. Тут працуюць дасканалыя айчынныя электравозы.

Электрычная цяга на чыгуначным транспарце мае вялікую будучыню. Яе значэнне ў тым, што яна дазваляе ў паўтара-два разы павялічыць перавозкі, падняць хуткасць руху амаль на 20 працэнтаў, павялічыць вагу паяздоў на 40 — 50 працэнтаў, знізіць сабекошт перавозак. Вялізнай перавагай электрацягі з'яўляецца і тое, што яна значна павышае культуру ўсёй работы транспарту. Знікае дым, копаць, вугальны пыл, шлак,— звычайныя і даволі непрыемныя спадарожнікі паравой цягі.

Я. КАШЧЭНЯ.

Астап **ВІШНЯ**

# ВАСІЛЬ ІВАНАВІЧ

**Апавяданне**



Мал. Ю. Пучынскага.

1

— А я вось і прышоў! Добры дзень!

— Здароў, Васько! Сам прышоў?

— Сам.

— І не спалохаўся?

— А чаго мне палохацца?

— А ваўкі-ж у кукурузе ёсць! Ты хіба не чуў?

— А я ваўкоў не баюся! Я чытаў у кніжцы, што ваўкі баяцца чалавека, і тады толькі могуць напасці, калі галодныя. А галодныя яны толькі ўзімку! А цяпер лета!

Перад намі стаяў бялявенькі з блакітнымі-блакітнымі вачыма хлопчык, у сіняй майцы і ў чорных трусіках.

Мы з урачом Іванам Кірылавічам хадзілі па высокім беразе рэчкі Аскола, за Турэцкаю магілай, шукаючы кусты шыпшыны.

Іван Кірылавіч вельмі любіць кветкі. І не толькі любіць, а глыбока ў іх разбіраецца, — у яго каля вясковай бальніцы цудоўны кветнік, там гладзіолусы, і браткі, і астры, і вяргіні, і леўкоі, і гваздзікі, і кручаныя панічы, і каны, і ногцікі...

А якія ў яго траянды! І белыя, і ружовыя, і чорныя, і цёмначырвоныя, бардовыя... Вялікія-вялікія і пышныя.

А ведаеце, як ён гадуе траянды?

Увосень ён ідзе ў лес, выкопвае куст шыпшынніку, садзіць яго ў сваім кветніку каля бальніцы і прышчэпвае на ім культурныя траянды...

Вось і сёння мы з ім пайшлі ў лес, што разлёгся над Асколам, шукаць шыпшыну...

Як-жа там хораша, над Асколам!

Паміж густым сітняком блішчыць срэбрана-блакітная рэчка, што падзялілася тут ажно на тры рукавы, у далечыні сінеюць азёры, — і скрозь-скрозь, колькі ахопіць зрок, па шырокім зялёным рэчышчы — стагі зялёнай атавы...

Вунь там, на супрацьлеглым беразе, — сяло, а за сялом, аж да самага далягляду зелянее азімая пшаніца...

Злева — далёка-далёка, дзе неба з зямлёю зыходзіцца, — кукурузны лес, і па ёй, па кукурузе, белыя пялёсткі параскіданы — калгасніцы ў беленькіх хустках кукурузу ломяць...

Справа за сялом на гары вятрак крыллямі махае, а поруч камбайн сланечнікі «косіць-малоціць»...

З таго боку над рэчкаю — чыгунка.

З-за сасновага лесу выскачыў паравоз, весела загукаў і паімчаў далей, цягнучы за сабою вялізны састаў паражняку: па вугаль пабег на Данбас.

Іван Кірылавіч, прышчэпліваючы да шыпшыны галінку траянды, усміхаўся:

— Прышчаплю ды і пакіну тут, прыду і прыкапаю ў зямлі на зіму. Вось будуць людзі дзівіцца вясной, калі на простай шыпшыне зацвітуць цудоўныя траянды!

І, памаўчаўшы, дадаў:

— Быў-бы ў мяне час, я-б на ўсіх кустах шыпшыны ў лесе траянды папрышчэпліваў! Якая прыгажосць!

Вялікі кветкалюб і вялікі летуценнік сівагаловы Іван Кірылавіч!

У гэты час і з'явіўся перад намі блакітнавокі Васько.

— А я па качку да вас, Іван Кірылавіч! — сказаў Васько.

— Выдатна, — адказаў Іван Кірылавіч. — Пойдзем дахаты, забярэш сваю качку!..

Іван Кірылавіч аднойчы быў у дзіцячым доме, дзе жыў Васько, і падараваў хлопчыку качку. Васько якраз па яе і прышоў.

2

— Дык цябе Васьком завуць? — загаварыў я з хлопчыкам, калі мы вярталіся з лесу.

— Васьком. Васіль Іванавіч Шумейка.

— А гадоў табе колькі?

— Дзевяць!

— А тата і мама твае дзе?

Васько з сумам адказаў:

— А я ні таткі, ні мамы не памятаю. Тата з вайны не вярнуўся, а маму бомбай забіла... Год мне тады быў.

— Як-жа ты рос?

— Мяне бабуля ўзяла, я ў яе і вырас. Бабуля Наталка... Бабулі калгас дапамагаў, бо яна ўжо вельмі старэнькая. А потым, як я падрос, у дзіцячы дом мяне ўзялі...

— А бабуля дзе?

— А бабуля дома. Дзіцячы дом не ў тым сяле, дзе бабуля жыве. Бабуля жыве ў сваёй хаце, я да яе штотыдня хаджу... Яна яшчэ і цяпер, калі я прыходжу да яе, казкі мне расказвае! Ой, колькі я казак ведаю!

— А як у дзіцячым доме жывецца?

— Вельмі добра! У школу ўжо хаджу, у другі клас.

— А вучышся як?

— А я выдатнік! Усе пяцёркі! А ў мяне ў дзіцячым садку трусікі ёсць! Ажно дзве пары, і маленькіх — дванаццаць! Блакітныя трусікі! Я для іх сам і клетку зрабіў. І курачка з пеўнікам жывуць! І — галка!

— Якая галка?

— Ды сапраўдная галка! Птушка! Такая ручная-ручная! Як паклічу яе: «Галя, Галя!» — яна ляціць і садзіцца мне на плячо або на галаву! Вельмі цукар любіць! Сядзе на плячо і адразу: «Кррра! Дай цукру!»

— Дзе-ж ты яе ўзяў?

— Упала з гнязда! Я яе знайшоў і выкарміў! І ні да каго ў рукі не ідзе, толькі да мяне. А я ў дзіцячым доме і музыцы вучуся. На піяніна. Настаўніца кажа, што я, калі буду вучыцца, добра буду іграць.

— А табе хочацца навучыцца добра іграць на піяніна?

— Хочацца! Я і на баяне ўмею! Я іграю, а Галя мая ходзіць і падскоквае. Танцуе! Мне вельмі хочацца навучыць танцаваць сваю галку і курачку з пеўнем. Неяк да нас у клуб прыязджаў цырк, я там бачыў, як сабачкі танцуюць пад музыку. Дрэсіраваныя. А ці можна навучыць танцаваць галку або пеўніка?

— Ты-ж кажаш, што твая Галя танцуе?..

— Хлопцы смяюцца, кажуць, што яна зусім не танцуе, а проста сабе падскоквае. А мне здаецца, што яна нібы да музыкі прыслухоўваецца і танцуе...

— А ты сам умееш танцаваць? — спытаўся я ў Васька.

— А я-ж у танцавальным гуртку! Я многа танцаў ведаю: і польку, і кракавяк, і казачка, і гапака, і лезгінку. За лезгінку я нават прыз атрымаў! У раёне на вечары самадзейнасці танцаваў. Мяне кніжкай прэміравалі — «Казкі» Пушкіна. А вы бачылі дрэсіраваных птушак?

— Бачыў, — кажу, — дрэсіраваныя папугаі, cарокі, галкі, жоравы...

— І танцуюць?

— Бачыў толькі жорава, як ён танцаваў. Адзін дзядуля яго навучыў. Дзядуля іграе на жалейцы, а ён танцуе...

— А не бачылі, каб галкі танцавалі?

— Галак не бачыў.

— Вось мне хочацца галку танцаваць навучыць. І пеўня з курачкаю. І качку. Вось вазьму ў Івана Кірылавіча качку і таксама буду вучыць яе. Я вельмі люблю жывёлу дрэсіраваць! У мяне і трусікі вучоныя: цераз рукі мае скачуць! Я думаю, што я птушак навучу!..

— Паспрабуй! Цярплівасці, Васько, трэба шмат! Можа і вывучыш. Што, можа, ты хочаш цыркавым артыстам быць, дрэсіроўшчыкам?

Васько неяк загадкава ўсміхнуўся:

— А хіба гэта дрэнна? — спытаўся.

— Чаму, — кажу, — дрэнна! Наадварот, вельмі добра: вывучаць характар жывёліны, яе асаблівасці, яе магчымасці... Вучыць яе розным штукам... Толькі мучыць жывёліну не трэба. Чытаў пра дзядулю Уладзіміра Дурава? У яго цэлы тэатр з розных жывёлін быў.

— Чытаў! Я ўсё пра Дурава прачытаў! Ог, каб быць такім, як Дураў!..

— А ты заўважыў, што Дураў ніколі не біў жывёлу, ён толькі ласкаю вучыў! Ласкай ды ўзнагародаю — кавалачкам чагосьці смачнага!

— І я сваю Галю, калі яна да мяне прылятае, або нешта такое зробіць, заўсёды цукрам частую! Не, я і галку, і пеўніка з курачкай буду дрэсіраваць, і качку! Я — цярплівы...

Калі мы прышлі дахаты, Іван Кірылавіч запрасіў Васька абедаць. Ён адмовіўся.

— Э, не, пабягу! Я адпрасіўся ўзяць качку, а ўсе пайшлі дапамагаць калгасу збіраць кукурузу. Я павінен іх дагнаць і перагнаць на збіранні кукурузы. Я найбольш даўганосіка на бураках назбіраў, найбольш кукурузы вясной прапалоў, найбольш каласкоў назбіраў... Я і на збіранні кукурузы хачу быць першым! Да пабачэння!

— Бывай, Васіль Іванавіч! Не выпусці качку!

— Не выпушчу! — гукнуў Васько і подскакам падаўся з горкі на дарогу.

### 3

Неяк прышоў да мяне ліст ад старшыні калгаса з таго сяла, дзе ў дзіцячым доме жыве блакітнавокі мой таварыш Васіль Іванавіч Шумейка.

Старшыня піша:

«Вельмі вас прашу купіць у Кіеве чаравікі з канькамі, лыжы і лыжны касцюм. Праўленне калгаса вырашыла прэміраваць Васька Шумейку за найлепшыя паказчыкі ў працы па збору даўганосіка на бураках і за збіранне каласкоў і кукурузы. Іншыя падарункі для дзяцей мы знайшлі і тут, у сябе ў раёне, а канькоў, лыжаў і лыжных касцюмаў няма. На Кастрычніцкія святы наладзім сход калгаснікаў разам з нашымі цудоўнымі малымі сябрамі, выхаванцамі дзіцячага дома, дзе будзем прэміраваць іх за дапамогу нам...»



Я купіў і паслаў.

А пасля Новага года атрымаў ліст ад урача Івана Кірылавіча.

«Вітаю з Новым годам! Быў у мяне на Новы год, — піша Іван Кірылавіч, — Васіль Іванавіч Шумейка! Прыбег на лыжах, у новенькім чырвоным лыжным касцюме! Бяжыць, расчырванеўся, а на плячы ў яго сядзіць галка. Кажа, што галка ўсё-ж такі танцуе пад музыку, а качка ніяк не хоча, але я яе, — кажа, — усёроўна навучу! Ой, будзе з нашага Васіля Іванавіча другі Дураў! Ой будзе!»

. . . . . . . . . . . . . . .

А што вы думаеце?

Можа калі-небудзь нам давядзецца ўбачыць вялікую афішу, на якой будзе намаляваны партрэт Васіля Іванавіча Шумейкі, з галкай на плячы, і напісана:

«Вядомы, арыгінальны дрэсіроўшчык жывёл і птушак Васіль Іванавіч Шумейка».

Пераклад з украінскай мовы Янкі Брыля.

П. ГЕРАСІМОВІЧ

# СВЕТЛЫЯ МАРЫ

Першага верасня 1947 года пасля перапынку, выкліканага вайною, дзверы Мінскага мастацкага вучылішча былі зноў адчынены для таленавітай моладзі рэспублікі. За кароткі час яго скончылі 97 юнакоў і дзяўчат — дзеці рабочых, калгаснікаў і служачых. Найбольш таленавітая моладзь пасля вучылішча прадаўжае вучобу ў вышэйшых мастацкіх навучальных установах Масквы і Ленінграда. Некаторыя пасля вучобы накіроўваюцца на работу ў раённыя і абласныя цэнтры краіны, у школы, клубы і дамы культуры.

На двух аддзяленнях вучылішча — мастацка-педагагічным і скульптурным — займаецца 117 студэнтаў. Тут ёсць моладзь, якая прайшла вялікую школу Айчыннай вайны, прымала ў ёй непасрэдны ўдзел.

З гэтага ліку студэнтаў асабліва вылучаецца сваімі здольнасцямі Барыс Аракчэеў.

Сын калгасніка Яраслаўскай вобласці, ён з маленства марыў займацца любімай справай — выяўленчым мастацтвам. Але калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, семнаццацігадовым юнаком у 1943 годзе Барыс пайшоў на фронт. Краіна была тады ў небяспецы, і Аракчэеў разам з усім народам са зброяй у руках адстойваў сваю будучыню, шчасце совецкіх людзей. У вольную хвіліну ён браўся за аловак і маляваў. Яго франтавыя накіды прасякнуты патрыятычным настроем. Юны мастак марыў пасля вайны пасапраўднаму заняцца мастацтвам.

У 1948 годзе жаданне Барыса збылося: ён стаў студэнтам Мінскага мастацкага вучылішча. У студэнцкім калектыве юнак хутка заваяваў павагу сваёй сумленнасцю і стараннасцю ў вучобе, сваім актыўным удзелам у грамадскім жыцці. У яго малюнках і работах па жывапісу праявілася цвёрдасць рукі, добрая назіральнасць, уменне знаходзіць у натуры галоўнае і найбольш істотнае. Акрамя акадэмічных заняткаў, Аракчэеў шмат увагі аддаваў самастойнай працы, разумеючы, што мастаку патрэбны багатыя веды і адменнае прафесіянальнае майстэрства, якія набываюцца толькі вялікім намаганнем.

Для сваёй дыпломнай карціны «Сустрэча пераможцаў» Аракчэеў абраў тэму, якую добра адчуў і зразумеў: салдат вярнуўся з фронта дамоў; совецкага воіна з радасцю сустракае старая маці, родныя і знаёмыя.

Тэма зусім не новая ў выяўленчым мастацтве. Але мастак знайшоў для яе сваю ўласную мову, па-свойму зразумеў і адлюстраваў гэтую тэму.

У невялікай карціне шмат аўтабіяграфічнага, узятага з уласнага жыцця.

Кампазіцыя карціны складаная: у ёй шмат фігур, і па сваёй задуме яна патрабуе вопыту і майстэрства. З гэтымі цяжкасцямі Аракчэеў справіўся паспяхова, выкарыстаўшы ўсе свае магчымасці.

Сярод выдатнікаў вучобы адно з першых месц належыць Фёдару Бараноўскаму. Пасля дэмабілізацыі з арміі ён пайшоў вучыцца да мастака В. Цвірко. У таленавітага жывапісца Фёдар атрымаў першыя веды ў галіне выяўленчага мастацтва. Але расло жаданне аддацца глыбей любімай справе, разам з набыццём навыкаў у малюнку і жывапісу авалодваць і іншымі ведамі навукі і мастацтва. Аднак юнаку нехапала яшчэ ведаў па агульнаадукацыйных прадметах. Прышлося пайсці ў вячэрнюю школу і толькі пасля яе заканчэння паступіць у мастацкае вучылішча. У вучылішчы яго, як выключна здольнага студэнта, хутка заўважылі настаўнікі і таварышы. Усе натурныя заданні ён выконваў хутка і толькі на выдатна. Малюнак, жывапіс і кампазіцыя даваліся яму лёгка. Лепш за ўсё здольнасці Ф. Бараноўскага выявіліся ў дыпломнай карціне «Провады студэнта». Сюжэт і кампазіцыя яе навеяны ўласным імкненнем прадаўжаць далей вучобу ў мастацкім інстытуце.

Цяга совецкай моладзі да мастацтва асабліва ярка відаць на прыкладзе вучобы Леаніда Чарняўскага, якому давялося прайсці цяжкі і складаны жыццёвы шлях.

У 1941 годзе восемнаццацігадовым юнаком Л. Чарняўскі добраахвотна пайшоў на фронт. У сакавіку 1942 года ў жорсткім баі з ворагам ён быў цяжка паранены і страціў правую руку і вока.

Пасля выхаду са шпіталю ён ужо быў студэнтам педагагічнага інстытута, працаваў настаўнікам. А калі Беларусь была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Чарняўскі прыехаў у родныя мясціны, на Лагойшчыну. Неўзабаве бацькі яго атрымалі прызначэнне ў Мядзельскі раён Маладзечанскай вобласці. Леанід быў разам з сям'ёй. Тут ён працаваў інспектарам лесааховы, што ў значнай меры вырашыла далейшы жыццёвы шлях юнака.

Любоў да навакольнай прыроды, захапленне яе харaством, непераадольная цяга выявіць настроі сваёй душы, пачуцці свайго сэрца прывялі яго ў мастацкае вучылішча.

Маляваць левай рукой Леаніду было цяжка. Трэба было набываць навык пальцаў. І там, дзе нехапала фізічных магчымасцей, дапамагала ўпэўненасць, вынаходлівасць.

За час навучання ў вучылішчы Л. Чарняўскі праявіў сябе выключна здольным у малюнку, жывапісу і кампазіцыі. Заўсёды дысцыплінаваны, ён жыве інтарэсамі калектыва, прымае актыўны ўдзел у грамадскай працы.

Для сваёй дыпломнай работы «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач» Л. Чарняўскі выкарыстаў багаты матэрыял рэвалюцыйных падзей у Заходняй Беларусі, калі яна знаходзілася пад прыгнётам белапанскай Польшчы.

Гісторыя паўстання захапіла Л. Чарняўскага ў час яго работы ў Мядзельскім раёне. Усё, што было сабрана аб гэтых памятных падзеях, лягло ў аснову дыпломнай работы.

У рабочых аўдыторыях вучылішча заўсёды пануе творчы настрой. Моладзь з любоўю і натхненнем працуе над сваімі праграмнымі заданнямі.

Гэты год быў паспяховым для вучылішча. З выдатнымі вынікамі скончылі вучобу студэнты А. Каркушэвіч, І. Красноўскі, С. Русак, Л. Хадасевіч, Г. Вітхоўскі.

Настаўніцкі калектыў, сярод якога ёсць вопытныя мастакі, аддае свае веды і прафесійнае майстэрства таленавітай моладзі, перад якой ляжыць шырокі і светлы шлях да вышынь мастацтва.



**«Сустрэча пераможцаў»** (з дыпломнай карціны Б. Аракчэева).



**«Провады студэнта»** (з дыпломнай карціны Ф. Бараноўскага).



Другі памочнік капітана флагманскага судна Верхне-Дняпроўскага рачнога параходства. Комсамолец, малодшы лейтэнант рачнога флота Вячэслаў Акушка, які выдатна выконвае свае соцыялістычныя абавязацельствы

Фота А. Дзітлава,



**На будаўніцтве памяшкання дзіцячага тэатра Мінскага Палаца піонераў. Дзесятнік Канстанцін Іванавіч Смышляеў перадае свой вопыт арматуршчыку комсамольцу Пятру Бабіновічу.**

Фота А. Дзітлава.

І. КОЗІК

# На „фабрыцы маршрутаў“



Кіраўнік комсамольска-маладзёжнай змены аддзялення Канстанцін Шэмет у думках ідзе наперадзе поезда, пракладаючы яму «зялёную вуліцу».

Фота В. Каледзінскага.

Поезд падыходзіць да Мінска. За правым крылом лакаматыва малады машыніст Васіль Іваноў. Уважліва ўглядаецца ён уперад, туды, дзе раскінулася маляўнічая панарама беларускай сталіцы. На фоне бясхмарнага неба бачны велічныя абрысы апрануных у рыштаванні высотных будынкаў.

Цяжкавагавы маршрут прайшоў міма ўваходнага светафора і плаўна прыпыніўся ля кантрольнага слупіка.

Высока над пуцямі станцыі запалілася чырвоная зорка.

— Працуе наша комсамольская! — з гордасцю сказаў Васіль Іваноў свайму памочніку.

Да паравоза падыходзіць напарнік Іванова — Уладзімір Кулінскі. Нібы эстафету, прымае ён лакаматыў, каб павесці цяжкавагавы маршрут далей. Ён ведае, што паравоз на станцыі не затрымаецца ніводнай лішняй мінуты. У комсамольска-маладзёжным калектыве гэтага не бывае.

Радасна на сэрцы Васіля Іванова. Яго загарэлы твар свеціцца шчаслівай усмешкай. За сённешнія суткі лакаматыў зноў прабег 650 кілометраў. Нялёгка далася перамога. Яна завявана ў цеснай дружбе з дыспетчарам, галоўным кандуктарам, паяздным вагонным майстрам, у барацьбе за кожную мінуту, кожны кілометр.

...Станцыйныя пуці перапаясвае высокі пешаходны мост. Над мастом узвышаецца дыспетчарская вышка. У невялікім пакоі, абабітым тканінай, за пультам кіравання сядзіць манеўровы дыспетчар Уладзімір Пазырны. Пад яго кіраўніцтвам працуюць сотні маладых чыгуначнікаў. Гэта — работнікі самых разнастайных прафесій. Дыспетчару зараз падначалены ўсе тэхнічныя сродкі станцыі, якую чыгуначнікі небеспадстаўна называюць «фабрыкай маршрутаў». Тут фарміруюцца, адсюль ва ўсе бакі ідуць паязды з народнагаспадарчымі грузамі — і на поўдзень, і на поўнач, і на ўсход, і на захад.

Малады камандзір Уладзімір Пазырны ганарыцца тым, што яму даверана кіраваць усёй шматграннай эксплуатацыйнай работай на такім вялікім і адказным участку чыгуначнага канвейера.

Да яго, на камандную вышку, даносяцца прарэзлівыя свісткі манеўровых паравозаў, размераны грукат вагонных колаў, лязг буфераў, меладычныя гукі сігнальных ражкоў стрэлачнікаў. Па гэтых гуках працоўнай сімфоніі Уладзімір Пазырны беспамылкова вызначае рытм работы станцыі.

Кіраўніку адзінай змены зараз вядома ўсё, што робіцца на станцыі. Перад тым, як прыняць дзяжурства і сесці за селектар, ён абыйшоў станцыйныя пуці, па-гаспадарску ўсё праверыў, удакладніў, сплanaваў. Цяпер аб выкананні гэтага плана дакладваюць яму дзяжурныя па станцыі, саставіцелі, стрэлачнікі, апаратары, аглядчыкі вагонаў.

— Таварыш дыспетчар! — чуецца з рэпрадуктара ўсхваляваны голас саставіцеля Івана Ларыёнава. — Часу да адпраўлення поезда засталося мала, а ён яшчэ не сфарміраваны.

Дыспетчар задумліва глядзіць на верхнюю частку графіка, асцярожна націскае на педаль селектара і, нібы прыкідваючы штосьці ў галаве, адказвае:

— Ведаю, таварыш Ларыёнаў, абставіны склаліся цяжкія. Ды ўсё-ж прымем захады, каб поезд адправіць па графіку.

Манеўровы дыспетчар назірае з акна за размераным рухам вагонаў і паравозаў. Твар яго робіцца заклапочаным. Праз гадзіну, згодна графіка, павінен адправіцца ў бок Маладзечна чарговы маршрут, а вагонаў для поўнага яго фарміравання нехапае. Наспявае смелае рашэнне. Дыспетчар ведае, што на падыходзе да станцыі знаходзіцца поезд, у складзе якога маюцца вагоны маладзечанскага напрамку. Трэба зрабіць так, каб ён як мага хутчэй прышоў у Мінск. Манеўровы дыспетчар звязваецца па тэлефону з кіраўніком комсамольска-маладзёжнай змены аддзялення Канстанцінам Шэметам, з якім у яго здаўна завязана моцнае вытворчае сяброўства. Той абяцае паскорыць падыход поезда да станцыі, ужыць суднікаўскія метады. Цяпер усё астатняе будзе залежаць ад калектыва яго змены.

Пры гэтай думцы ўсё выразней паўставала перад Пазырным тая вялікая адказнасць, якая ўскладаецца на манеўровага дыспетчара. З'яўляючыся камандзірам адзінай змены, ён абавязаны паставіць справу так, каб максімальна выкарыстаць усе тэхнічныя сродкі, якія ёсць на станцыі, умела расставіць людзей і прадукцыйна арганізаваць іх працу. Іменна ад гэтага ў першую чаргу залежыць бесперабойная работа станцыі, выкананне ёю графіка руху паяздоў, планаў пагрузкі і выгрузкі. Напрыклад, саставіцель можа хутка сфарміраваць маршрут, канторшчык — аформіць дакументы, аглядчык — агледзець вагоны, але калі манеўровы дыспетчар няўмела арганізуе выкананне ўсяго тэхналагічнага працэса, дасягненні асобных стаханаўцаў не будуць мець належных поспехаў.

Поезд прыбывае на станцыю. Работнікі комсамольска-маладзёжнай брыгады старшага аглядчыка вагонаў Андрэя Моўчана правяраюць спраўнасць рухомага састава. Тэхнічны канторшчык Эдуард Сарока пачынае разметку і спісванне вагонаў. На сартыровачным пуці станцыі хутка падбірае групы вагонаў саставіцель Іван Ларыёнаў. Падпарадкоўваючыся яго сігналам, рухаецца па рэйках манеўровы паравоз, групіруючы вагоны па строгаму плану. Кожную мінуту разлічыў саставіцель з намерам як мага больш сэканоміць часу, каб раней тэрміну скончыць работу. Не прайшло і поўгадзіны, як поезд быў не толькі сфарміраваны, але і пастаўлены ў парк адпраўлення, дзе ўжо чакаў яго лакаматыў.

Кандуктарская брыгада і паяздны вагонны майстар паралельна прымалі састаў.

Поезд, які, здавалася, немінуча павінен быў выбіцца з графіка, рушыў са станцыі дакладна па раскладу.

Уперадзе запалілася зялёнае вочка светафора. Цяжкавагавы маршрут з беларускім лесам для новабудоўляў краіны мінуў станцыю і выйшаў на перагон.

Малады камандзір комсамольска-маладзёжнай змены аддзялення Канстанцін Шэмет у думках ідзе наперадзе састава, пракладваючы яму «зялёную вуліцу». Вось ён выклікае па тэлефону дзяжурнага па сумежнаму Вільнюскаму аддзяленню Якштаса. У іх — моцная вытворчая дружба. Яна не абмяжоўваецца рамкамі сваіх участкаў, для іх няма падзелу перагонаў на «свае» і «чужыя». Шэмет цікавіцца зараз, як вядзе маршрут літоўскі машыніст Лушайціс. Дзяжурнага па Вільнюскаму аддзяленню Якштаса хвалюе лёс поезда, якім кіруе беларускі машыніст Сцяпанаў. Абодва кіраўнікі змен дагаварыліся, знайшлі, як кажуць, агульную мову і сумесна вядуць барацьбу за тое, каб захаваць адзінства, рытм чыгуначнага канвейера на цэлым напрамку, каб графік руху паяздоў ад Мінска да Вільнюса нідзе не быў парушаны.

На станцыі Маладзечна машыніст Лушайціс прыняў цяжкавагавы маршрут, які прывёў ужо сюды

Ні на хвіліну не замірае працоўнае жыццё на буйнейшым у нашай краіне Мінскім чыгуначным вузле. І днём, і ноччу адзін за другім ідуць адсюль цяжкавагавыя маршруты з разнастайнымі народнагаспадарчымі грузамі. На здымку: саставіцель Іван Ларыёнаў фарміруе чарговы састаў.





Кіраўніку адзінай комсамольска-маладзёжнай змены В. Пазырнаму вядома ўсё, што робіцца на станцыі. Аб выкананні плана дакладваюць яму дзяжурныя па станцыі, саставіцелі, стрэлачнікі, аператары, аглядчыкі вагонаў.

машыніст мінскага дэпо Сцяпанаў.

— Шчаслівай дарогі, таварыш Лушайціс! — сказаў Сцяпанаў, праводзячы яго ў рэйс. — Жадаю поспеху!

— Дзякую! Не падвяду, таварыш Сцяпанаў, — адказаў Лушайціс. — Пачаты вамі рэйс скончым як мае быць!

З рук у рукі перадаюць адзін другому кіраванне камандзіры дыспетчарскіх змен, саставіцельскіх комплексных брыгад, пункту тэхнічнага агляду вагонаў. І настолькі моцна развіта ў маладых чыгуначнікаў пачуццё патрыятычнага абавязку, настолькі вялікія іх клопаты аб поспеху, не толькі сваім, але і агульным, што «прыліваў» перад заканчэннем дзяжурства і «адліваў» у пачатку наступнага не заўважаеш. Ёсць рытм, ёсць пачуццё «локця». Згуртаваны моцным вытворчым сяброўствам, калектыў адзінай комсамольскай змены не раз пераадольваў такія цяжкасці, калі становішча здавалася безвыхадным. У такія гарачыя мінуты з аднолькавай старанасцю працуюць рабочыя ўсіх прафесій, дапамагаючы адзін другому.

Калі на станцыі пачалося спаборніцтва па прафесіях, саставіцель Іван Ларыёнаў задумаўся: з кім-бы памерацца сіламі? З двух дзесяткаў саставіцеляў Ларыёнаў нечакана выбраў комсамольца Уладзіміра Гушчу. Чаму ён так зрабіў? Ларыёнаў ведаў, што Гушча — работнік малады, яму патрэбна дапамога. Ведаў ён таксама, што Гушча будзе імкнуцца не адстаць ад свайго больш вопытнага таварыша, а ўжо адно гэта будзе перамогай.

Хутка і якасна падрыхтоўвае саставы да роспуску з горкі скрутчык С. Байдак.



Малады саставіцель зайздросна сачыў за поспехамі майстра фарміравання, вучыўся ў яго. Шмат разоў Уладзімір Гушча слухаў лекцыі Івана Ларыёнава, чытаў яго артыкулы ў газетах. Але цяпер, калі Ларыёнаў заявіў, што правядзе дзяжурства разам з ім, у яго манеўровым раёне, малады саставіцель разгубіўся. «Паглядзіць, і не спадабаецца яму мая работа...»

Аднак хутка трывога маладога саставіцеля рассеялася. Дабрадушны погляд Ларыёнава, яго шчырыя заўвагі надавалі бадзёрасць, энергію.

— Усякую справу можна паскорыць, — гаварыў Ларыёнаў. — У *нашай справе трэба развіць* вымярэнне на вока, мець кемлівасць. Здараецца так, што часу *на фарміраванне поезда застаецца* мала, а вагоны раскіданы па пуцях. Што тут рабіць?

Ларыёнаў тлумачыў, як трэба выкарыстоўваць пуці, каб менш рабіць манеўровых рэйсаў, як сумяшчаць фарміраванне саставаў з расфарміраваннем, калі і як ужываць манеўры штуршкамі.

Неўзабаве імя Уладзіміра Гушчы з'явілася ў спісу перадавікоў станцыі побач з імем Івана Ларыёнава.

— Прадоўжым спаборніцтва? — спытаў Ларыёнаў у Гушчы.

— Са здавальненнем! — адказаў Гушча.

На адным з адказных участкаў станцыі працуе старшая стрэлачніца Кацярына Егоранкава. Яна — стаханаўка, паважаны ў калектыве чалавек.

— Залатыя ў яе рукі! — гавораць пра Егоранкаву кіраўнік змены Уладзімір Пазырны.

Нам запомнілася адна задушэўная размова Кацярыны Егоранкавай з сяброўкамі ў гарадскім парку, ля Дошкі гонару, на якой побач з другімі стаханаўцамі Мінска змешчаны яе партрэт.

— Бачыш, Каця, якая табе павага, — сказала адна дзяўчына. — А помніш, як ты некалі палохалася сваёй прафесіі?

Далёкія, харошыя ўспаміны ўзніклі ў галаве Кацярыны Егоранкавай. Вось яна, простая вясковая дзяўчына, упершыню трапіла ў вялікі горад. Каця ідзе на чыгунку. Ёй прапанавалі вучыцца на стрэлачніцу. «А ці здолею?», — спалохалася дзяўчына. «Дапаможам!» — адказалі ёй. Неўзабаве Каця працавала ўжо самастойна. З кожным днём яе ўсё больш вабіла характэр шумнай, але строга арганізаванай працы станцыі. Прыемна было бачыць, як сур'ёзныя, паважаныя машыністы паслухмяна накіроўвалі вялікія магутныя машыны па яе сігналах, радасна было ўсведамляць, што ад яе, стрэлачніцы, у значнай меры залежыць спакой тысяч людзей, што едуць у паяздах, захаванне каштоўных дзяржаўных грузаў. На яе спадзяюцца, ёй вераць. І гэтае давер'е яна імкнулася апраўдаць стаханаўскай працай. Па некалькі разоў у дзень яна чысціла і выцірала стрэлкі, правярала шчыльнасць прылягання вастракоў, надзейнасць мацавання балтоў. Яна працавала добра, але ёй хацелася зрабіць нешта больш значнае. Каця пачала дапамагаць маладым работніцам, паказвала ім, як наглядаць за стрэлачнымі пераводамі, вучыла адрозніваць сігналы.

Так расла, накоплівала веды і вопыт маладая стрэлачніца. Так паступова ўсведамляла яна вялікае дзяржаўнае значэнне сваёй службы, свайго паста. І цяпер, сустракаючыся, знаёмячыся з новымі людзьмі, яна ўжо не саромілася, як раней, а спакойна з гонарам гаварыла:

— Я стрэлачніца станцыі Мінск-таварная.

... Ля дошкі паказчыкаў спаборніцтва стаіць група рабочых. Яны ўважліва разглядаюць лічбы, напісаныя супраць прозвішчаў стаханаўцаў.

— *За ім не ўгонішся!* — чуецца чыйсьці голас, які выражае адначасова і здзіўленне і захапленне.

Гэтыя словы адрасаваны лепшаму башмачніку комсамольска-маладзёжнай змены Аляксею Макараву.

Далёка на Беларускай чыгунцы ідзе слава аб ім. Ён — талент у сваёй галіне. Аляксей Макараў валодае асобым пачуццём дакладнасці, ён нібы вымярае вокам самыя дробныя долі міліметра.

На механізаванай горцы ідзе сартыроўка вагонаў. Імгненне — і пабягуць яны, кожны на свой пуць. Башмачнік павінен уважліва сачыць за кожным з іх. Не паспее ў час затармазіць — немінучая аварыя.

Разам з кіраўніком змены Уладзімірам Пазырным аглядаем мы з балкона дыспетчарскай вышкі пуці сартыровачнага парка, што веерам раскінуліся ўперадзе. Здалёк чуваць па радыё голас дыктара:

— Па-чы-на-ем распускаць!

А неўзабаве, пасля каманды «Распускаць скончылі!» — зноў прывычны сігнал башмачнікам, стрэлачнікам, усёй комплекснай брыгадзе:

— Падрыхтавацца да роспуску!

— Бачыце, як прыгожа дырыжыруе работай башмачнік Аляксей Макараў, — з гордасцю гаворыць Уладзімір Пазырны. — Якая дакладнасць!

І гэта сапраўды так. Калі стройная фігура Макарава схіляецца над сталёвымі рэйкамі, калі яго спрытныя рукі хутка падкладваюць башмакі пад колы вагонаў, нічога не існуе для маладога чыгуначніка, акрамя думкі аб поездзе, аб графіку, аб грузах, якія поезд павязе...

У час дзяжурства Аляксея Макарава не бывае выпадкаў пашкоджання вагонаў; праца ідзе чотка, зладжана, умяшчальнасць пуцей выкарыстоўваецца цалкам. Гэта дазваляе саставіцельскай брыгадзе распускаць значна больш саставаў, чым прадугледжана нормамі.

Ні на хвіліну не замірае працоўнае жыццё на буйнейшым у нашай краіне Мінскім чыгуначным вузле. І днём, і ноччу адзін за другім ідуць адсюль цяжкавагавыя маршруты з рознастайнымі народнагаспадарчымі грузамі. З задавальненнем бяруць іх машыністы-пяцісотнікі. Яны ведаюць — не прыдзецца ім памяншаць у шляху хуткасць, прыпыняцца з-за няспраўнасцей у саставе.

І, прыняўшы ад Васіля Іванова лакаматыў, яго напарнік Уладзімір Кулінскі смела адкрывае рэгулятар, бо наперадзе ляжыць шырокая, прасторная «зялёная вуліца» чыгуначнага шляху, а над «фабрыкай маршрутаў» незгасальна гарыць чырвоная зорка.

Іван МУРАВЕЙКА

## Калгаса нашага палі

Шырокі ў вёсцы кругагляд
Пажарнік мае малады.
Але, сябры, яго пагляд
Не можа ўсе абняць жыты.

Калі світальнаю парой
Наўкол глядзіць ён з вышыні,
Ён бачыць сонца за гарой,
Але не бачыць краю ніў.

Пагоркі ўсе і ціш балот
Жытнёвы затапіў разліў.
Не абыйшоў-бы і за год
Серп неабдымныя палі.

Дубам па грудзі збажына.
Такая — песню хоць складай!
У нас прырода не адна
Калгасны росціць ураджай!..

Васіль МАТЭВУШАЎ

## Першая зарплата

У цэху праз аконца
Касірша-дзяўчына
Выдавала чырвонцы
Маладому хлапчыне.

Ён ля касы, як сталы,
Грошы двойчы злічыў
І падумаў: «Нямала,
Хоць і першы пачын!»

З прахадной вышаў будкі,
Вырашыў на хаду:
«Сёння з новым абуткам
Я дадому прыду.

Бацьку, маці абновы
І сястрычцы ў касу
Дзве істужкі шаўковых
На ўспамін прынясу.

А як вечар агнямі
Над зямлёй зазіхціць,
Можна будзе з сябрамі
І ў тэатр мне схадзіць».

Нікалай ГАРУЛЁЎ

# БАРЫС ДЗМІТРЫЕЎ

Барыс Дзмітрыеў прышоў у Дзяржынскі райком комсамола Масквы, як прыходзілі ў дні вайны ў свае мясцовыя комсамольскія камітэты і другія маладыя патрыёты. Гарачае жаданне дапамагчы Радзіме, прыняць удзел у баях за яе свабоду і незалежнасць жыло ў іх сэрцах самым моцным і непаўторным пачуццём.

«Дзе змагацца супраць ворага, у якіх часцях і падраздзяленнях?»—Для многіх гэтае пытанне было вырашана канчаткова: «За лініяй фронта, у радах гераічных партызан!»

Імкненне юнакоў і дзяўчат было зразумелым. З дзіцячых год у іх уяўленні жылі слаўныя вобразы партызан грамадзянскай вайны, і кожнаму хацелася быць удзельнікам незвычайных, гераічных подзвігаў. З першых-жа месяцаў Вялікай Айчыннай вайны радыё прыносіла весткі аб змаганні совецкіх партызан у тылу ворага. Асабліва захапіў усіх подзвіг маскоўскай школьніцы комсамолкі Зоі Касмадзем'янскай.

Комсамолец Барыс Дзмітрыеў не мог заставацца ў баку ад падзей. Таксама, як і Зоя, ён прышоў у кабінет сакратара Дзяржынскага райкома комсамола і папрасіў:

— Пашліце мяне ў партызаны!

Сакратара не здзівілі гэтыя словы. З такімі-ж просьбамі да яго прыходзілі юнакі і дзяўчаты па некалькі разоў на дзень. Адных ён запэўняў, што працаваць для фронта на абаронным прадпрыемстве — справа такая-ж ганаровая, як і змагацца ў акопах на перадавой, або ў партызанскіх атрадах, другіх накіроўваў у ваенныя вучылішчы, трэцім адмаўляў — вельмі маладыя.

Цвёрдая рашучасць Барыса, яго настойлівасць пераканалі сакратара райкома.

Больш тысячы кілометраў трэба было прайсці маладому масквічу да Асіповіцкіх лясоў, куды накіроўваліся партызаны. Міма варожых гарнізонаў, па лясах і прасёлачных дарогах ішоў са сваімі таварышамі Барыс Дзмітрыеў.

Халодная і мокрая ад дажджу, прыліпаючая да цела вопратка і натруджаныя ногі, паходны цяжар зброі і ўзрыўчаткі, перастрэлкі з аховай шасейных і чыгуначных дарог, — усё гэта было суровым і цяжкім, усё гэта загартоўвала волю і сілы маладога партызана.

У атрад Каралёва Барыс прышоў толькі праз два месяцы. Тут пачалася яго сапраўдная баявая біяграфія.

Першая старонка яе была адкрыта ў верасні 1942 года, калі Дзмітрыеў атрымаў заданне ўзарваць эшалон гітлераўцаў на ўчастку Асіповічы — Татарка.

Восень у той год выдалася сонечная, залатая. Лес стаяў спакойны і ўрачысты. Жаўцела лісцё бяроз, зелянелі сосны. Не верылася, што гэтая мірная цішыня зманлівая, што кожную хвіліну тут, на часова акупіраванай ворагам зямлі, можа разгарэцца бой.

Па шляху ад Расохі, дзе знаходзіўся лагер штаба брыгады, да чыгункі Барыс Дзмітрыеў з таварышамі зайшоў у атрад Баразны.

Атрадны сапёр-самавучка вырашыў паказаць маладому інструктару-падрыўніку самаробны капсуль-дэтанатар, які прызначаўся для падрыву толавага зараду. Калі Дзмітрыеў пачаў разглядаць капсуль-дэтанатар, вывучаючы яго канструкцыю, той зусім нечакана ўзарваўся ў яго руках.

Раненне маладога падрыўніка паставіла ўсю групу партызан у непрыемнае становішча. Заданне камандавання трэба было выканаць абавязкова, а ў Барыса былі паранены рукі.

Старшы групы вырашыў спачатку перачакаць у атрадзе Баразны яшчэ дзень-два, а



Герой Совецкага Саюза
Барыс Дзмітрыеў.

потым выйсці на «жалезку». Пачуўшы аб гэтым, Барыс запратэставаў:

— Не, пойдзем сёння!

Дзмітрыеву з таварышамі ўдалося ў гэтую ноч узарваць першы варожы эшалон.

Пасля гэтага Барыс усё часцей і часцей працаваў на заданні. Калі не было магчымасці выйсці на «жалезку», ён удзельнічаў у засадах, мініраваў шасейныя дарогі, ладзіў розныя неспадзяванкі для гітлераўцаў.

У студзені 1943 года, калі фашысты блакіравалі партызанскі раён, Барыс Дзмітрыеў замініраваў пакінуты партызанамі лагер у Круглым Бары недалёка ад спаленых дашчэнту Брыцалавіч, і праціўнік з ходу наляцеў на партызанскія міны.

Доўга ўспаміналі баразноўцы гэты ўчынак маладога падрыўніка.

З уласнага вопыту Барыс ведаў, што часта ноччу гітлераўцы вадзілі цягнікі на малой хуткасці. У такіх выпадках у момант выбуху звальваўся з пуці адзін паравоз. А бывала і горш. Прагрыміць выбух, цягнік спыніцца, і рамонтныя брыгады гітлераўцаў пад аховай свайго кулямётнага і мінамётнага агню пачынаюць наладжваць чыгунку.

Барыс задумаў правесці аперацыю сярод белага дня. Ён у маскіровачным халаце адзін ясным зімовым днём падпоўз па снезе да самай чыгункі, і, выбраўшы зручны момант, замініраваў яе. З вялікімі цяжкасцямі літаральна зарываючыся ў снег, адпаўзаў ад насыпу Дзмітрыеў. У гэты час з-за павароту паказаўся варожы эшалон.

Цягнік імчаўся з вялікай хуткасцю. Вось ён наблізіўся да замініраванага месца. Пачуўся аглушальны выбух. Усё загарэлася, затрашчала...

Доўга рамантавалі пасля гэтага дарогу гітлераўскія ахоўнікі.

Другі раз, таксама ўдзень, Барыс прабраўся па рэчышчу замёрзлай ручаіны да бетаніраванай трубы пад насыпам чыгункі і паставіў зарад велізарнай сілы. Выбух адбыўся ў той момант, калі да замініраванага месца падышоў эшалон праціўніка.

Як высветлілася пазней, узрывам было знішчана звыш двухсот гітлераўцаў — выпускнікоў ваенных вучылішч, якія ехалі на ўсходні фронт.

Лета 1943 года было адзначана небывалым размахам усенароднай партызанскай барацьбы ва ўсёй Беларусі. Цэлымі сем'ямі, групамі, цэлымі вёскамі людзі ішлі ў партызанскія атрады, каб са зброяй у руках змагацца супраць тых, хто паліў і нішчыў нашы гарады і вёскі, хто забіваў і вешаў ні ў чым не вінаватых жанчын, старых і дзяцей.

Расла і партызанская брыгада Каралёва. Але нехапала вопытных партызанскіх кадраў. Вось тут, побач з іншымі спецыялістамі, многа прышлося папрацаваць Барысу Дзмітрыеву. Як інструктар-падрыўнік, ён падрыхтаваў і навучыў свайму майстэрству дзесяткі маладых партызан. Асабліва многа працаваў ён у перыяд жніўня — верасня 1943 года, калі партызанская брыгада ўдзельнічала ў «рэйкавай вайне».

У баявых аперацыях «рэйкавай вайны» Дзмітрыеў, як заўсёды, быў наперадзе, падаючы прыклад сваім таварышам па атраду.

Імя яго рабілася ўсё больш вядомым не толькі сярод партызан Магілёўшчыны. Напярэдадні 1944 года на яго баявым рахунку ўжо было 18 пушчаных пад адхон варожых эшалонаў, 25 мастоў на шасейных і 3 на чыгуначных дарогах, 3 узарваных аўтамашыны, 2 танкі.

Гэта сухія лічбы данясення. За імі стаяў энергічны, нястомны комсамолец, юнак з абветраным тварам, з жывымі разумнымі вачыма, чалавек, які не ўяўляў сабе жыцця без роднага калектыва, без барацьбы за свабоду і мірную стваральную працу.

Асіповіцкі падпольны райком партыі і камандаванне брыгады ў канцы 1943 года прадставіла маладога падрыўніка да высокай урадавай узнагароды — звання Героя Совецкага Саюза.

Толькі не давялося Барысу атрымаць самому гэтую ўзнагароду, не давялося разам з сябрамі сваімі сустрэць слаўны дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, вялікі дзень Перамогі. 23 лютага 1944 года ў няроўным баі з гітлераўцамі ён загінуў смерцю храбрых у вёсцы Каменічы.

Пасля вызвалення Беларусі цела маладога партызана было перанесена і пахавана на цэнтральнай плошчы горада Асіповічы. Комсамольцы нашай рэспублікі свята ўшаноўваюць памяць вернага сына Масквы, сына вялікага рускага народа, члена Ленінска-Сталінскага Комсамола, Героя Совецкага Саюза Барыса Міхайлавіча Дзмітрыева.




# Двое ў дарозе

**Паўло ЗАГРЭБЕЛЬНЫ**

**Апавяданне**

Мал. І. Давідовіча.

Заставалася мінуць апошні пад'ём з шырокага яру — і пагорыстая частка стэпу скончыцца. Далей, да самай Кахоўкі, будзе раўніна, ехаць па якой, на думку Пятра Касюхі, сапраўднае задавальненне.

Ён прыпыніў машыну і пачакаў Ардаб'ева. Той вылез са сваёй кабіны, праверыў узровень масла, потым падышоў да Пятра, уздыхнуў.

— Чаго ўздыхаеш? — спытаў Касюха.

— Гоніш вельмі, — паскардзіўся Ардаб'еў, — дарога, глядзі, незнаёмая... Трэба машыну берагчы...

— Нічога, — весела прамовіў Пятро. — Машына машынай, а пра сябе таксама не забывай... Вось адным махам перакоцімся цераз яр, а там, лічы, ужо і дома, на бале. Ты толькі не адставай...

— Добра, — густым басам адказаў Ардаб'еў.

Ён быў валжанін, і гук «о» выходзіў у яго круглым, нібы абаранак руля. Касюха зарагатаў.

— Мяккі ты чалавек, Аляксей, — сказаў ён, — вялікі, але мяккі, як пшанічная пампушка. Мне-б на цябе зуб мець, але ведай, браце Касюха...

Ён сеў у машыну і націснуў на старцёр. А непаваротлівы тоўсты Ардаб'еў, яшчэ, напэўна, прадаўжаў у роздуме стаяць каля сваёй машыны, бо калі Касюха праз нейкі час азірнуўся, фар ззаду не было відаць.

«Эх, цаца з луджаным носам! — са злосцю падумаў ён пра Ардаб'ева. — От, бачыла-б Лена...»

Ён уз'ехаў на ўзгорак, зноў азірнуўся, але машыну Ардаб'ева дзесьці ў самай глыбіні яра нібы праглынула цемра. Наперадзе дарога разыходзілася ў двух кірунках: направа — у Кахоўку, налева — да мора. Бестурботна засвістаўшы, Касюха павярнуў у правы бок і паімчаў па стэпе.

У шафёраў няма звычкі прыпыняцца і азірацца назад. Вочы шафёра ўперадзе, на шурпатай істужцы дарогі, асветленай бледнымі промнямі фар, а ў галаве зусім пабочныя думкі. Той, хто часта застаецца сам-на-сам, прызвычайваецца ўрэшце калі не размаўляць уголас, дык ужо абавязкова думаць, думаць спакойна, грунтоўна, з асалодай.

Пятро Касюха заўсёды вылучаўся сярод шафёраў будаўніцтва сваёй незвычайнай жвавасцю, непаседлівасцю, жартаўлівасцю. Ён аднолькава лёгка і весела мог расказаць пра свае дарожныя прыгоды, пра машыны, надвор'е і нават пра самыя інтымныя пачуцці. І ніхто не ведаў, што сам-на-сам, сярод чатырох сцен сваёй кабіны, гэты чалавек рабіўся сур'ёзны, задумлівы. На яго напльвалі ўспаміны, і тады ён або ўсміхаўся, скупа, ледзь прыкметна, або ўздыхаў і спагадліва прыцмокваў языком.

Сёння ноч была цёмная, мокрая, «плаксівая», як кажуць шафёры. Змяркацца пачало яшчэ ў шэсць гадзін. Нішто навокал — ні чорныя, набрыняўшыя вільгаццю палі, ні разбітыя дарогі, ні пацямнеўшыя ад дажджу тэлеграфныя слупы, — нішто не нагадвала пра зіму, пра марозы, пра снег. Сёння была апошняя ноч старога года, а тут, на поўдні, ішоў дождж, і на слізкай грунтавой дарозе машыну заносіла так, як заносіць узімку сані. Вецер, нібы пяском, сыпаў дажджом у вокны кабіны, у кузаве важка грымелі тоўстыя сталёвыя трубы, якія Касюха і Ардаб'еў везлі на будаўніцтва. Пятро ўсё мацней націскаў на педаль газу, з нецярплівасцю думаючы пра тое, як ён праз гадзіну прыедзе ў Кахоўку, здасць трубы, паставіць машыну і пойдзе на навагодні бал. Праўда, на гэтым бале Пятра чакае мала радасці, але ён спадзяваўся, што апярэдзіць Ардаб'ева хоць на поўгадзіны і выкарыстае гэта, каб пабачыць Лену і выказаць ёй яшчэ раз свае думкі пра яе. А што, хай яна лішні раз пераканаецца ў тым, як лётае на сваім «газіку» (так Пятро называў «ГАЗ-51») «забракаваны» ёю адзін з самых найхрабрэйшых шафёраў будаўніцтва Пятро Касюха, і як нязграбна паварочваецца Аляксей Ардаб'еў.

Пры ўспаміне пра лабарантку Лену заныла сэрца. Гісторыя іх адносін была такая-ж доўгая, як стэпавыя дарогі, па якіх ездзіў Пятро. Калі мінулай зімой супрацоўнікаў яшчэ вазілі са Старой у Новую Кахоўку аўтамашынамі, Лена кожную раніцу прыходзіла да гаража і, какетліва хутаючыся ў кароценькую каракулевую шубку, гаварыла:

— Ну, хто мяне, хлопчыкі, сёння падвязе?

І ўсе шафёры наперабой прапанавалі ёй свае машыны. Але Лена часцей за ўсё выбірала Пятра Касюху, бо дужа любіла ягоныя бясконцыя смешныя расказы, і кожны раз, сядаючы ў кабіну, прасіла:

— А ну, Петрык, змані што-небудзь...

— Гэта можна, — ахвотна згаджаўся Касюха, — часу досыць. Гэта не тое, як аднаго разу са мною выпадак здарыўся, калі я яшчэ ў МТС працаваў. Сустракае мяне неяк старшыня калгаса з Прасяніўкі і просіць: «А ну, Касюха, збрашы што-небудзь!» Я яму і адказваю, што, моў, збрахаў-бы так, што куды твая справа, ды некалі, бо газую зараз да Дняпра, там баржа з соллю на каменнях разбілася і соль дарма раздаюць, пакуль дождж не замачыў. І іду сабе сваёй хадою далей. А старшыня пабег у калгас, тры падводы запрог — ды к Дняпру... А там, вядома, акрамя прыемнага плёскату хваль ды птушак рознага калібру нічагусенькі больш няма.

Дзяўчына рагатала ад душы.

— А то было яшчэ так...

— Толькі каб не вельмі смешна, — прасіла Лена, — бо я магу з кабіны вываліцца...

Пятру шмат хто з хлопцаў зайздросціў: яшчэ-б, сябруе з такой сімпатычнай дзяўчынай! Але потым аднекуль узяўся Ардаб'еў. Казалі, быццам ён працаваў разам з Ленай на Волга-Доне і быў там закаханы да самазабыцця ў лабарантку, а цяпер перабраўся ў Кахоўку толькі таму, што прыехала Лена. Аднак Пятро ніякага кахання не бачыў, таму што Ардаб'еў, як высветлілася, быў зусім не з тых, хто ўвесь свой вольны час круціцца каля дзяўчыны ды выхваляецца перад ёю, як гэта любіў рабіць сам Касюха. Ардаб'еў належаў да тых, каго Пятро зняважліва называў «рабацягамі». Разважлівы, спакойны, ён, здаецца, абыякава ставіўся і да Лены.. Затое Лена не адводзіла ад Ардаб'ева погляду. Ці то ёй спадабалася яго магутная сіла, якая прасвечвалася ў кожным руху валжаніна, ці можа, як большасць жанчын, яна бачыла ў ім такія якасці, якія непранікнёнае вока не заўважыць. Ды як-бы там ні было, але Пятро добра разумеў усю небяспечнасць становішча, якое цяпер склалася.

Неяк позна ўвосень Касюха ехаў на перамычку і на поўдарозе дагнаў Лену. Ён узяў яе ў кабіну і тут-жа вырашыў пагаварыць пра тое, што хвалявала яго вось ужо колькі часу. Не гледзячы на ўсю сваю адвагу, Пятро ўсё-ж хваляваўся і нават перайшоў на «вы».

— Значыцца, так, — сказаў ён з такім адчуваннем, нібы лез у халодную ваду, — калі не будзеш супярэчыць, дык я сваю жыццёвую машыну вазьму каля вас на ручны тормаз і, значыцца, навек, каб без капітальнага рамонту весці прабег аж да самага комунізма...

— Нічога не разумею, — засмяялася Лена. Ды Касюха па яе вачах бачыў: зразумела, але адказваць не хоча.

Ён вырашыў дамагчыся адказу, чаго-б гэта ні каштавала, і вёў далей:

— Я адносна нашага сумеснага жыцця хацеў запытацца... як мне, разлічваць?..

— З табою? — перапытала Лена.

— Са мною. Абсталёўваць, як той казаў, сумесны гараж, ці...

— Ты мне нават ростам не падыходзіш, — жартаўліва адказала Лена.

— Нічога, — у тон ёй прадаўжаў Пятро. — Юлій Цэзар, рымскі палкаводзец, таксама быў нізкага росту, а якія гастролі даваў!..

— А ты яшчэ да таго-ж і руды, — намагалася Лена канчаткова звесці на жарт сур'ёзную размову.

— Перафарбавацца можна, — бадзёра сказаў Пятро, — на каго пажадаеце: на брунета, на бландзіна?..

— Але-ж ва ўсіх рудых шыі чырвоныя, — зарагатала Лена.

І тут Касюха нарэшце пакрыўдзіўся.

— Я вам не аб'ект для кпінаў, — сурова заявіў ён і больш не вымавіў ні слова.

Дома пасля работы ён доўга разглядаў сябе ў люстэрка і пераканаўся: шыя чырвоная.

«Ну і чорт з ёю, і з шыяй, і з Ленкай! — падумаў ён са злосцю.— Псаваць сабе нервы з-за нейкай там лабаранткі!..»

Аднак, калі вечарам на танцах убачыў Лену з Ардаб'евым, зразумеў, што не можа жыць без яе. Ардаб'еў быў апрануты ў новы каверкотавы касцюм і трымаўся так прама, быццам яму да спіны прывязалі дошку. А Лена так падзейнічала на Касюху, што ён пайшоў і

з гора выпіў шклянку гарэлкі. Захмялеўшы, ён доўга намагаўся пераканаць шафёраў, якіх сустракаў у той вечар, што Лена — пустая і павярхоўная дзяўчына, што яна проста адсталы элемент, але ўсе, нібы змовіўшыся, насміхаліся з Касюхі і раілі яму заглушыць рэўнасць да Ардаб'ева самаадданай працай. Гэта была яўная кпіна.

А тут яшчэ неўзабаве фотаздымак Лены за нейкія там подзвігі ў лабараторыі змясцілі на дошку гонару, і шафёры ў выходны дзень хадзілі глядзець на фотаздымак сваёй любіміцы. Касюха цяжка перажываў гэта.

Ён ніяк не мог зразумець, што, уласна, знайшла Лена ў Ардаб'еве. Мяхі на ім, дужым, вазіць збіраецца, ці што? Колькі разоў ён спрабаваў зрабіць Аляксею непрыемнасць на рабоце, хацеў прымусіць яго раззлавацца, але той толькі адмахваўся ад Пятра, нібы ад камара.

— Чаго там?.. Ну, што там?..

Пятро пачаў паступова разумець, што Лене падабаецца ў Ардаб'еве гэтая лагоднасць да людзей, дабрата і шчырасць, але сам ён стаць такім не мог, як ні намагаўся. Ён не мог дня пражыць без таго, каб не падпусціць каму-небудзь шпільку, не пакпіць з таварыша пры атрыманні пуцёўкі, і яго аўтакалону так і звалі «Яршасты Касюха».

Вось і зараз ён пакінуў Ардаб'ева дзесь далёка ззаду, на незнаёмай дарозе, і ўсё гнаў і гнаў сваю машыну.

«Гэта табе не да дзяўчат заляцацца!..» — мсціва ўсміхаючыся, думаў Пятро.

Гэтая частка стэпу была, па разліках Касюхі, досыць роўная для таго, каб за колькі кіламетраў убачыць святло фар. Але, паглядзеўшы ў акенца ззаду, Пятро, акрамя цемры, нічога не бачыў.

«От яшчэ, хвароба яму ў пуп! — падумаў ён пра Ардаб'ева. — Яму толькі смятану вазіць...»

Ён прыцішыў ход і зноў азірнуўся, але акенца заставалася чорным. Тады Касюха вылаяўся і спыніў машыну. Вылез з кабіны, прыслухаўся. У правадах завываў на розныя галасы бестурботны вецер, выстукваў па капоце дождж, і наўкол было так цёмна, быццам у чорнай яме. Пятро трохі пачакаў, абышоў вакол машыны, прабуючы нагою скаты і пазіраючы на дарогу, але Ардаб'еў не з'яўляўся. Толькі цяпер Касюха згадаў пра раздарожжа за ярам і пра тое, што Ардаб'еў едзе тут упершыню.

— А што, калі павярнуў налева? — уголас падумаў Пятро.

Ён уявіў сабе, як гоніць зараз Ардаб'еў сваю машыну ў беспрасветнай цемры, як ён спяшаецца, каб дагнаць свайго таварыша і хутчэй прыехаць у Кахоўку, дзе яго гэтак чакаюць, але нікога не дагоніць і нікуды не прыедзе, таму што гэты самы таварыш пакінуў яго аднаго, а сам уцёк. Ардаб'еў будзе ехаць гэтак усю ноч і раніцай апынецца каля самага мора — вось і ўсё. А заўтра вернецца ў Кахоўку, убачыць яго, Касюху, і скажа... Уласна, што ён можа сказаць? Сам-жа вінаваты! Не будзь разявай! Мабыць, як заўжды, хацеў на ўхіле бензін сэканоміць! Знайшоў час!..

Касюха пачакаў яшчэ трохі, потым сеў у машыну і паехаў далей.

«Падумаеш, — меркаваў ён, — да кожнага яшчэ няньку прымацоўвай! Вадзі яго за ручку! Абрыдла!..»

Час ад часу паскрыпваючы, павольна рухаўся па ветравому шклу «дворнік», імкліва бегла насустрач дарога, мігцелі шэрыя ад святла фар слупы, і Пятро чакаў, што вось-вось з'явяцца агні Кахоўкі. Цяпер ён быў упэўнены, што ў навагодні вечар Лена будзе не з Ардаб'евым, а з ім, з Касюхай, і няхай усе бачаць гэта і зайздросцяць. Што будзе далей, як разгорнуцца наступныя падзеі, Пятра не цікавіла. Па складу свайго характару ён не быў схільны заглядаць далёка наперад і заўжды мог задавальняцца толькі цяперашнім, бачным.

Але, дзіўная справа, чым бліжэй пад'язджаў Касюха да Кахоўкі, тым усё больш неспакойна сябе адчуваў і, нарэшце, яму пачало здавацца, нібы ён чуе дзесьці збоку нейчую размову.

— Пятро? — гаварыў нехта басам.

— Га! — тоненькім голасам адказваў Касюха.

— Ты Ардаб'ева пакінуў?

— Не, — боязна супярэчыў Касюха.

Каб пазбыцца гэтай навязчывай размовы, Пятро трасануў галавой і націснуў на сігнал. Ды праз хвіліну ён зноў пачуў:

— Пятро!

— Га!

— А я ведаю, чаму ты супярэчыш!

— А чаму?

— Таму, што табе сорамна...

У гэты момант ён пад'ехаў да новага разгалінавання дарогі.

«Э, чорт!..» — скрозь зубы прабурчэў Касюха і, рэзка крутнуўшы абаранку руля, выехаў на прасёлак. Прасёлак выявіўся дужа грузкі, і Пятро мала не засеў са сваёй важкай машынай. Але адчай нібы прыдаў яму сілы і спрыту, і ён здолеў развярнуцца ўдала.

Праз хвіліну машына Касюхі імчала назад, і цяпер у галаве Пятра была толькі адна думка: «Дзе-ж гэта Аляксей?» Ды Ардаб'ева не было.

Каля злашчаснага раздарожжа Касюха прыпыніў машыну, выключыў матор і пасігналіў. Ніхто не адказваў, нават рэха не было чуваць. Тады ён выскачыў з машыны і пабег да раздарожжа. Разгубіўшыся, Касюха забыў уключыць фары і, каб разгледзець сляды, запаліў запалку. Маленькі агеньчык не здолеў нічога асвятліць — дзьмухнуў вецер, і запалка пагасла. Касюха прысеў і пачаў паспешна чыркаць запалкі адну за другой, затуляючыся ад ветру крысом курткі. Штаны на каленях хутка прамоклі, ад холаду Пятро здрыгануўся і толькі тады апамятаўся.

— Шалды-булды! — вылаяў ён сябе і пабег уключаць фары.

Калі яны асвятлілі дарогу, Касюха ўбачыў, што свежы след аўтамашыны пайшоў налева. Ардаб'еў павярнуў не туды, куды трэба!

Цяпер ужо Касюха не траціў ніводнай хвіліны. Трэба, што-б там ні было, дагнаць Ардаб'ева і вярнуць яго.

Машына паімчала па стэпе ў кірунку да мора. Мінала дзесятая гадзіна вечара, у Кахоўцы хлопцы ўжо, мабыць, прыбіраліся ў святочнае адзенне, а Пятро шыбаваў на поўдзень.

Завываў, роў, свістаў, стагнаў за вокнамі кабіны вецер, на саланчаках, мокрых і слізкіх, як мыла, машына траціла хуткасць, і важкія трубы напіралі, нібы намагаліся праламаць тонкую сцяну кузава. Касюха выціскаў з матора ўсё магчымае, але наперадзе, як і раней, нічога не было відаць.

Ардаб'еў таксама, мабыць, распаліўся і намагаецца дагнаць Пятра, а той, хоць павінен быў ехаць наперадзе, ехаў ззаду. Усё пераблыталася, і вінаваты ў гэтым Касюха.

«Ох і дурань! — думаў Пятро пра Ардаб'ева. — Ох і дурань! Гоніць, як бык! А куды, спытацца-б у яго! Да мора, бурбалкі лавіць?..»

Мінула ўжо цэлая вечнасць, як здавалася Пятру. Ён чакаў, што вось-вось у радыятары закіпіць вада і прыдзецца запавольваць ход, але ў гэты момант далёка наперадзе з'явілася вузенькая, як нітка, істужка святла. Яна мільганула і зноў знікла ў цемры. Касюха зразумеў: гэта — Ардаб'еў. Праз хвіліну істужачка мільганула яшчэ раз, яшчэ і яшчэ...

Касюха ведаў нязменную звычку Ардаб'ева эканоміць гаручае на ўхілах і таму спадзяваўся неўзабаве дагнаць таварыша. Але той, здаецца, зусім забыўся на ўсе свае звычкі і напэўна не здымаў нагі з педалі акселератара. Святло ад ягоных фар доўгі час не набліжалася ні на метр.

— Аляксей! — шаптаў Пятро. — Ну куды ты спяшаешся, дурніца? Азірніся, чортаў хлопец! Аляксей!..

І ўсё-ж Ардаб'еў вёў машыну беражліва. Ён, відаць, не забываў, што ў кузаве адказны груз, што дарога незнаёмая і небяспечная, і, хоць трэба было спяшацца, вельмі спяшацца ўперад (ён-жа не ведаў, што едзе не ў той бок!), на вечар, які бывае толькі адзін раз на год, да каханай дзяўчыны, ён ехаў значна павольней, чымсьці Пятро. Пятро зразумеў гэта, калі хвілін праз дзесяць заўважыў, што Ардаб'еў стаў значна бліжэй. Яшчэ праз пяць хвілін ён ехаў за Ардаб'евым і думаў пра тое, як супыніць таварыша. Дарога была вузкая і аб'ехаць машыну таварыша не было ніякай магчымасці. Тады Касюха паласнуў святлом па задняму акенцу кабіны Ардаб'ева, некалькі разоў мільгануўшы фарамі, пасігналіў і прыпыніўся. Ён зрабіў гэта, ведаючы, што Ардаб'еў заўсёды дапаможа ў дарозе першаму сустрэчнаму шафёру (за што колькі разоў, між іншым, лаяў яго той-жа Касюха). Разлік аказаўся правільны. Ардаб'еў праехаў метраў сорак і таксама прыпыніўся.

— Што там? — запытаў ён ад сваёй машыны.

— Аляксей! — амаль што не плачучы, закрычаў Пятро. — Куды ты к чорту ў зубы едзеш? Ты-ж да мора едзеш! Мы-ж ад Кахоўкі кіламетраў на дваццаць у бок ад'ехалі!..



— Пачакай, я развярнуся, — спакойна сказаў Ардаб'еў і завёў матор.

Калі-б ён пачаў лаяцца, крычаць, абвінавачваючы Пятра ў нетаварыскім учынку, таму было-б лягчэй. Але Ардаб'еў сказаў толькі гэта: «Пачакай, я развярнуся» — і ўсё. Касюха паслухмяна паехаў за Аляксеем, пачакаў, пакуль Ардаб'еў развярнуўся на цеснай дарозе, і, развярнуўшыся сам, зноў паехаў туды, адкуль толькі што прыімчаў.

Ардаб'еў быў цяпер наперадзе. Ён ехаў не так, як хацелася Пятру, не з такой хуткасцю, без «ветрыка», але Пятро не сігналіў, не злаваўся, не нерваваў, а вінавата ехаў следам за таварышам. На раздарожжы Ардаб'еў, не спыняючыся, беспамылкова павярнуў на кахоўскую дарогу, і Пятро зразумеў, што, выехаўшы з яра, Аляксей доўга стаяў тут і думаў, куды ехаць, а магчыма нават спрабаваў знайсці на дарозе сляды машыны, ды не знайшоў. «Ох і нягоднік-жа я!» — падумаў ён і даў сабе слова, як прыедуць яны ў Кахоўку, папрасіць у Ардаб'ева прабачэння.

Без чвэрткі ў адзінаццаць паявіліся жоўтыя, нібы асеннія лісты, агні Новай Кахоўкі. Ардаб'еў і Касюха заехалі ў гараж проста з грузам, хуценька выцерлі рукі і падаліся дадому. Пятро прыгадаў, што цяпер Ардаб'еў для яго толькі супернік, і яму адразу перахацелася прасіць прабачэння.

Каля варот гаража пры святле электралямпы, якую разгойдваў вецер, Пятро ўбачыў Лену. Ён ледзь не спыніўся, каб сказаць што-небудзь рэзкае пра Ардаб'ева, але своечасова схамянуўся і шмыгнуў ля дзяўчыны, пакідаючы Лену і Ардаб'ева адных.

«Урэшце, няма нічога горшага, чымся зрабіць чалавеку добрае, а потым нагадваць яму пра гэта!» — падумаў ён.

Касюха ўсё-ж паспеў заўважыць, што Лена імкліва рушыла насустрач Ардаб'еву і мог-бы пакляцціся, што чуў, як шорхае ў яе пад шубкай новая шаўковая сукенка. Яна шорхала, нібы веснавы дождж у маладым садочку.

— Аляксей! — з ціхім дакорам сказала Лена.

— Ну што там? — забасіў Ардаб'еў. — Пятру скажы спасібо-о...

І гэтае «о», круглае, як абаранак руля, пакацілася ў паветры і здагнала Касюху, які быў ужо далёка ад варот.

Пераклад з украінскай мовы Я. Васілёнка.

Д. КАВАЛЁЎ

# Бацька і сын

Нарыс

Да чаго-ж прыемна бывае дзе-небудзь далёка ад родных мясцін атрымаць сваю мясцовую газету! Чытаеш і перачытваеш звычайныя заметкі, якія там, дома, толькі прагледзеў-бы між іншым.

Некалькі год назад, будучы ў Курскай вобласці, я атрымаў ад сябра разам з пісьмом і нашу «Гомельскую праўду». Адна заметка ў прысланым нумары зацікавіла мяне асабліва. У ёй расказвалася пра спаборніцтва двух слесараў Гомельскага станкабудаўнічага завода імя Кірава. Цікавым было тое, што спаборнічалі бацька з сынам. Але яшчэ больш звярнулі на сябе маю ўвагу прозвішчы рабочых — Задковы.

«Ці не з Прудка яны? — падумаў я. — У нас там Задковых многа». І мне прыгадаўся даўні наш сусед — Яўсей Задкоў, якога ў вёсцы чамусьці звалі Сількам. Ён таксама быў рабочы. І, здаецца, слесар. Працаваў амаль усё жыццё недзе на чыгунцы. Да нас ён, бывала, заходзіў ледзь не штодзённа. У доўгія зімовыя вечары бацька чытаў «Таямнічы востраў» Жуль Верна. А дзед Сілька разам з намі слухаў яго часам аж да трэціх пеўняў. І я, наслухаўшыся Жуль Верна, неяк паспрабаваў было нешта скласці ў тым-жа духу. Сілька быў выведзены галоўным героем «з тварам, які вечна смяецца». Назаўтра, яшчэ не расплюшчыўшы заспаных вачэй, я пачуў, як маці з бацькам дужа рагаталі над маёй «пробай пяра». Справа ў тым, што твар у дзеда Сількі быў такі, нібыта стары ўвесь час некім ці нечым незадаволены. Ён нават і смешнае расказваў з такім сур'ёзным выглядам, што нават ад адной гэтай сур'ёзнасці ўсе браліся за жываты. І толькі слухаючы раман, ён расчулена ўздыхнуў. Вочы яго станавіліся вельмі лагоднымі. На вуснах паяўлялася добрая, падзіцячаму простая ўсмешка.

У дзеда Сількі быў сын Іван. Я ні разу не бачыў яго, але ведаў, што жыве ён недзе ў Гомелі і працуе, між іншым, на заводзе «Пролетарый» слесарам. Пра Івана дзед успамінаў часта і прытым кожны раз з павагай, заўсёды падкрэсліваючы пры гэтым слова «мой». Часам ён проста гаварыў: «Майму, браце, прэміроўку выдалі», або «Мой на курорт сёлета едзе», — і мы разумелі, што гутарка ідзе пра Івана.

Аднойчы, памятаю я, ужо развітаўшыся, пажадаўшы нам «спакойнай ночы», дзед Сілька летуценна сказаў:

— Сам некалі, ліха яго бяры, марыў пра мора. Не давялося на караблі павандраваць ды белага свету пабачыць. І Іван таксама па бацькавай сцежцы пайшоў. Толькі і ведае падпілкі ды ціскі, ды свой варштат. Але вось ужо дачакаюся, дасць бог, унука, дык і сам параю яму і бацьку пераканаю, каб хлопец у маракі ішоў...

Усё гэта да дробязей паўстала перада мною так яскрава, нібыта было яно зусім нядаўна, учора

Чытаючы маленькую заметку ў газеце-зямлячцы, я некалькі разоў задаваў сабе пытанне:

— Няўжо гэта Сілька спаборнічае са сваім Іванам?.. — і адказваў: — Не, не можа быць...

Занадта ўжо багата гадоў яму выходзіла па майму прыблізнаму падліку. Наўрад ці зможа ён у такія гады спаборнічаць з сынам.

У хуткім часе мне пашанцавала пазнаёміцца з сынам і бацькам Задковымі і высветліць цікавыя падрабязнасці. Прыехаўшы ў Мінск, у адной газеце я ўбачыў здымак: абодва Задковы — пажылы рабочы і яшчэ зусім малады — стаялі ля новага станка, які быў выпушчаны заводам для вялікай будоўлі на Волзе.

Я пачаў рэгулярна сачыць за гэтым спаборніцтвам. Чуў пра яго па радыё, сустракаў водгукі ў друку. Нават у «Правде» неяк з'явілася заметка пра Задковых.

Яшчэ не ведаючы іх асабіста, я ўжо ведаў, што станкі, якія яны збіралі, атрымалі высокую ацэнку на міжнароднай выстаўцы ў Празе. Я даведаўся таксама, што Задкоў сам навучыў сваёй прафесіі сына і цяпер ледзь паспявае за ім у працы. За восем месяцаў яны выканалі семнаццацімесячны план. І галоўнае, аб чым я даведаўся, дык гэта тое, што старэйшага Задкова завуць Іванам Яўсеевічам.

У цесным многалюдным вакзале на сваім небагатым скарбе ўжо трэція суткі сядзіць яшчэ не старая з выгляду жанчына і з ёй чацвёра дзяцей: тры хлопчыкі і дзяўчынка. Сям'я, мусіць, некага чакае, бо ўвесь час маці ўглядаецца ў натоўп ля дзвярэй. А старэйшы хлапчук — яму гадоў шаснаццаць — раз-по-разу выбягае з вакзала і падоўгу глядзіць цераз плошчу ўздоўж разбуранай ушчэнт вуліцы.

І хоць малыя, відаць, прывыклі за вайну і да вакзалаў, і да розных недзіцячых прыгод і трымаюць сябе па-даросламу сціпла і стрымана, але маці ні на хвіліну не спускае з іх вачэй: аднаму гузік зашпіліць, другога прычэша, трэцяму дапаможа пераабуцца. Відаць, не любіць яна неахайнасці і непарадку, таму і сама — ніяк не падумаеш, што столькі на вакзале праседзела — дбайна апранута, падцягнутая, косы старанна ўкладзены ў «куксу». Адзін з трох сыноў, яму гадкоў пяць, не падобны да сваіх брацікаў і сястрычкі. Усе яны цёмнагаловыя, а ён светлагаловы. І з ім маці чамусьці асабліва ласкавая і чулая, хоць трымае ён сябе таксама, як і ўсе астатнія. Нават і дзяжурны па вакзалу, што часта падыходзіць да гэтай сям'і, таксама, як відаць, заклапочаны не чаканнем, кожны раз пытаецца:

— Ну, як тут Толік?

Невысокі чалавек у шынялі без пагонаў прайшоўся ўзад-уперад паўз лаўкі, на якіх драмалі або гутарылі пасажыры, пільна ўглядаючыся ў твары людзей. Нарэшце ён спыніўся і звярнуўся да жанчыны з дзецьмі:

— Не вы, прабачце, будзеце Задкова?

— Так, — уздрыгнуўшы ад нечаканасці, сказала жанчына.

— Вы Антаніна Маркаўна, жонка Івана Яўсеевіча?

— Яна самая. А вы адкуль нас ведаеце?

На твары незнаёмага з'явілася радасная ўсмешка.

— Як не ведаць! Я з Яўсеевічам аж з дваццаць шостага года разам працаваў на заводзе «Пролетарый». Можна сказаць, уся маладосць прайшла ў нас сумесна.

— Ну, а як-жа вы даведаліся, што мы тут?

— Дырэктар наш, Барачэня, Дзмітрый Барысавіч, праз некага даведаўся пра гэта. І адразу-ж паслаў мяне. Ён нават пакрыўдзіўся, што абмінаеце нас.

— Ну, крыўдзіцца тут няма за што. Ды і які цяпер ужо з Івана Яўсеевіча работнік, калі ён ніяк пасля ранення ачуняць не можа! Дактары кажуць — трэба на пенсію ісці.

— На пенсію ці не на пенсію, а да нас няхай зойдзе. Дырэктар, магчыма, дапаможа знайсці які хоць часовы прытулак. Ён-жа Яўсеевіча даўно і з добрага боку ведае.

— Прытулак для нас зараз — самае галоўнае. Вось бачыце, ужо трэці дзень чакаем бацькі: пайшоў у Прудок, можа з кім з радні ці са знаёмых дамовіцца, каб часова ў каго пажыць. Ды, мабыць, не так лёгка зараз гэта ўладзіць, бо казаў — не забаўлюся, а ніяк дачакацца не можам. Ён у нас такі: пакуль не зробіць, што трэба, лепш і не чакай, не прыдзе. Яно, ведаеце, каб не малыя, дык і з кватэрай-бы лягчэй уладзіцца.

— Сямейка ў вас, Антаніна Маркаўна, як кажуць, дзякуй богу! Гэта ўсе вашы?..

— Ды зараз усе.

— Чаму зараз?

— Толіка ўсынавілі. — Маркаўна позіркам паказала на бялявага хлопчыка. — Як вярнуўся Яўсеевіч дамоў, пачаў пытаць, хто з нашых знаёмых жывы, хто загінуў. «У Цераховых, кажу, усе загінулі. Застаўся адзін маленькі хлопчык, Толік». «Возьмем, кажа ён, Толіка. Дзе пяцёра, там і шосты прахарчуецца, а на вопратку як-небудзь узаб'емся». «Што-ж, кажу, мне не менш за цябе яго шкада. Давай возьмем». І прынёс нам татка яшчэ аднаго брацічка, завернутага ў свой шынель, — закончыла яна ад імя ўсіх малых.

— Ну, а як-жа ў вайну вам прышлося? Мусіць, не салодка?

— А каму ў вайну салодка? Хіба якому сукінаму сыну. Я была з дзецьмі ў эвакуацыі. А Яўсеевіч на фронце. Вярнуўся гвардыі лейтэнантам. Быў камандзірам танка.

— А дзед Яўсей?

— Вы і яго ведаеце?

— Як-жа-ж, добра ведаю.

— Памёр стары. Не дачакаўся Івана.

...Іван Яўсеевіч дамовіўся наконт кватэры ў Прудку. Але, калі яму расказала жонка аб просьбе дырэктара, ён адразу забыўся і аб прудкоўскай кватэры, і аб тым, што яму трэба на ўрачэбную камісію. Нават не расказаўшы як след вясковыя навіны, не перакусіўшы, пабег на завод.

У невялічкім пакоі патрэсквала, награваючыся, бляшаная грубка. Зроблены на скорую руку з негаблёванай дошкі стол, ды некалькі такой-жа вытворчасці табурэтак. Гэта кабінет дырэктара.

— Іван Яўсеевіч, братка! Ці ты, ці не ты?.. — пытаўся, абдымаючы Задкова, Дзмітрый Барысавіч. —



... па іх традыцыйнаму звычаю бацька выходзіць з цэха першым. Няхай сабе на поўкрока, але першым!

Доўга на пабочных работах я цябе трымаць не буду, — нібы вінавата працягваў ён. — Як толькі пабудуем цэх, адразу пойдзеш па сваёй ранейшай спецыяльнасці.

Іван Яўсеевіч адчуў сябе нават фізічна паздаравеўшым. Яму было няёмка за такі «вінаваты» тон дырэктара.

— Ды што ты Дзмітрый Барысавіч! Хіба-ж я лепшы за другіх? Буду працаваць на будоўлі, пакуль не адновім увесь завод.

— Не, браце! Гэтак нам нявыгадна. Нам кадры спецыялістаў патрэбны во як, — ён разануў далонню па шыі...

З завода на вакзал Яўсеевіч вярнуўся не пешшу, а на грузавой машыне, радасны, узбуджаны...

— Ну, маці, ну, дзеткі, — сказаў ён, — лезце ў кузаў — паедзем на завод! Дырэктар паклапаціўся аб нас: пакой падрыхтаваў.

Івану Яўсеевічу здаецца, што вайна была яшчэ зусім нядаўна. Так хутка ідзе час. А для яго старэйшага сына Віктара вайна — гэта ўспаміны дзяцінства, бо ў пачатку вайны яму было якіх-небудзь дванаццаць год. А цяпер ён ужо сам бацька. У яго ёсць дачка Томачка. Быў-бы жывы дзед Яўсей, парадаваўся-б, што здзейснілася яго колішняя мара — унук вайсковую службу адбывае ва флоце. Але, мабыць, ужо такая ў Задковых закваска, што цягне іх да сябе, як магніт, завод. Яшчэ калі прыязджаў Віктар з карабля ў адпачынак, дык амаль кожны дзень да бацькі ў цэх хадзіў, дапамагаў яму, вучыўся ў яго. І яшчэ да таго, як сыну дэмабілізавацца, Яўсеевіч дамовіўся з дырэкцыяй, каб дазволілі яму навучыць сына слясарнай справе.

Праўда, спачатку Віктару не пашанцавала. У першыя-ж дні сумеснай работы бацька захварэў і злёг на цэлых паўтара месяца. Віктар, на шчасце, не быў з тых вучняў-навічкоў, якія і падпілка ў руках не трымалі, і нават не ведаюць, як прасцейшыя слясарныя прылады называюцца. Для яго ўсе гэтыя рабочыя словы і справы здаўна знаёмыя, родныя.

Аднак мантаж гідраўлікі пры асваенні новых прадольна-стругальных і даўбёжных станкоў — не такая ўжо простая справа, каб нават і спрактыкаванаму вучню лёгка з ёю справіцца. Колькі было ў Віктара розных нечаканых непрыемнасцей! Ён, напрыклад, пачаў аднойчы гнуць трубу, не насыпаўшы ў яе пяску. Добра, што рабочыя не заўважылі, а то-б быў матэрыял для розных кпін. Віктар самалюбівы. Ён не любіць дакучаць сваім суседзям па рабоце просьбамі аб дапамозе. Гэтым ён спадабаўся рабочым. Але ўжо занадта ён на сябе разлічвае! У пачатку гэта нават шкодна. І таму рабочыя ўпотай сачылі за кожным яго рухам. Яны бачылі і яго канфуз з гнуццём трубы, але зрабілі выгляд, што не бачаць. А так, нібыта між іншым, майстар сказаў:

— Вось ніяк простай рэчы не можам арганізаваць — ролікаў для гнуцця труб. Тэхнікі нашы занадта цяжкія на пад'ём. З-за дробязяў прыходзіцца гнуць па-старынцы, з пясочкам.

І калі што не ладзілася ў пачынаючага слесара, вопытныя бацькавы вучні і яго сябры па рабоце былі тут як тут.

— Чаго ты бянтэжышся? — казаў Васіль Драбышэўскі. — На караблі-ж, мусіць, адчуваў сябе спакойна, вось і тут так трымайся. І ў нас часам бываюць промахі. Здаецца, і гайку закруціш як след, а дасі даўленне — слязіцца масла на трубцы. Значыць, трэба адпусціць гайку і зноў яе падкруціць. Тады яна сядзе на месца.

І Бабушкін Міхаіл, і Лабада Віктар, і Шлёмін Мікіта, і Савачкін Пятро, — ды ці мала іх, хто дапамагаў у гэтыя цяжкаватыя дні Віктару!

Старога таксама вельмі непакоіла, што ён не ў пару захварэў. Хоць дактары катэгарычна забаранілі яму ўставаць з пасцелі, Іван Яўсеевіч не вытрымаў. Употай ад нявесткі і жонкі прыходзіў, абапіраючыся на кіёк, у цэх... Не дапамагалі тут ні дакоры сына, ні вымовы сяброў...

Можа, адчуваючы ўсё гэта, Віктар і здолеў у гэты час працаваць за дваіх — за сябе і за бацьку.

Вялізны цэх увесь застаўлены новымі станкамі. Вось гэты прыгажун — адзін з тых новых, сканструяваных і асвоеных заводам станкоў, за якія завод атрымаў шэсцьсот тысяч рублёў прэміі. Мантыравалі гідраўліку прэміраванага станка бацька і сын Задковы.

Віктар нахіліўся над варштатам, спрытна замацаваў у цісках доўгі кавалак трубы. Нажоўка ў яго руках такая-ж паслухмяная, як у добрага скрыпача смычок. Нават пявучы шоргат яе нагадвае сабою своеасаблівую музыку. Валасы, і без таго цёмныя, сталі яшчэ цямнейшымі ад поту, важкімі пасмамі звісаюць на лоб, увесь час уздрыгваюць ад напружаных, моцных рухаў.

Іван Яўсеевіч назірае за сынам, хаваючы недзе за сур'ёзным позіркам лёгкую ўсмешку. Ён ведае, чаму Віктар так стараецца. Абодва яны пабылі ўжо ў гэтым годзе ў адпачынку і абодва выканалі ўжо гадавы план. Але бацька ўсё-ж, хоць, праўда, не на многа, аказаўся перад адпачынкам упорадзе. І сёння Віктар вырашыў перагнаць старога. Тым больш, што і работа сёння такая, што ўсё падлічыць проста. Яны нарыхтоўваюць трубы. Сын адрэзвае патрэбныя па даўжыні кавалкі трубы, а бацька гне іх па шаблону, падпілоўвае падпілкам вострыя краі, прамывае газай, аддае аўтагеншчыкам на зварку. Стары нібыта і не спяшаецца, а паспець за ім не так проста. І таму Віктар нават крыху злуецца ў душы. А бацька разумее яго азарт і таму хавае сваю ўсмешку.

У іх з сынам ужо ўвайшло ў звычку: заўсёды, што-б яны ні збіраліся рабіць — ці нарыхтоўваць трубы, ці апрацоўваць залатнікі, ці, нарэшце, мантыраваць станкі, — амаль кожны вечар праводзяць яны перад сном нешта накшталт невялічкай хатняй вытворчай нарады. Таму абавязкі кожнага наперад строга размеркаваны. Рабочае месца, матэрыял, інструмент, каб працаваць без затрымкі, заўсёды хто-небудзь з іх падрыхтоўвае да пачатку змены. Таму звычайна сын выходзіць з дому на гадзіну раней. І рабочы дзень у іх праходзіць вельмі зладжана, без ніякіх затрымак. А галоўнае — гэта пачуццё адказнасці перад народам і сапраўднае натхненне, з якім яны бяруцца за работу. Яны мантыруюць за змену па два даўбёжных станкі, у той час як на мантаж кожнага з іх адведзена па плану 60 гадзін.

...Як ні стараўся Віктар у гэты дзень, але ўсё-ж зрабіў крыху меней, чым бацька. На поўпрацэнта меней, але ўсё-ж меней. І таму, па іх традыцыйнаму звычаю, бацька выходзіць з цэха першым. Няхай сабе на поўкрока, але першым.

— А ўсё-ж, мусіць, з-за павагі да бацькі крыху адстаеш? — пытаецца ён, усміхнуўшыся. І адразу-ж сур'ёзна дадае: — Нічога, яшчэ перагоніш. І не на поўкрока, а на многа крокаў. Як-ні-як, у мяне зараз шосты разрад, а ў цябе яшчэ толькі чацверты. У мяне больш вопыту, але вопыт — справа, як кажуць, нажыўная. У цябе тая вялікая перавага, што ты яшчэ зусім малады.

І вось мы сядзім з Іванам Яўсеевічам у яго на кватэры, якая знаходзіцца ў цэнтры горада. Кватэра невялікая. Але ў ёй так чыста і ўтульна, нібы тут жыве не дзве сям'і з дзецьмі, а толькі два ці тры чалавекі дарослых. На сцяне ў простай раме партрэт Леніна. Некалькі фотаздымкаў. І сярод іх глядзіць аднекуль з майго дзяцінства дзядуля Сілька. На стале — свежыя газеты.

— Нешта Віктара доўга няма, — кажа Іван Яўсеевіч. — Мабыць, сход зацягнуўся. І ў яго, і ў мяне нагрузак розных многа. Віктар мой — праформг цэха, член цэхавага камітэта, член заводскага камітэта, агітатар. Ды яшчэ тэхнічная вучоба, ды партыйная. Амаль столькі-ж і ў мяне грамадскіх абавязкаў. Гады тры падрад парторгам быў, а цяпер член партыйнага камітэта. Ды і то калі разважыць, дык, прывыкшы да грамадскай работы, без яе ўжо неяк сумна.

Я слухаю Івана Яўсеевіча, гляджу на яго — і з радасцю пазнаю ў ім, як сказаў-бы дзед Яўсей, задкоўскую пароду. Тая-ж шчырасць. Тая-ж жартаўлівасць, захаваная пад сур'ёзным выразам твару. Нават голас чымсьці нагадвае мне даўно знаёмага чалавека. Толькі гутарка іншая крыху, іншае меркаванне аб працы, аб жыцці. У разважаннях яго няма той крыху наіўнай летуценнасці, якая некалі так падкупляла мяне ў дзядулі Сільку. Іван Яўсеевіч не менш свайго бацькі вытрымаў жыццёвых выпрабаванняў. Але, не гледзячы на ўсё перажытае, у ім многа ўзмацнеўшай у цяжкасцях, сапраўднай упэўненай радасці.

З радасцю ён паведаміў мне, што днямі ў іх сям'і было добрае свята:

— Віктара прынялі з кандыдатаў у члены партыі. А Толік закончыў з выдатнымі адзнакамі чацверты клас. Вось скора і ўнучка ўжо ў школу пойдзе. Так што я ўжо дзядуля, — сказаў ён з лёгкім адценнем смутку і гонару. — Вось так і жывем. У выходныя дні ездзім з Віктарам на рыбу, многа чытаем. Без кнігі жыць не можам. Усе разам: я, ён, Антаніна Маркаўна і Віцева жонка Галя — ходзім у кіно, у тэатр. Словам, не толькі сумесна жывем, але і дружым, як сапраўдныя сябры. Пра нас ужо і на заводзе жартуюць:

— Задковым і сямейнасць на карысць. Каго за сямейнасць высмейваюць, нават з работы гоняць, а іх дык толькі хваляць.

Я ўспамінаю, як некалі грызліся дзеці з бацькамі і бацькі з дзецьмі за раздзел дробнай маёмасці, і думаю: дзякуй табе, любая Радзіма, што ты дала нам такое жыццё, якое нават далёкіх людзей робіць роднымі, а сваіх — сапраўднымі сябрамі!

# ГІГАНЦКІЯ МЕТЭАРЫТЫ

**У гэтым годзе спаўняецца 45 год з дня падзення гіганцкага метэарыта, які атрымаў назву Тунгускі.**

**Метэарыты — цвёрдыя целы касмічнага паходжання — вядомы з глыбокай даўнасці. У далёкія часы яны з'яўляліся аб'ектамі пакланення і культа.**

**Вучоныя лічаць, што кожны год на Зямлю падае не менш тысячы метэарытаў. Большая частка іх застаецца нязнойдзенай. Падзенне гіганцкіх метэарытаў — параўнальна рэдкая з'ява, і савецкая навука ўдзяляе вялікую ўвагу іх вывучэнню. Пры Акадэміі навук СССР існуе Камітэт па метэарытах, у які ўваходзяць відныя савецкія вучоныя.**

**Вывучэнне падзення Тунгускага метэарыта было пачата толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Да месца падзення было арганізавана некалькі экспедыцый. Там, дзе ўпаў метэарыт, у адкрытых месцах дрэвы былі паваленыя і абпалены на адлегласці ў некалькі дзесяткаў кіламетраў. У цяснінах паміж сопкамі, дзе лес быў захаваны ад дзеяння выбуховай хвалі, дрэвы засталіся цэлымі. Савецкімі вучонымі ўстаноўлена, што пачатковая маса Тунгускага метэарыта складала некалькі мільёнаў тон, але дасягнула зямной паверхні толькі яе нязначная частка. Удар метэарыта аб зямлю суправаджаўся моцным выбухам.**

**У 1947 годзе зарэгістравана падзенне другога гіганцкага метэарыта, названага Сіхотэ-Алінскім. Ён раскалоўся ў атмасферы на тысячы частак і ўпаў у выглядзе метэарытнага дажджу. Абследаванне месцаў падзення дало магчымасць знайсці 112 метэарытных варонак. З гэтых варонак выцягнуты тысячы метэарытаў і асколкаў розных памераў. Самы буйны з іх важыць 1745 кілаграмаў, самы маленькі — 0,18 грама. Ён з'яўляецца найменшым жалезным метэарытам у свеце. Савецкія вучоныя лічаць, што пачатковая маса метэарытнага цела складала, прыкладна, 1500—2000 тон, зямной паверхні дасягнула маса каля 100 тон.**

**Падзенне гіганцкіх метэарытаў суправаджалася светлавымі і гукавымі з'явамі вялікай сілы.**

**Савецкія вучоныя прадаўжаюць апрацоўваць вялікі навуковы матэрыял, сабраны ў час праведзеных экспедыцый на месцах падзення метэарытаў.**

На здымку: **старшыня Камітэта па метэарытах Акадэміі навук СССР акадэмік В. Г. Фесенкоў за работай па вывучэнню асколкаў Сіхотэ-Алінскага метэарыта.**

Фота В. Шароўскага. (Фотахроніка ТАСС.)





Парашутыстка Людміла Панкевіч.

# Сусветная рэкардсменка

Я. САДОЎСКІ

У сонечным блакіце паказаўся самалёт. Яшчэ не чуваць шуму матора, і самалёт здаецца маленькай кропкай на светлым небе. Але вось гул матора пачаў паступова расці і хутка запоўніў усю прастору.

Да самалёта былі накіраваны сотні позіркаў. У натоўпе ажыўлена каментыравалі:

— Вышыню набірае...

— Ну, зараз і прыжок будзе...

Нехта заўважае, што на плоскасці самалёта паказаўся чалавек. І вось ён, нібы бясстрашны плавец, кідаецца ў паветранае мора. Лічаныя секунды чалавек, як камень, падае ўніз — і ва ўсіх ад хвалявання замірае сэрца. Няўжо не раскрыецца парашут? Але знаўцы ў той-жа час супакойваюць:

— Зацяжны прыжок! Зараз раскрыецца.

І сапраўды, не праходзіць і дзесяці секунд, як над чалавекам, што нырнуў з самалёта, плаўна раскрыўся шоўкавы рознакаляровы купал парашута.

Спрытныя рукі парашутыста ўмела кіруюць стропамі і не паддаюцца сіле ветру. Смелы паядынак чалавека з ветрам выклікае ўсеагульнае захапленне. Праходзіць яшчэ некалькі секунд, і парашутыст, падкурчыўшы ногі, набліжаецца да зялёнай, расквечанай палянкі. Мужны чалавек у момант «гасіць» шоўкавае палотнішча парашута, і той, нібы апушчаны парус, расцягваецца па зялёным моры травы.

Людзі, што наглядалі за смелым прыжком, кінуліся да парашутыста. Усім хацелася паглядзець на яго, павіншаваць з удалым прызямленнем.

— Хто гэта? — пытаюць з задніх радоў.

Уяўляецца, што прыжок зрабіў смелы мужчына, чалавек, які пабываў на вайне, навучыўся не баяцца любой небяспекі.

Тыя, што стаяць бліжэй да парашутыста, апранутага ў сіні камбінезон, заўважаюць, як гэты смелы чалавек здымае пілотку, і па плячах яго рассыпаюцца густыя светлыя валасы.

— Дзяўчына! — і дзесяткі моцных рук падхапілі смелую дзяўчыну, пачалі падкідваць яе ў паветра.

Гэта быў трыццаць другі прыжок Людмілы Панкевіч.

У жыцці дзевятнаццацігадовай мінскай камсамолкі Людмілы Панкевіч ёсць многа агульнага з жыццём тысяч другіх савецкіх дзяўчат. Нарадзілася яна ў Мінску, у сям'і рабочага. Яшчэ не паспела пайсці ў школу — дзяўчынку толькі запісалі ў першы клас — як пачалася вайна. Бацька Люсі ваяваў на Ленінградскім фронце. Дзяўчынка верыла ў тое, што Мінск зноў стане свабодным горадам, горадам без калючага дроту на кожным кроку, без зверстваў фашысцкіх акупантаў. Яна ўсім сваім сэрцам адчувала, што ў родны горад вернецца ранейшае шчаслівае жыццё.

Люся любіла марыць, і самай запаветнай яе марай было — вучыцца. Яна не раз у марах бачыла сябе ў светлым класе савецкай школы, сярод сябровак, з кнігай у руках.

Савецкая Армія вярнула радасць Мінску і мінчанам, збылася мара Люсі Панкевіч: яна пайшла вучыцца.

Моладзь наша любіць кнігу, дружыць з ёй. Люсі Панкевіч больш за ўсё падабаліся кнігі аб лётчыках, аб авіяцыі, аб мужных парашутыстах. З хваляваннем прачытала яна кнігу тройчы Героя Савецкага Саюза Івана Кажадуба, а жыццё праслаўленых савецкіх лётчыц Расковай, Асіпенка і другіх Люся ведала да дробязей.

Аднойчы яна ўбачыла на кінаэкране часопіс, прысвечаны парашутнаму спорту. І тады ў яе ўзнікла неадольнае жаданне стаць парашутысткай.

У Цэнтральным аэраклубе БССР здаўна дзяўчаты навучаюцца парашутнаму майстэрству. Ужо не адна з іх авалодала тут у дасканаласці лётнай справай і затым прысвяціла сябе службе ў грамадзянскай авіяцыі. Многія парашутысткі Цэнтральнага аэраклуба БССР заваявалі ўсесаюзную вядомасць. Без адрыву ад вытворчасці, сумяшчаючы наведванне аэраклуба з вучобаю ў сярэдніх школах і інстытутах, юнакі і дзяўчаты авалодваюць майстэрствам кіравання самалётам, парашутным спортам.

Але ў той час неба здавалася Люсі недасягальным. З пятнаццаці год яна захапілася плаваннем, І хутка вада стала для яе роднай стыхіяй. Водны спорт загартаваў яе здароўе, навучыў змагацца з цяжкасцямі.

У беларускім добраахвотным таварыстве «Спартак» Люся была рэкардсменкай па плаванню на дыстанцыю 200 метраў вольным стылем. Удзельнічаючы ў спаборніцтвах, яна пабывала ў многіх гарадах Савецкага Саюза, у тым ліку і ў Маскве. Дзяўчыне захацелася прыносіць яшчэ больш карысці сваёй любімай Радзіме.

Люся Панкевіч не забудзе першыя заняткі ў парашутным гуртку, не забудзе першую самастойную ўкладку парашута і ўжо, відома, ніколі не забудзе першы прыжок з парашутам. Яна пачала вучобу разам з другімі юнакамі і дзяўчатамі мінскага завода імя Варашылава, але хутка апярэдзіла ўсіх. Гэта была ініцыятыўная, настойлівая курсантка, якая прагна імкнулася зразумець усе таямніцы майстэрства парашутыста. Кожную вольную мінуту Люся аддавала вучобе, старанна вывучала тэорыю парашутнага спорту.

І не выпадкова на традыцыйных клубных спаборніцтвах у Мінску парашутыстка-камсамолка Людміла Панкевіч набрала найбольшую колькасць ачкоў і заняла першае месца сярод дзяўчат. Яна прыгала з вышыні 600 і 1000 метраў і павінна была спачатку прызямляцца ў круг дыяметрам у 150 метраў. І Людміла бліскуча выканала гэту задачу. Не меншую цяжкасць прадстаўлялі і зацяжныя прыжкі, калі, адарваўшыся ад самалёта, парашутыст дзесяць або пятнаццаць секунд знаходзіцца ў «вольным палёце», не раскрываючы парашута.

Рыхтуючыся да здачы норм парашутыста першага разраду, Людміла Панкевіч зрабіла два высотных прыжкі — з вышыні 2000 і 5000 метраў.

І калі яшчэ нядаўна вада была роднай стыхіяй для Людмілы, то цяпер не толькі на вадзе, але і ў небе, у паветранай прасторы яна адчувае сябе вольна і лёгка. Плавец і парашутыстка, камсамолка Людміла Панкевіч вырашыла стаць лётчыкам, і няма сумнення, што яна дасягне гэтай мэты.

Не так даўно ў беларускіх газетах была надрукавана новая заметка пра Людмілу Панкевіч. У ёй гаварылася:

«У верасні 1952 года спартсмены-парашутысты ДОСААФ зрабілі рад выдатных прыжкоў з вялікай вышыні. У гэтых прыжках прымала ўдзел і прадстаўніца Цэнтральнага аэраклуба БССР Людміла Панкевіч. Пяць спартсменак-парашутыстак, і сярод іх Людміла Панкевіч, зрабілі зацяжныя групавы прыжок. Пакінуўшы самалёт на вышыні 7 606 метраў, адважныя спартсменкі вольна ляцелі 6 500 метраў.

Авіяцыйная спартыўная камісія Цэнтральнага аэраклуба СССР імя В. П. Чкалава атрымала паведамленне Міжнароднай авіяцыйнай федэрацыі (ФАІ) аб зацвярджанні ў якасці сусветнага рэкорда дасягнення спартсменак-парашутыстак. Такім чынам, цяпер авіяцыйным спартсменам Беларусі належыць два сусветных рэкорды: па парашутнаму спорту — Людміле Панкевіч і авіямадэльнаму спорту — авіямадэлісту Пінскай вобласці Яўгену Барысевічу».

Сусветная рэкардсменка Людміла Панкевіч не спыніцца на дасягнутым. Яна будзе дабівацца ўсё новых і новых поспехаў на славу сваёй любімай Радзімы.



Сусветная рэкардсменка парашутыстка Людміла Панкевіч.
Фота А. Дзітлава.

Р. ПІАТУХОЎСКАЯ

# Дзень піянерскага лагера



Спяваюць над рэспублікай піонерскія горны, грымяць барабаны, звіняць задорныя песні. У разгары піонерскае лета — пара доўгачаканага адпачынку, захапляючых спраў, вясёлых забаў.

У гэтую пару на берагах рэчак, паблізу лугоў, напоеных водырам зацвіўшых траў і кветак, у густых лясах, багатых ягадамі і грыбамі, пасяліліся рэбяты. Тысячы піонерскіх сцягаў палошчуцца на лагерных мачтах.

У маляўнічых ваколіцах беларускай сталіцы, у Ждановічах, размясціўся піонерскі лагер профсаюза работнікаў лясной і папяровай прамысловасці. На горцы відаць прыгожыя, лёгкія домікі, размаляваныя па матывах народных казак. У іх жывуць вясёлыя гаспадары лагера. Іх сто восемдзесят — дапытлівых, цікаўных хлопчыкаў і дзяўчынак, шумная і дружная піонерская сям'я.

Раніцай ціха ў лагеры. Толькі прыспушчаны з вечара лагерны сцяг ціха палошчацца на ветры. Ранішняе сонца мякка асвятляе вяршыні дрэў, залоціць ствалы сосен.

Вось яно заглянула ў вокны казачных домікаў. Дзеці праз сон усміхаюцца сонцу: яны ведаюць, што многа цікавага, нечаканага прынясе ім новы дзень. Сёння-ж будзе паход, дальні, сапраўдны. Трэба будзе прайсці, як сказала важатая, цэлых сем кілометраў. Праўда, яшчэ невядомая мэта паходу. Пра гэта скажуць на ранішняй лінейцы.

Учора старшыня совета атрада Веня Губараў, звеннявая Галя Валузнёва і Алег Расін доўга абмяркоўвалі дэталі гэтага паходу. Больш за ўсіх хвалявалася Галя.

— А раптам падымецца вецер, пагоніць хмары, пойдзе дождж?! Як-жа тады з паходам?

— Дажджу не будзе, — салідна адказаў ёй Веня. — Паглядзі, які залацісты заход сонца! А яшчэ сёння я заўважыў, што кветкі жымаласці пахнуць вельмі слаба. Усё гэта абяцае добрае надвор'е.

Веня — юны натураліст. Ён добра вывучыў каляндар прыроды, умее па кветках, па паводзінах жывёл і насякомых прадсказаць надвор'е, ведае ўсе народныя прыкметы. Таму рэбяты заўсёды прыслухоўваюцца да ўсяго, што гаворыць Веня.

Рыхтуючыся да паходу, многія піонеры атрада дэталёва вывучылі ўсё, што трэба ведаць юнаму падарожніку, дапытліваму даследчыку роднага краю. Некаторыя ў глыбіні душы нават хацелі, каб іх застаў у дарозе дождж. Тады яны паказалі-б сваё ўменне пад праліўным дажджом за адну хвіліну распаліць касцёр, хутка зрабіць шчыльны, непрамакальны шалаш.

Горн зайграў пабудку. Радасным, нейкім асабліва чыстым ранішнім голасам ён заспяваў: «Уставайце, уставайце, піонеры! Дзень кліча!» І ў адзін момант зашумеў, заспяваў, загаварыў на розныя галасы лагер.

Пасля ўмывання і зарадкі піонеры прыбіраюць свае пакоі. Старшыня совета атрада разам з дзяжурным правярае ўсе ложкі, тумбачкі. Гэтыя ранішнія гадзіны поўныя радаснага і трывожнага хвалявання. Трэці атрад, у які залічаны Веня Губараў, Алег Расін, Галя Валузнёва, спаборнічае з першым атрадам. У спаборніцтве павінна высветліцца, у каго самыя чыстыя, утульныя пакоі, чый атрад хутчэй выстраіцца на лінейцы.

На гэты раз ні аднаму атраду не прыйшлося святкаваць перамогу. Усе пакоі камісія прызнала вартымі вышэйшай ацэнкі. А на лінейцы ўсе пяць атрадаў у поўным парадку выстраіліся дакладна ў вызначаны тэрмін.

Настае самы ўрачысты момант лагернага дня — падняцце сцяга. Піонеры застылі ў стройных шарэнгах, падняўшы рукі ў піонерскім салюце. І вось сцяг падняты, аб'яўлены план работы.

Лагерны дзень пачаўся!

На лінейцы рэбяты даведаліся аб падрабязнасцях паходу, які так хваляваў іх. Канечны пункт паходу — чарапічны завод. Мэта — пазнаёміцца з работай завода. Форма — паходная: трусы, майкі, тапачкі. Снаражэнне — флягі з вадой, сачкі, батанічныя прэсы: па дарозе можна будзе сабраць расліны і насякомых для гербарыяў і калекцый.

Адразу-ж пасля снедання атрад рушыў у дарогу.

Вельмі цікавым аказаўся гэты паход. На заводзе піонерам паказалі, як робіцца чарапіца, расказалі, на якія будоўлі рэспублікі яе пасылаюць, пазнаёмілі са стаханаўцамі завода.

Па дарозе ў лагер дзеці сабралі матэрыял для гербарыяў і калекцый. Калі дайшлі да Свіслачы, старшая піонерважатая Ядзвіга Казіміраўна Качан дазволіла рэбятам выкупацца.

Паплаваць знайшлося многа ахвотнікаў. Плаўцы нават пачалі спаборнічаць. Мішчанка і Берастаўвіцкі раней за другіх пераплылі два разы рэчку. Ды гэта і не здзівіла нікога: хлопчыкі даўно ўжо рыхтуюцца да лагернай спартакіяды, якая адбудзецца праз некалькі дзён.

А ў лагеры згаладалых падарожнікаў чакаў смачны абед, а пасля абеду — заслужаны адпачынак.

... Мёртвы час. У лагеры — цішыня. А ў пяць гадзін зноў пачынаецца кіпучае, поўнае розных клопатаў жыццё.

У цяню сосен, размясціўшыся групамі, атрады слухаюць гутаркі важатых аб радзіме, аб барацьбітах за мір, аб падзеях за мяжой, аб жыцці дзяцей у краінах капітала.

— Цяжкае жыццё дзяцей працоўных у фашысцкай Іспаніі, — чытае важаты карэспандэнцыю, надрукаваную ў піонерскай газеце. — Многія з іх вымушаны пакінуць школу, таму што бацькі не могуць купіць ім аддзенне, абутак, не маюць сродкаў заплаціць за навучанне.

Усхвалявана слухаюць піонеры. Як не падобна іх залатое, шчаслівае маленства на бязрадаснае жыццё дзяцей за мяжой! Совецкая Радзіма аддае сваім юным грамадзянам цудоўныя палацы, цяністыя паркі, піонерскія лагеры. Яна па-бацькоўску клапоціцца аб тым, каб дзеці раслі здаровымі, адукаванымі людзьмі.

Пасля атрадных заняткаў пачынаюць працаваць гурткі. Іх многа ў лагеры: фізкультурны, авіямадэльны, юных фатографаў, натуралістаў.

Асабліва многа работы зараз у юннатаў. Пад кіраўніцтвам педагогаў яны раскладваюць па папках сабраныя расліны. Гербарыі, зробленыя юннатамі, будуць добрым падарункам роднай школе.

Гарачы час зараз і ў юных спартсменаў. Лагерная спартакіяда, да якой яны рыхтуюцца, выявіць, хто з іх самы смелы, самы спрытны, самы дужы. Дужым і смелым хочацца быць кожнаму, і таму піонеры старанна трэніруюцца ў бегу, прыжках, кіданні гранаты.

На лужку сабраліся футбалісты. Нядаўна іх каманда сустрэлася з камандай лагера профсаюза работнікаў мясцовай прамысловасці і выйграла сустрэчу з лікам 4 : 0. Поспех не ўскружыў хлопчыкам галаву. Уперадзе — новыя сустрэчы, магчыма, больш цяжкія. Да іх трэба сур'ёзна рыхтавацца.

Падвечар, калі спадае гарачыня і вецер прыносіць з лугоў пах дасыхаючага сена, у атрадах пачынаецца дзейсная падрыхтоўка да самай хвалюючай падзеі лагернага жыцця — вялікага кастра. Кожны атрад рыхтуе сваю праграму самадзейнасці.

Пасля вячэры і вячэрняй лінейкі, праглядзеўшы ў клубе новы кінафільм, разыходзяцца піонеры па спальнях. Доўга не могуць нагаварыцца неразлучныя сябры Веня Губараў і Алег Расін. Яны дзеляцца ўражаннямі дня, успамінаюць аб паходзе.

Паступова ўсё заціхае. Моцным, здаровым сном спяць сто восемдзесят дружных рэбят. А заўтра яны сустрэнуць новы радасны дзень, які прынясе ім многа песень, гульняў, цікавых спраў і забаў.

Лагер спіць. Не спяць яшчэ толькі клапатлівыя старэйшыя сябры піонераў. У гэтыя ціхія гадзіны начальнік лагера Аляксей Сямёнавіч Даўгайла запрашае да сябе атрадных важатых, педагогаў, урача, каб разам падумаць аб тым, як зрабіць адпачынак дзяцей яшчэ больш вясёлым і карысным.

Праскоўя НІКІЦІНА

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

### З дзённіка маладой настаўніцы



Мал. Н. Гуціева.

Летам я атрымала накіраванне з Міністэрства асветы БССР на пасаду настаўніцы сямігадовай школы.

Колькі думак пранеслася ў той час у маёй галаве! Яны суправаджалі мяне ўсюды. Што сказаць дзецям у першы дзень, калі я прыду на ўрок. Як зжыцца з імі? Як пранікнуць у іх дзіцячыя душы? — такія ўвесь дзень узнікалі пытанні... і неяк міжвольна рыхтаваліся адказы:

— Усё будзе добра, як і ў іншых настаўнікаў. Чым-жа я горшая за другіх?

Але нельга супакоіцца на думцы аб тым, што ўсё будзе добра. Трэба абдумаць кожны крок, ды і не толькі абдумаць, а нават запісаць словы гутаркі, якую патрэбна правесці ў першы дзень, на першым уроку пры сустрэчы і знаёмстве з вучнямі. Да гэтага дня засталося не так ужо многа часу. Хутка я пакіну сваё роднае Палессе і паеду на Гомельшчыну, ды не проста паеду, а буду там жыць, працаваць настаўніцай.

Як толькі вячэрні змрок ахінуў сад і ўсё наваколле, я кладуся спаць на духмянае, свежае сена. Але сон, не гледзячы на зморанасць, не адразу прыходзіць. Мне ўяўляецца невядомая вёска на Гомельшчыне, у ёй сямігадовая школа, дзеці рознага ўзросту... І як толькі я заплюшчвала вочы і паволі пагойдвалася на нябачных крыллях сну, перада мною адразу-ж узнікала мая далёкая і покуль што яшчэ невядомая вёска. Быццам я заходжу ў пяты клас і пачынаю гутарку: «Дарагія рэбяты, я сустракаюся з вамі першы раз! Да гэтага я вас і вы мяне зусім не ведалі, а цяпер гляджу на вас і радуюся: усе вы ўважлівыя, цікаўныя, прыемныя. Вельмі жадаю, каб вы былі такімі ўважлівымі на кожным уроку, да кожнага настаўніка, тады лепш будзеце разумець і ўяўляць сабе тое, аб чым расказвае настаўнік, не цяжка будзе вучыцца і вырасці ў сапраўдных будаўнікоў комунізма.

Я ў вас буду выкладаць беларускую мову і літаратурнае чытанне. Памятайце, што буду патрабаваць добрай падрыхтоўкі ўрокаў. У вас праграмны матэрыял пачынаецца з паўтарэння ведаў за чацверты клас. Прадумайце адказ на пытанне: «Што называецца сказам?»

Нарэшце, усё зацягваецца блакітнай смугой... Здаецца, я плыву па шырокай-шырокай рацэ. А потым усё паступова адыходзіць у нябыт. Наступае спакой.

Праходзіць дзень за днём, набліжаючы ад'езд, прыносіць рознастайную працу: то перачытваю канспекты па педагогіцы, то вяжу, то што-небудзь шыю на машыне.

Іншы раз у росную туманную раніцу іду ў лес збіраць грыбы. І кожны раз, калі бываю адна, думаю аб тым, з чаго пачынаць сваю працу ў школе. Можа гэта здаецца і смешным, ды ўсёроўна падобныя думкі неадступна ідуць за мною.

Але колькі ні думай, а калі не запісваеш гэтых думак на паперы, то няма і спакою: усё неяк забываецца, знікае, а таму прымаю рашэнне запісваць у сшытак усё, што скажу вучням пры першай сустрэчы.

Нарэшце надышоў доўгачаканы час ад'езду.

— Як-жа ты справішся там, мая дачушка? Хоць-бы ты ростам была большая ды крыху смялейшая, — ціха сказала маці, складаючы тоё-сёе ў чамадан. — Каб з першага дня ты спадабалася ім, сваім вучням, а потым мо' хто дапаможа з старэйшых настаўнікаў і будзе лягчэй.

— Я, мама, многа думала аб гэтым, паслухай, прачытаю табе, што надумала сказаць ім пры першай сустрэчы.

Маці падышла бліза да стала, села на ўслончыку і падрыхтавалася слухаць, падпёршы шчаку працавітай рукою.

Я ў сваю чаргу пачала, выразна вымаўляючы кожнае слова, чытаць. Скончыўшы, я запытала:

— Ну што, мама, спадабаліся табе гэтыя словы?

— Добра, дачушка. Прачытай гэта дзеткам абавязкова. Ты ім спадабаешся.

У гэты час мне чамусьці прыгадалася аповесць Якуба Коласа «У палескай глушы».

Малады настаўнік Лабановіч паважаў сваю гаспадыню-бабку, шчыра і ветла размаўляў з ёю аб школе, дзецях. Бабка, як у гэты момант мая маці, ахвотна ўступала ў гутарку, выказвала свае меркаванні, з якімі настаўнік іншы раз згаджаўся.

То быў змрочны стары час, калі Лабановіч упершыню прыступаў да працы на настаўніцкай пасадзе з нязвыклымі да навучання дзецьмі. То была глухая палеская вёска, дзе панавала галеча, непісьменнасць.

Цяжка было Лабановічу: абставіны і акружэнне, у якіх быў ён, карэнным чынам адрозніваюцца ад абставін і акружэння, якія сустрэнуць мяне на Гомельшчыне.

На развітанне маці абняла мяне, пацалавала і скрозь няпрошаныя слёзы сказала:

— Жадаю ўдачы, дачушка! Хаця-ж часта пішы, бо пакідаеш мяне адну. І зусім так, як лабановічава бабка, прамовіла:

— Паляціш, мая галубка! Слаўная твая дарога...

Я прыехала на Гомельшчыну са сваім пляменнікам Эдзем, які толькі ў гэтым годзе закончыў сем класаў. Маці выправіла яго, каб дапамог мне ў дарозе з рэчамі, а галоўнае, каб паглядзеў і потым расказаў ёй, якая мясцовасць, дзе я буду працаваць настаўніцай. Мы ўвайшлі ў вялікую вёску.

— Куды-ж нам спачатку зайсці? — запытала я ў пляменніка.

— Давайце ў першую хату, — прапанаваў ён.

Так і зрабілі. Маладая гаспадыня спрытна ўпарадкавала ў хаце рэчы, ставячы іх на свае месцы, змяла фартухом услон, ветліва ахінула нас позіркам і ласкава сказала:

— Праходзьце, калі ласка, сядайце ў нас, вы, як бачу, далёкія людзі, стаміліся, мусіць, у дарозе. Адпачніце, ды і пойдзеце потым, куды вам патрэбна.

У гэтым позірку яе прыгожых карых вачэй заўважалася цеплыня і павага да чалавека, а таму гаспадыня здавалася мілай і добрай.

— Мы далей ужо не пойдзем. Наша падарожжа скончана, — сустрэўшыся з позіркам яе вачэй, сказала я.

— Вось як... Дык вы, можа, настаўніца?

— Адгадалі. Буду працаваць у вашай вёсцы настаўніцай. Вось толькі разгледжуся, пазнаёмлюся з людзьмі, настаўніцкім калектывам, з вучнямі — тады адразу ўбачу з чаго пачынаць.

Хутка ў хаце адна за адной пачалі з'яўляцца дзяўчынкі, вучаніцы. Адна, відаць, смялейшая за ўсіх, што была з туга заплеценымі, адкінутымі назад касічкамі, з загарэлым круглым тварыкам і сінімі вачыма, чырванеючы і то апускаючы, то падымаючы вочы, запытала:

— Які вы клас будзеце вучыць?

— Ты лепш запытай, як яе завуць, — шэптам, дакранаючыся губамі да вуха, параіла другая басаногая дзяўчынка ў кароткай выгарэўшай на сонцы паркалёвай сукенцы.

— Любка, — значна цішэй шапнула тоўсценькая вяснушчатая, з пухлымі, крыху зачырванеўшымі шчакамі дзяўчынка, — а вось Юра, што ў нашым класе, яе не будзе слухаць. Так?

Да іх падышла гаспадыня. Вочы яе заіскрыліся лагоднасцю. Паглядзела яна на дзяўчынак і, ледзь стрымліваючы ўсмешку, наўмысля павышаным, не пасуючым да ласкавага выгляду голасам пачала:

— Во, якраз тут без вас нельга абыйсціся! Вельмі-ж вы мне тут патрэбны. Ледзь дачакалася! Добра, што прыбеглі, а то думала пасылаць па вас.

Дзяўчынкі зразумелі, у чым справа, і пераглянуліся.

— Пайшлі, дзяўчаткі! — шапнула высокая Любка, і ўсе, адна за другой, як спалоханыя птушкі, высыпалі з хаты.

Мы выбілі дарожны пыл, асвяжыліся халоднай вадой, падсілкаваліся і пайшлі аглядаць школу, пакінуўшы свае рэчы ўжо ў знаёмай нам гаспадыні.

Па дарозе я маўчала, разглядала навакольныя будынкі, вуліцу, дрэвы на ёй, сустрэчных людзей. Эдзю захацелася выказаць сваё ўражанне аб дзяўчынках.

— Вы пазнаёміцеся тут з вучнямі да таго, як ісці ў школу! Адразу-ж і прыбеглі! Як яны даведаліся пра нас? Мы-ж зайшлі ў самую крайнюю хату. А памятаеце, як у палескай вёсцы, куды Лабановіч прыехаў на працу? Дзяўчынкі нават і ў школу не прыйшлі. А хлопчыкі пры паяўленні ў класе настаўніка збіліся ў куток, як спалоханыя авечкі, баяліся, каб ім настаўнік чаго не зрабіў... — Эдзя смяяўся.

Хутка мы дайшлі да школы. Невялікі драўляны будынак размясціўся на ўзгорку. Вакол яго растуць прыгожыя маладыя дрэўцы: клёны, бярозкі, ясакаркі, рабінкі.

«Гэта праца вучняў», — падумала я. Будынак і плошча з маладымі дрэўцамі абнесены новай драўлянай агарожай. На ўсім была відна дбайнасць і клапатлівасць добрага гаспадара.

Каля ганку стаяў высокі, хударлявы чалавек і глядзеў угару. Уся ўвага яго накіравана на дах, дзе знаходзіўся мужчына ў палінялай вайсковай гімнасцёрцы і гаварыў, што ўсё зроблена, як патрэбна, дождж ужо не павінен прамачыць.

— Добры дзень! — звярнулася я да высокага.

— Добры дзень! — паглядзеўшы ў мой бок, адказаў той. — Цікаўлюся вось будынкам, як і што зроблена, дзе патрэбна што замяніць, дзе падправіць. Чакаем ужо дзетвару ў школу. Трэба, каб парадак быў.

Чалавек у вайсковай гімнасцёрцы злез з даху, і мы ўчацвярых апынуліся ў школе. Беласнежна выбеленыя сцены з блакітнымі панелямі глядзелі на нас неяк асабліва прыветліва. Класы невялікія. Іх чатыры. Усюды чыста вымытая падлога. Вокны выдзяляліся бліскуча гладкаю паверхняю. У кожным класе стаяла пафарбаваная ў чорны колер, паспеўшая ўжо добра высахнуць дошка. Доўгімі радамі, быццам выраўняўшыся на лінейку, стаяць парты. Ад іх разносіцца прыемны пах свежай фарбы.

Усё гэта мне спадабалася, і я кажу:

— Прыгожая ў вас школа...

Цяпер я добра звярнула ўвагу на высокага мужчыну і ўбачыла ледзь улоўную ўсмешку, не сыходзячую з вуснаў увесь час, калі ён размаўляе.

— Вы ў раёне так і скажыце, — сказаў ён, — школа да навучальнага года падрыхтавана поўнасцю. Забяспечана ўжо і палівам.

— Я зусім не з раёна, і дакладваць аб гэтым не мая справа.

— Як? Вы не з раёна? Выходзіць, я памыліўся? Вось дзівак-чалавек! Расказваю аб школе можа нават таму, хто не цікавіцца ёю?

— Чаму-ж? Я вельмі цікаўлюся, бо назначана сюды настаўніцай. А тым, што вы расказалі, як школа падрыхтавана да заняткаў, вы далі зразумець, што з'яўляецеся дырэктарам.

Мужчына працягнуў сваю руку, моцна паціснўў маю і сказаў:

— Пазнаёмімся. Аляксей Віктаравіч. Дырэктар школы.

— Праскоўя Амяльянаўна, — чамусьці чырванеючы, скарагаворкай сказала я.

— Дык чаму-ж вы, Праскоўя Амяльянаўна, не паведамілі мяне з дарогі аб сваім выездзе да нас? Мы прыехалі-б па вас.

— Дзякую, Аляксей Віктаравіч, за ўвагу. У дарозе была я не адна. Вось пляменнік мой. Ён дапамагаў...

— Дзе-ж вы пакінулі свае рэчы?

— У нас ёсць ужо знаёмая гаспадыня, што жыве ў першай хаце ад лесу. Дык у яе нашы рэчы.

— Зараз вы пойдзеце са мной, паглядзіце кватэру, якую я загадзя дамовіў для настаўніка. Калі спадабаецца, зоймеце яе.

Па дарозе ён расказваў аб настаўніках, якія працуюць у школе, аб вучнях, аб жыцці ў вёсцы...

Зайшлі ў хату, дзе дырэктар дамаўляў кватэру. Ласкава нас сустрэла бабка Тэкля. Правяла ў невялікі, але чысты пакоік, што к вуліцы, паглядзела на мяне і сказала:

— Калі спадабаецца вам гэты пакоік, — абвяла яна рукою, — то і жывіце ў нас. Надоечы прыходзілі камсамольцы, пыталі аб ім. Добра, кажу, няхай жыве і мне весялей будзе. Як паехала мая Надзя аграномнічаць, дык я ўжо некалькі разоў і сама прапытвала ў людзей: мо' хто шукае кватэру, няхай-бы ішоў да мяне. Як ні кажыце, сумна адной.

Прайшоў дзень, і ўсе справы па ўладжванню на новай кватэры былі скончаны.

Пакоік мне спадабаўся. Ён чысты і светлы. У куце між акон, адно з якіх было на вуліцу, другое ў двор, стаяў стол, засланы чыстым саматканым абрусам. Ля сцен, якія ўтваралі гэты кут, стаяла па доўгім услоне. Уздоўж глухой сцяны пафарбаваны ў блакітны колер ложак, які бабка прапанавала мне.

Адпраўляючы дамоў пляменніка, даю яму наказ:

— Перадай бабулі, што добры дырэктар, што ўсё будзе добра. Лісты часта буду пасылаць. Скажы там, няхай бабуля не хвалюецца: не такая я ўжо і маленькая...

А месца тут якое слаўнае!..

Трыццатага жніўня ў школу павінны сабрацца вучні... Які гэта незабыўны дзень для кожнага маладога настаўніка!

Кожны класны кіраўнік павінен правесці гутарку з вучнямі свайго класа, узяць на ўлік кнігі, якіх недастае ў дзяцей, арганізаваць клас да заўтрашняга дня, паведаміць ім расклад.

Я назначана класным кіраўніком сёмага класа. Яшчэ да гэтага дня большасць сваіх вучняў ужо сустракала, ведала аб тым, што яны амаль дарослыя, некаторыя маюць па шаснаццаць-семнаццаць год. Значыць, мая гутарка, даўно падрыхтаваная, не падыходзіць для іх. Для іх патрэбна прадумаць іншую. Рыхтуючыся да яе, зноў уявіла сабе клас, вучняў, у думках прывіталася з імі, дазволіла сесці на месца і пачала запісваць у сшытак...

30 жніўня. Пачатак гэтага дня зусім не падобны на папярэднія. На вуліцы, нібы рознакаляровыя кветкі, збіраліся гурткамі і ішлі па-асобку дзеці. Сярод іх святочна апранутыя ў яркія сукенкі, прыгожа прычасаныя, з заплеценымі ў касічкі новымі істужкамі дзяўчынкі і пастрыжаныя, чыста апранутыя хлопчыкі. Рознагалосы гоман запоўніў вуліцу. Хто нёс кніжкі, а хто быў без іх. Некаторыя вялі за рукі сваіх сямігадовых брацікаў ці сястрычак — усе спяшаліся ў школу, якая, паглядаючы з высокага ўзгорка, клікала іх лозунгам:

«Шчыра вітаю, дарагія рэбяты!»

І памятаю, я міжвольна тады падумала: «Не так, як у час Лабановіча!»

У настаўніцкую адзін за адным прыходзілі настаўнікі. Зусім спакойна адчувалі сябе тыя, хто працаваў ужо не першы год. Яны размаўлялі паміж сабой, жартавалі, смяяліся.

— Аляксей Віктаравіч, як я хвалююся! — звяртаюся я да дырэктара.

— Чаго-ж вы? — ледзь прыкметна ўсміхаючыся, запытаў ён.

— Трывожыць першы крок, каб зрабіла яго правільна, тады-б супакоілася.

— А вы да гутаркі падрыхтаваліся, прадумалі, што трэба сказаць?

— Прадумала. Што-ні-што і запісала. Можа, калі маеце час, праслухаеце?

— Прачытайце.

— Дарагія сябры, — па памяці, не заглядаючы ў сшытак, ціха гаварыла я дырэктару, які прысеў на кушэтку і ўважліва пачаў слухаць.

На палавіне прамовы ён мяне спыніў:

— Я ўпэўнены, што гутарка будзе нядрэнная. Закончыце яе аб справах комсамола ў час Вялікай Айчыннай вайны і ў аднаўленчы час, напомніце аб героях-краснадонцах, ахарактарызуйце іншых вядомых вам герояў-комсамольцаў. Зрабіце потым вывады ў адносінах да сваіх вучняў. Сярод іх ёсць яшчэ не комсамольцы...

У знак згоды я ківала галавой.

Пачуўся званок. Яго пераліва клікалі дзетвару са школьнага двара. Спяшаючыся, яны беглі да дзвярэй, затым патокам уліваліся ў школьны калідор і разбягаліся па класах, дзе кожны заняў сваё месца. Як толькі ўсталявалася цішыня, выйшлі настаўнікі.

Слава табе, першаму званку, у новым навучальным годзе! Мусіць, не адна я з хваляваннем у сэрцы прыслухоўвалася да тваіх срэбных пераліваў!

— Добры дзень! — грымнулі вучні пры маім з'яўленні на парозе сёмага класа.

— Добры дзень! Сядайце, рэбяты, — сказала я, калі дайшла да стала. — Як-жа вы правялі летні адпачынак?

Пачуліся адказы:

— Добра правялі.

— Падраслі за лета.

— Як хто жадаў!..

— Вы скажыце, няхай падымаюць рукі, — ціха падказаў мне вучань, што сядзеў на пярэдняй парце. — Так-жа нічога не зразумець!

— А што табе? Без цябе наладзяць дысцыпліну, — злосна шапнуў майму дарадцу сусед, штурхануўшы яго локцем пад бок.

— Не суй носа ў чужое проса! — накінуўся на яго і вучань з задняй парты.

Чырванню заліўся мой твар. Перад вачыма адразу неяк зацягнуўся туманам увесь клас. Вучняў успрымала я, як агульную масу, што, патрывожаная, паціху гудзе.

— Рэбяты, само сабой зразумела, што добра адпачываць улетку... — пачала выходзіць я са становішча.

У класе зноў стала ціха.

— Зараз вы прыступаеце да вучобы. Ваша задача вучыцца, дабівацца высокіх ведаў. На вас, сямікласнікаў, ляжыцца ў школе больш цяжкасцей, чым на вучняў астатніх класаў: у канцы навучальнага года вам трэба будзе здаваць не пераводныя іспыты, а экзамены. Ужо цяпер выбірайце сабе спецыяльнасць і крочце да яе цвёрдымі крокамі, упэўнена і смела. Перад вамі адкрываецца шырокая і роўная жыццёвая дарога. Калі вы ў сваім вучнёўскім жыцці і школьных справах сустрэнеце цяжкасці, то будзьце працалюбівымі, настойлівымі, валявымі — і іх пераможаце. А пры цяжкіх момантах звяртайцеся да нас, настаўнікаў, да мяне, і я, як ваш класны кіраўнік, шчыра дапамагу вам. І толькі ад таго, як мы будзем старацца, будзе цікавым або нецікавым наша школьнае жыццё. У нашай краіне, рэбяты, і толькі ў нашай савецкай краіне, вы заўсёды знойдзеце тое, што пажадаеце, да чаго будзеце імкнуцца, бо ўсімі справамі кіруе ў нас вялікая Комуністычная партыя, якая многа ўвагі і клопату аддае вам, савецкаму вучнёўству.

Заканчэнне ў наступным нумары.





Сталінскі стыпендыят Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ігар Палівода.

# Яго перамога

І. НІСНЕВІЧ

Упершыню з поля бою Ігар трапіў у шпіталь у красавіку 1943 года на Варонежскім фронце. Кантузія прыкавала яго да ложка. Але ненадоўга. Малады арганізм, палымяная нянавісць да ворагаў радзімы далі лейтэнанту Паліводзе магчымасць пакінуць ложак значна раней, чым гэта было вызначана нават самымі вялікімі аптымістамі з ліку ўрачоў. Што-ж датычыць глухога болю, які зрэдку адчуваўся ў хрыбетніку, то аб ім перад выпіскай таму, хто жадае як мага хутчэй вярнуцца ў дзеючую армію, не абавязкова было расказваць прыдзірлівай у сваёй уважлівасці ўрачэбнай камісіі.

Так Ігар Палівода пасля шпіталю прыняў удзел у баях на Курскай дузе.

Асколачнае раненне ў нагу Ігар атрымаў ужо ў жніўні, у час баёў ля Палтавы. Праз чатыры месяцы ён, аднак, зноў быў у страі, на гэты раз на Першым Беларускім фронце.

Полк самаходнай артылерыі Данскога гвардзейскага танкавага злучэння атрымаў заданне фарсіраваць Днепро ў раёне вёскі Сутокі. Тут і перабіла варожая куля лейтэнанту Паліводзе, камандзіру самаходнай гарматы, абедзве косці левага прадплечча. Трэці раз Ігар выбыў са строю.

Міналі ў далёкім сібірскім шпіталі тыдні за тыднямі, а рука ў Ігара заставалася нерухомай. Так было да канца 1944 года. За гэтыя доўгія месяцы ляжання амаль без руху Ігар шмат разоў успамінаў і ацэньваў падзеі свайго жыцця да пачатку вайны. У ім не было нічога выключнага — гэта было жыццё савецкага юнака, якому партыя і народ далі ўсё неабходнае для развіцця прыроджаных здольнасцей.

У вёсцы Горахватцы на Віцебшчыне ў сям'і свайго бацькі, вясковага настаўніка, Ігар палюбіў родную беларускую песню і яшчэ ў маленстве марыў стаць музыкантам. Ён мог гадзінамі слухаць музыку, у якой народ раскрываў свае самыя задушэўныя думкі, жаданні, імкненні, сваю незгасальную веру ў радасную будучыню. Ігар не прапускаў ніводнай рэпетыцыі хора вучняў, якім кіраваў бацька, забываўся на свае дзіцячыя гульні, як толькі бацька браўся за скрыпку ў вольны ад заняткаў час.

Калі Ігару мінула сем год, бацька атрымаў прызначэнне на працу ў адну з школ горада Мсціслаўля. Тут упершыню хлопчык убачыў раяль. Гэты інструмент невядома чаму адразу прыцягнуў яго ўвагу: хлопчык, нібы інтуітыўна, адчуў велізарныя магчымасці, гукавое багацце фартэпіяна. Так пачаліся першыя ўрокі ігры на раялі, а ў 1934 годзе адзінаццацігадовы Ігар Палівода быў залічаны студэнтам Мінскага музычнага вучылішча. Трэба было з-за ўзросту Ігара зрабіць выключэнне з правілаў прыёму ў сярэднія музычныя навучальныя ўстановы. Чулы настаўнік, выдатны музыкант Міхаіл Аркадзьевіч Бергер не пабаяўся ўзяць да сябе ў клас такога юнага студэнта: ён адчуваў выключныя здольнасці хлопчыка, паверыў у іх і — не памыліўся.

У кансерваторыю Ігар таксама быў залічаны ў парадку «парушэння» ўсіх правілаў прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы: яму было ўсяго шаснаццаць год.

Калі ў перыяд вучобы ў музычным вучылішчы Ігара захапляла барацьба за тэхнічную дасканаласць выканання і ён імкнуўся з аднолькавай лёгкасцю валодаць акордавымі скачкамі і віртуознай пальцавай бегласцю пасажаў, то ў кансерваторыі юны піяніст усвядоміў і сам выразна адчуў, што ўсё багацце тэхнічнага майстэрства, увесь арсенал выканаўчых сродкаў падпарадкаваны толькі адной мэце — стварэнню жыццёвых, хвалюючых сваёй адухоўленасцю музычных вобразаў, вобразаў, якія мовай мастацтва перадаюць усё бязмежнае багацце чалавечага жыцця.

Зусім зразумела, што не ўсё яшчэ Ігару і ў гэты перыяд яго вучобы было даступным. Віртуозны размах і бляск «Іспанскай рапсодыі» Ліста перадаваліся ў яго выкананні значна лепш, чым складанейшыя пачуцці і перажыванні ў накцюрнах або баладах Шапена, санатах Бетховена або «Порах года» Чайкоўскага. Аднак, што-б Ігар ні выконваў, ва ўсім адчувалася яго багатая творчая індывідуальнасць, сапраўдныя рысы будучага выдатнага выканаўцы.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Ігар з трэцяга курса кансерваторыі пайшоў добраахвотнікам у рады Савецкай Арміі. А далей — танкавае вучылішча і фронт, нязломная вера ў немінучасць перамогі, вера ў радасць творчай працы ў будучым.

1945 год інвалід Айчыннай вайны Ігар Палівода сустрэў ужо ў вёсцы Варашылава Чкалаўскай вобласці, куды ён прыехаў пасля выпіскі са шпіталю працаваць загадчыкам хатычытальні. Яго рука паранейшаму заставалася нерухомай, але ў выніку рэгулярных заняткаў гімнастыкай пальцам паступова пачала вяртацца беглась. І вось тады, калі Ігар мацней, чым да гэтага часу, паверыў у магчымасць поўнага выздараўлення, боль у хрыбетніку зноў зваліў яго з ног, зноў юнак апынуўся ў шпіталі.

Так у барацьбе з хваробай прайшло ў Ігара некалькі год. І кожны раз, выходзячы са шпіталю, ён з новай энергіяй браўся за работу. Юнак кіраваў мастацкай самадзейнасцю буйнага завода, быў старшым піонерважатым школы, камсамольскім работнікам. І ўсюды яго сустракалі не толькі простая чалавечая спагада, але і шчырая любоў і сапраўдная маральная дапамога совецкіх людзей. Такой дапамогай былі для Ігара Паліводы і пісьмы яго былога настаўніка — заслужанага артыста Беларускай ССР М. А. Бергера, які клікаў свайго вучня ў Мінск, каб заняткамі на фартэпіяна дапамагчы медыцыне завяршыць вылячэнне рукі.

Восенню 1950 года Ігар быў зноў у кансерваторыі.

З таго часу прайшло тры гады. Для Ігара Паліводы яны не былі трыма простымі каляндарнымі гадамі, на працягу якіх ён пераходзіў з курса на курс. Гэта былі гады, якія зрабілі яго мары явай, вярнулі яму тое месца ў жыцці, думаць аб якім ён ужо нават часамі пераставаў. Гэта быў час, калі Комуністычная партыя аказала Ігару найвялікшае давер'е, прыняўшы яго ў свае рады. Гэта былі гады, калі Ігар не толькі аднавіў страчанае ў вучобе, але цаной упартай творчай працы атрымаў Сталінскую стыпендыю — дзяржаўнае прызнанне сваіх дасягненняў у вывучэнні музычнага мастацтва.

На працягу гэтых трох год з самага дня звароту ў свет гукаў, у свет музыкі Ігар Палівода аднавіў не толькі сваю тэхніку ігры на фартэпіяна, але і рэпертуар. У яго выкананні зноў гучыць геніяльны фартэпіянны канцэрт Чайкоўскага, палымяная і пявучая сіла твораў Рахманінава, веліч санат Бетховена, рамантыка твораў Шапэна і Шумана, творы совецкіх кампазітараў і шмат якія іншыя шэдэўры рускай і заходнееўрапейскай класікі. Але калі раней, у даваенныя гады, у выкананні Паліводам гэтых твораў мацней за ўсё чулася цудоўнае кіпенне маладосці піяніста, яго таленавітасць у выкананчай замалёўцы вобразаў, то зараз у яго ігры з'явіліся новыя якасці. Гэтыя якасці — глыбіня выканання, беражлівыя адносіны да аўтарскай задумы твора, прастата і яснасць у яго перадачы. Сонечнае юнацтва як-бы змянілася мудрай сталасцю.

Цяпер сталінскі стыпендыят Ігар Палівода знаходзіцца напярэдадні заканчэння вучобы ў кансерваторыі. Пачынаецца новы этап у яго жыцці, адкрываючы неабмежаваныя магчымасці на шляху да самастойнага руху наперад, да новых вышыняў выканаўчага майстэрства.



Піяніст Ігар Палівода на дзяржаўным экзамене выконвае канцэрт Рахманінава.
Фота І. Салавейчыка.







# СПАРТСМЕНЫ АДНАГО ПРАДПРЫЕМСТВА

Добра працуе калектыў Барысаўскага дрэваапрацоўчага камбіната «Комінтэрн». Прадпрыемства славіцца і перавыкананнем плана выпуску прадукцыі і выдатнай яе якасцю. І калі комінтэрнаўцаў пытаюць, што дапамаге ім у працы, яны звычайна адказваюць: фізкультура і спорт!

Фізкультура і спорт сапраўды трывала ўвайшлі ў жыццё калектыва камбіната і асабліва моладзі. Фізкультурнікі, як правіла, перадавікі вытворчасці, стаханаўцы. Партрэты лепшых з іх вывешаны на Дошцы гонару.

Вось сталяр мэблевага цэха Іван Хоміч. Добры веласіпедыст, ён дае за змену паўтарыдзве нормы. У механічных майстэрнях па-стаханаўску працуе Генадзі Хадасевіч — другаразраднік па лыжнаму спорту. Не адстае ад таварышаў і Ала Ржэуцкая — стаханаўка і спартсменка. Тое-ж можна сказаць і аб многіх іншых юнаках і дзяўчатах.

Вялікая работа праведзена на камбінаце, каб уцягнуць у заняткі фізкультурай і спортам як мага больш маладых рабочых і работніц. Праводзяцца рэгулярныя вучэбна-трэніровачныя заняткі ў секцыях агульнай фізічнай падрыхтоўкі, валейбольнай, баскетбольнай, лёгкаатлетычнай і іншых. На прадпрыемствах амаль уся моладзь — значкісты ГПА і спартсмены-разраднікі. За добрую работу калектыў фізкультуры камбіната трэці год падрад трымае пераходны Чырвоны сцяг беларускага совета таварыства «Чырвоная звязда».

... Спартыўная пляцоўка камбіната. Сюды прышлі лёгкаатлеты. Кароткая каманда: «Пастроіцца!» — і група юнакоў і дзяўчат выцягваецца ў стройную лінію. Заняткі пачынаюцца з размінкі. Паступова пераходзячы ад практыкаванняў лёгкіх да больш складаных, спартсмены падрыхтоўваюць арганізм да галоўнай часткі ўрока. Калі размінка закончана, строй падзяляецца на некалькі груп. Бегуны развучваюць старт, праходзяць асобныя адрэзкі дыстанцый будучых забегаў. У гэтай групе Генадзі Хадасевіч, Гарык Мураўскі, Барыс Шэвель і іншыя. Яны — пераможцы эстафетнага бегу 4×100 метраў на мінулагоднім рэспубліканскім першынстве «Чырвонай звязды». Сёлета трэба захаваць гэтае ганаровае званне, а таму неабходна трэніравацца і трэніравацца... І зноў лёгкаатлеты, ужо каторы раз, прабягаюць знаёмыя адрэзкі шляху, удасканальваюць тэхніку (здымак уверсе злева).

У круг для мятання выходзіць мацнейшы фізкультурнік калектыва Уладзімір Паўлавец. Ядро кладзецца на яго шырокую далонь. І вось спартсмен на імгненне замёр, мускулы яго напружыліся на ўсю моц. Раптам ён падскочыў, ускінуў уперад руку, і ядро, апісаўшы доўгую дугу, упала на зямлю (здымак унізе справа). Уладзімір адначыў месца падзення снарада і зноў вярнуўся ў круг.

Цікавая і складаная ігра ў баскетбол. Нездарма яе называюць атлетычнай. Колькі намаганняў каштуе барацьба за мяч! Каб лягчэй было ў спаборніцтвах, патрэбна больш трэніравацца. Члены баскетбольнай секцыі Якаў Мазуркевіч, Леў Ліцін, Уладзімір Кнацька і іншыя таварышы добра засвоілі гэтае правіла. Яны не прапускаюць заняткаў і пачынаюць ужо адчуваць, як прыкметна палепшылася іх тэхніка. Сёння ў баскетбалістаў чарговая трэніроўка (здымак злева).

Футбалісты таксама пачалі свае заняткі (здымак уверсе справа).

А на беразе ракі ў гэты час таксама ажыўлена. За трэніроўкай плаўцоў (здымак унізе злева) наглядаюць дзесяткі аматараў.

Стомленыя, але задаволеныя вяртаюцца дадому спартсмены «Комінтэрна». А назаўтра яны прыдуць да свайго рабочага месца, каб працаваць яшчэ лепш, памнажаючы славу свайго прадпрыемства.

**А. МАЙСКІ.**

Фота В. Гундорына.





# Кніжная паліца

## Апавяданні аб новым Кітаі

Совецкія людзі з цікавасцю чытаюць апавяданні, аповесці і раманы аб новым, Народным Кітаі, слухаюць кітайскую музыку, глядзяць кітайскія фільмы і п'есы, спяваюць песні брацкага кітайскага народа. Дзякуючы вялікай рускай мове, мы маем магчымасць чытаць пераклады кітайскай літаратуры на мовах народаў СССР, у тым ліку і на беларускай. Летась Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў перакладзе на беларускую мову зборнік кітайскіх народных казак, а тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску паказаў на сцэне адзін з лепшых драматургічных твораў Кітая «Пралітая чаша» па п'есе Ван Шы-фу. Сёлета ў Дзяржаўным выдавецтве БССР вышла новая кніга — «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў». *

У кнігу ўвайшло 9 апавяданняў. Яны належаць лепшым пісьменнікам як старэйшага, так і малодшага пакалення сённешняга Кітая. У сваіх творах пісьменнікі імкнуцца адлюстраваць важнейшыя з'явы жыцця Кітайскай Народнай Рэспублікі. Галоўны герой апавяданняў — просты чалавек, працаўнік зямлі і завода. Агульнае, што аб'ядноўвае рознастайныя па тэматыцы, мове і стылю творы — гэта палымяная любоў да роднай зямлі, да чалавека працы. Жыццёвасць і праўдзівасць — галоўная іх вартасць.

Тэма кітайскай вёскі, тэма аграрнай рэформы і звязаных з ёю пераўтваральных працэсаў у свядомасці сялян займае першае месца ў кітайскай літаратуры пасляваенных год. Тут варта адзначыць вядомыя совецкаму чытачу па перакладах на рускую мову раман пісьменніцы Дзін Лін «Сонца над ракой Сангань», удастоены Сталінскай прэміі, і аповесць Чжао Шу-мі «Перамены ў Лінцзячжыане».

У зборніку апавяданняў паказаны будні кітайскай вёскі пасля вызвалення, рост працоўнага энтузіязма і свядомай актыўнасці сялян, новае вырашэнне бытавых пытанняў, звязаных з праблемай сям'і і шлюбу.

У кітайскай вёсцы, дзе вякамі панавалі самая жорсткая эксплуатацыя і прыгнёт з боку феадалаў і кулакоў, праца стала вызваленай. Пачала расці і свядомасць сялянства. Нават у старой Дун, якая доўгі час з'яўлялася жывым увасабленнем пакорлівасці, паслушэнства і страху перад панам і Буддай, пад уплывам аграрнай рэформы абуджаецца пачуццё чалавечай годнасці (апавяданне Пань Чжы-ціна «Маці і сын»).

Цікава напісанае апавяданне Гу Юй «Рана сарваны плод — горкі» пралівае святло на дзікі шлюбны закон, што доўгія гады існаваў у Кітаі. Па гэтаму закону бацькі заручалі сваіх дачок за дзевяці- і нават шасцігадовых хлопчыкаў, што прыводзіла да цяжкіх пакут маладых людзей.

З кожным днём умацоўваюцца вытворчыя сувязі паміж рабочым класам і сялянствам Кітая, мацнее іх патрыятычнае спаборніцтва. Пажылы селянін Ян Вань-сян, наведаўшы бавоўнапрадзільную фабрыку, пачынае ўсведамляць, што не дзеля асабістай выгады яму трэба здаваць бавоўну дзяржаве, а дзеля шчасця і дабрабыту ўсяго народа. І ён урачыста заяўляе аб гэтым праз газету: — Няхай ведаюць усе! У яркім апавяданні Юй Ліня «Няхай ведаюць усе!» пісьменнікам створаны перакanaўчы вобраз працоўнага селяніна — будаўніка новага Кітая.

Комуністычная партыя з першых дзён устанаўлення ў Кітаі народна-дэмакратычнага ладу ўзяла рашучы курс на індустрыялізацыю краіны. І гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў лепшых апавяданнях зборніка — «Барацьба прадаўжаецца» Хэ Ку, «Вугаль» Лі На, «Два чырвоныя вымпелы» Лу Мэя.

Поўны жыццёвай праўды канфлікт паміж рабочым шоўкаткацкай фабрыкі Ван Чэн-бао і маладой работніцай Лі Чунь-цзе малюе Лу Мэй у апавяданні «Два чырвоныя вымпелы». У гады панавання японскіх імперыялістаў Ван Чэн-бао прызвычаіўся выказваць свой пратэст найбольш даступным яму спосабам — сабатажам. Ён і ў новых умовах, якія яшчэ цалкам не ўсвядоміў, спрабуе працаваць па-старому, абы як. Але сутыкнуўшыся са здаровым рабочым калектывам, дзе працуе зачынальнік руху за павялічаны выпуск прадукцыі Лі Чунь-цзе, Ван Чэн-бао пачынае разумець сэнс усяго таго, што адбываецца на фабрыцы. Перабудова ідзе марудна, аднак прыводзіць да жаданага выніку — чырвоны вымпел ударніка красуецца на станку Ван Чэн-бао. Два вымпелы з пунцовага атласу ўпрыгожваюць машыну Лі Чунь-цзе і Ван Чэн-бао.

Чытаючы апавяданні кітайскіх пісьменнікаў, адчуваеш той вялікі ўплыў, які зрабіла на развіццё новай кітайскай літаратуры творчасць совецкіх пісьменнікаў. «Іменна ў совецкай літаратуры, — піша вядомы пісьменнік Чжоу Лі-бо ў часопісе «Народная літаратура», — мы навучыліся самым прагрэсіўным творчым метадам, якія вучаць нас глыбокай ідэйнасці, самай шчыльнай сувязі з народам, праўдзіваму і чэснаму паказу барацьбы і жыцця народа».

Інтарэсы народа патрабуюць сёння ад кітайскіх пісьменнікаў стварыць літаратуру, якая мабілізавала-б працоўных на будаўніцтва новага, дэмакратычнага Кітая. І трэба сказаць, што творы, змешчаныя ў кнізе «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў», сведчаць аб тым, што перадавая кітайская дэмакратычная літаратура разам з усім народам змагаецца за вырашэнне вялікіх задач, што стаяць перад народным Кітаем.

Зборнік «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў» з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем вечнай дружбы вялікага кітайскага і многанацыянальнага совецкага народаў. Ён служыць важнай справе азнаямлення беларускага чытача з літаратурай народнага Кітая. Хацелася-б у хуткім часе ўбачыць перакладзенымі на беларускую мову і больш буйныя творы сучаснай, а таксама класічнай кітайскай літаратуры.

**Ул. ЮРЭВІЧ.**

* «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў», Белдзяржвыдавецтва, Мінск, 1953.

Сцяпан **АЛЕЙНІК**

## Прыгода на ўзлеску



Мал. В. Ціхановіча.

Мела фурмана арцель  
Зваўся ён Пятро Круцель.  
Не крывы і не гарбаты  
І здароўечкам багаты, —  
Калі з тэхнікай раўняць,  
Дык, напэўна, сіл на пяць!  
І гару звярнуць-бы здолеў!

Вось каму, — казалі, — ў полі  
Зарабляць-бы працадні!  
А Пятро сабе ані  
У тым прыемнасці не бачыў.  
Ён вазіў малаказдачу.

Набярэ вяршкоў бідон,  
Сядзе важна у фургон,  
Звесіць ногі цераз біла  
І вязе сабе — аж міла!

Выязджае за сяло ён,  
А на ўзлеску меў такое  
Месца, дзе ён на хвіліну  
Кожны дзень рабіў прыпынак.

Гляне ўправа, гляне ўлева,  
Каб не выйшаў хто з-за дрэва,  
Вышэй стане на фургон,  
Галаву ўваткне ў бідон  
І цішком смятану п'е...  
Нормы тры падчас дае!  
Вып'е глечык у запале,  
Крыкне «гэй!» і едзе далей.

Але вось праз хітрасць тую  
Укаціўся у бяду ён:  
Папраўляўся, піў смятану,  
І паправіўся звыш плану.



## КУРОРТЫ БЕЛАРУСІ



Ваколіцы дома адпачынку «Залессе» Маладзечанскай вобласці.

**Канстытуцыя Совецкага Саюза гарантуе працоўным нашай краіны не толькі права на працу, але і права на адпачынак. Права на адпачынак ажыццяўляецца ў нашай краіне шляхам устанаўлення для рабочых і служачых штогадовых водпускаў з захаваннем заработнай платы і прадастаўленнем у распараджэнне працоўных шырокай сеткі аздараўленчых устаноў.**

**Велізарныя сродкі выдаткоўвае дзяржава на будаўніцтва, добраўпарадкаванне і абсталяванне санаторыяў і дамоў адпачынку навейшай медыцынскай апаратурай, а таксама на набыццё для рабочых і служачых бясплатных і ільготных пуцёвак. Толькі са сродкаў дзяржаўнага соцыяльнага страхавання ў гэтым годзе працоўныя нашай краіны атрымаюць звыш трох мільёнаў пуцёвак.**

**У дырэктывах XIX з'езда партыі па пятаму пяцігадоваму плану прадугледжваецца далейшае развіццё аховы здароўя працоўных. За пяцігоддзе сетка санаторыяў будзе расшырана на 15 і дамоў адпачынку — на 30 працэнтаў.**

**Вялікая ўвага зараз аддаецца развіццю мясцовых курортаў у рэспубліках, краях, абласцях Саюза.**

**Да Вялікай Айчыннай вайны наша рэспубліка мела даволі шырокую сетку сваіх санаторыяў і дамоў адпачынку. Усе яны былі добра абсталяваны, упарадкаваны і забяспечаны ўсім неабходным. Фашысцкія акупанты зруйнавалі нашы здраўніцы, разрабавалі ўсю іх маёмасць. Работы па аднаўленню здраўніц Беларусі ў пасляваенны перыяд вяліся такімі тэм-**

Ды прышла і на Пятра,
Як на той збанок, пара.

Ўзлез аднойчы ён на воз
І ў бідон па плечы ўрос,
Тузануў назад — о, божа! —
А назад — ніяк не можа!
Рваўся моцна і цішэй, —
Не пушчае ля вушэй!
Апусціў Пятро далоні
І задумаўся ў бідоне:
— Тут, вядома, ёсць што есці,
Ды з бідона трэба-ж лезці.
Хоць і смачна — як-ні-як —
Трэба-ж выбрацца аднак!

Тузаў роўна, з выкрунтасам.
А валы сабе, тым часам
Пастаялі дый пайшлі
(Тут не раз яны былі!),



З лесу, полем, там дзе грэчка,
Да райцэнтру, да мястэчка!

Невядома, што-б тут стала,
Ды Пятру пашанцавала:
Надыйшоў, якраз-жа к часу,
Старшыня яго калгаса.

Хутка даў Пятру ён лад,
Завярнуў валоў назад
І, каб хлопец больш не шкодзіў,
Так сароміў пры народзе,
Што аж смех наўкол стаяў.
І Пятро тут слова даў:



— Завяраю, грамадзяне,
Кіну думаць аб смятане!
Хай паверыць мне арцель, —
Я ад сёння не Круцель:
Лёгкі хлеб шукаць даволі,
Буду з вамі, буду ў полі!

Так змяніла назаўсёды
Хлопца гэтая прыгода.

Пераклад з украінскай мовы
Ул. Корбана.



памі, якія магчымы толькі ў нашай краіне. Толькі на будаўніча-аднаўленчыя работы санаторыяў і дамоў адпачынку, якія знаходзяцца пад ведамам Беларускага курортнага ўпраўлення, было выдаткавана 35 мільёнаў рублёў.

Сетка сваіх мясцовых курортаў у нашай рэспубліцы будзе ў далейшым пашырацца. У нас ёсць нямала прыгожых мясцін, прыгодных для наладжвання не толькі адпачынку, але і лячэння адпачываючых.

Раней лічылася, што мінеральныя воды ёсць толькі на поўдні нашай краіны. Нядаўна навуковыя экспедыцыі выявілі мінеральныя воды і на тэрыторыі Беларусі. Гэтыя мінеральныя воды прымяняюцца для лячэння рэўматызма і захворванняў нервовай сістэмы.

Кліматычныя і прыродныя ўмовы нашай рэспублікі, у першую чаргу добрыя хваёвыя лясы, дазваляюць наладжваць кліматычныя курорты, вельмі неабходныя для лячэння хворых са слабымі лёгкімі. Санаторыі такога профілю працуюць у Чонках Гомельскай вобласці, Летцах Віцебскай вобласці, Наваельні Баранавіцкай вобласці і інш.

Акрамя профільных, у рэспубліцы працуюць і агульнатэрапеўтычныя санаторыі. Лепшы з іх Бабруйскі санаторый імя Леніна. Размешчаны ён у маляўнічай мясцовасці, на прэвым беразе ракі Беразіны. Яго акаймоўвае вялікі фруктовы сад і дэкаратыўны парк.

Санаторый гэты па свайму тыпу ужо даўно перарос і з'яўляецца фактычна бальнеалагічным. Тут прымяняецца для лячэння хворых мінеральная вада з мясцовых мінеральных крыніц. Зараз ставіцца пытанне аб падводцы мінеральнай вады з крыніц да санаторыя для наладжвання мінеральных ваннаў. Торф, які да гэтага часу ўжываўся толькі ў якасці паліва, прымяняецца ў санаторыі імя Леніна як выдатны лячэбны сродак. Высокія цеплазберагаючыя якасці тарфяных гразей выкарыстоўваюцца пры лячэнні такіх хвароб, як рэўматызм, радыкуліт, ішыаз.

Дом адпачынку «Ждановічы» з'яўляецца любімым месцам адпачынку працоўных горада Мінска і ўсёй рэспублікі.

Мноства зелені і кветак, сасновы лес, рака, прыгожыя бясёдкі, пляцоўкі для гульняў, — усё гэта прыцягвае сюды штогод тысячы адпачываючых. Хто пабываў тут раз, імкнецца прыехаць яшчэ не адзін раз, бо тут можна добра адпачыць і ўмацаваць сваё здароўе.

Вялікая ўвага ўдзяляецца культурнаму абслугоўванню адпачываючых. Ва ўсіх здраўніцах праводзіцца чытанне лекцый і дакладаў, паказ кінафільмаў, канцэрты артыстаў-прафесіяналаў, мастацкай самадзейнасці, атракцыёны, экскурсіі, спартыўныя мерапрыемствы. У кожным доме адпачынку і санаторыі ёсць свае бібліятэкі і радыё.

Усё гэта магчыма толькі ў нашай, совецкай краіне, бо ў Комуністычнай партыі, у совецкага ўрада няма іншых клопатаў, чым клопаты аб добрабыце народа.

**Ф. ЯСКЕВІЧ,**
**начальнік упраўлення курортаў, санаторыяў і дамоў адпачынку ВЦСПС па БССР.**



*Родная краіна*

## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

У шасцідзесяці кілометрах на паўночны ўсход ад горада Брэста, у водараздзеле Заходняга Буга, Нёмана і Прыпяці, знаходзіцца вялізны масіў, які займае плошчу ў 129 з паловай тысяч гектараў. Гэта — славутая Белавежская пушча.

Калісьці, у дагістарычныя часы, увесь абшар Еўропы, ад Уральскага хрыбта і аж да берагоў Атлантычнага акіяна, пакрывалі дрымучыя першабытныя лясы. Белавежская пушча з'яўляецца часткай гэтых вялізных лясоў, якая захавалася да нашых дзён.

Сваю назву Белавежская пушча атрымала ад высокай белай вежы, якую пабудаваў князь Уладзімір Валынскі ў 1265 годзе на беразе ракі Лесны, у дзікай лясістай мясцовасці на паўднёва-заходняй ускраіне Беларусі. Вежа захавалася да нашага часу.

Па сваіх памерах, па багаццю і рознастайнасці флоры і фаўны, па маляўнічасці краявідаў Белавежскай пушчы належыць па праву адно з першых месц сярод усіх лясоў Еўропы. Гэта — сапраўдны музей жывой прыроды. Тут багата прадстаўлены ўсе асноўныя пароды дрэў. Сасновыя і яловыя бары з высокімі, стройнымі соснамі, з цёмнымі, змрочнымі ялінамі-волатамі мяжуюцца з дубровамі, дубровы з бярэзнікам, які пераходзіць непрыкметна ў змешаны лес. Тут растуць побач і магутны, шматвяковы дуб, і гнуткі ясень, і ліпа, і клён, і граб, і асіна.

Летам і ўвосень у лясах Белавежскай пушчы выспявае безліч усялякіх ягад — чарніцы, суніцы, брусніцы. На балотах растуць журавіны. Процьма грыбоў сустракаецца тут на кожным кроку. Але збор грыбоў і ягад забаронены ў межах пушчы, таксама як паляванне на звяроў і птушак. За гэтым пільна сочаць белавежскія егеры. Толькі на шкодных драпежнікаў — на ваўкоў і ястрабаў — забарона гэтая не распаўсюджваецца. Егеры забіваюць іх, дзе толькі ні сустрэнуць.



**Рысь.**

У Белавежы захаваліся да нашых дзён рэдкія звяры, якія даўно ўжо зніклі ва ўсіх іншых краінах. Тут жыве на волі зубр — дзікі першабытны лясны бык. Белавежская пушча — адзінае ў свеце месца, дзе зубры жывуць у натуральных умовах з часоў ледніковага перыяду. З шумам і трэскам выходзіць зубр з чашчобы на лясную паляну. Ён ідзе напралом, прабіваючыся магутным целам скрозь густыя зараснікі, падмінаючы маладыя дрэўцы. Старыя зубры — «адзінцы» — ходзяць асобна ад статку. Зубрыцы з зубранятамі трымаюцца звычайна разам. Яны пасвяцца на вялікім агароджаным для іх участку. З кожным годам колькасць зуброў у запаведніку павялічваецца.

Пад густым лісцёвым навесам у пушчы пануе паўзмрок. Сюды нават у ясны летні дзень не можа пранікнуць сонца. Гэта — любімае месца дзікіх свіней. Мяккая вільготная глеба, густа пакрытая леташнім лісцем, уся зрыта, узарана іх лычамі і капытамі. Сюды вяртаюцца дзікія свінні кожную раніцу на досвітку з трысця на беразе балоцістай рэчкі, дзе яны ласуюцца ўсю ноч салодкімі карэнніямі вадзяных раслін. Стары чорны дзік-сякач ідзе звычайна наперадзе. За ім цягнуцца свінні і падсвінкі. Ззаду дробным трушком спяшаюцца, штурхаючыся, паласатыя парасяты. Летам яны праводзяць увесь дзень у вільготнай засені, сярод густых зараснікаў.



**Удоды.**

Ёсць у Белавежы і прыгожыя, высокародныя алені, і лёгкія палахлівыя касулі. Іх налічваецца больш за 1700 галоў.

З каштоўных промысловых лясных звяроў часта сустракаюцца тут куніца, выдра, тхор, гарнастай, вавёрка, ліса, заяц, ласіца. У апошнія гады на лясных рэчках пушчы з'явіліся бабры, якіх тут даўно не было.

Белавежская пушча з'яўляецца дзяржаўным запаведнікам, у якім праводзіцца вялікая навукова-даследчая работа. Назаўсёды забаронена ў ёй паляванне і вырубка лесу. Белавежскія егеры дбайна вядуць улік звяроў і птушак на сваіх участках. Яны штодзённа запісваюць свае назіранні, адзначаюць усе падзеі, якія адбыліся ў пушчы за суткі. Навуковыя супрацоўнікі вывучаюць прыродныя багацці, жывёльны і раслінны свет.

Для навуковых і культурнаасветных мэт пабудаваны на тэрыторыі запаведніка заалагічны музей.

Кожнае лета Белавеж наведваюць тысячы экскурсантаў. Тут праходзяць штогод сваю навуковую практыку студэнты многіх вышэйшых навучальных устаноў Масквы, Ленінграда, Мінска і іншых гарадоў.

Белавежская пушча ператварылася ў сапраўдную лабараторыю прыроды, якая дае велізарную карысць для многіх галін навукі.

**В. ВОЛЬСКІ.**

# Новыя сельскагаспадарчыя машыны

За час свайго існавання калектыў завода «Гомсельмаш» даў сельскай гаспадарцы краіны дзесяткі тысяч рознастайных сельскагаспадарчых машын.

Завод расце, з года ў год павялічваючы выпуск усё больш складаных сельскагаспадарчых машын. Сёлета сельская гаспадарка краіны атрымае ад завода «Гомсельмаш» многа новых машын. Ужо ў гэтым годзе на палях калгасаў будуць скарыстоўвацца трактарная валакуша «ВН-3,0» і трактарны стогамятацель «СТУ-07». Яны прадназначаны для механізацыі ўборкі і сціртавання грубых кармоў.



Сілосны камбайн.

Універсальны трактарны стогамятацель прызначаны для ўкладкі сена ў стагі, саломы ў сцірты з коп. Машына, рухаючыся вакол стога або сцірты, падхоплівае копы і ўзнімае іх на вышыню да шасці метраў. За адзін раз стогамятацель можа ўзняць каля сарака пудоў сена або саломы.

У комплексе са стогамятацелем будзе працаваць падборшчык-капніцель «ПК-1,6», які выпускаецца айчынным прамысловасцю. Стогамятацелем кіруе адзін чалавек — трактарыст. Прадукцыйнасць стогамятацеля — 12 тон у гадзіну.

Навесная валакуша прызначана для збору коп і дастаўкі іх да месца сціртавання. Спараная работа стогамятацеля і валакушы дазволіць амаль поўнасцю механізаваць такі працаёмкі працэс, як зборка сена і саломы.

Апрача таго, «Гомсельмаш» рыхтуецца да серыйнага выпуску сілоснага камбайна. Ён дазволіць убіраць і здрабняць дзікарастучыя травы, нізкарослыя пасевы, тоўстасцеблавыя цвёрдыя культуры. Прадукцыйнасць камбайна — каля сямі тон сілоснай масы ў гадзіну. Агрэгат абслугоўвае два чалавекі — трактарыст і камбайнер.

**Н. ГАЎРЫЛАЎ.**



Трактарны стогамятацель.




**В. ЦІХАНОВІЧ**

Малюнкі аўтара

## ЯК ЗЛАВІЦЬ СЕЛЯДЦА

— Як вы думаеце, ці можна ў нашых рэчках злавіць на вудачку звычайнага каспійскага селядца?

Вы, вядома, скажаце, што не. Не даеце веры?! Калі так, то прыдзецца мне расказаць, як гэта было са мной.

Недалёка і не блізка ад нашага горада працякае прыгожая, з крутымі, зарослымі густым алешнікам берагамі і глыбокімі вірамі рэчка. Рэчка гэта — Уса. Яна невялікая. Але як у добрым супе круп, так у ёй усялякай рыбы. Не шукайце гэтай ракі на карце. Амаль у любым напрамку знойдзеце або Усу або Ушу. Якая з іх наша — гэта ўжо наш рыбацкі сакрэт.

Прыгожым, пагодлівым вечарам мы прыехалі ў прыгарадным поездзе ў Дзержынск. Ну, вось бачыце, і прагаварыўся, дзе наша Уса. Але вы, калі ласка, больш нікому не кажыце аб гэтай утульнай рэчцы!

Да намечанага намі месца кіламетраў з шэсць, і мы старанна адмералі іх за гадзіну. Падрыхтаваць вудачкі — справа хвіліны. Паплаўкі на вадзе. Сонца павольна садзіцца ў хмарку, роем лезуць камары.

— Юзік, пашукай дроў на вогнішча, — кажу я, хоць самому відаць, што на дровы надзеі няма, увесь хмызняк зялёны, але на лузе відаць кучкі торфу.

Хутка некалькі цаглін торфу ратуюць нас ад камароў, адначасова ствараючы ўяўленне вогнішча. Вогнішча, уласна кажучы, не вышла — сыраваты торф, але дыму шмат, і гэта ўжо добра. Некалькі рыбак, злоўленых вечарам, засмажаны на кіёчках і з'едзены, а затым, як і трэба, паліліся бясконцыя апавяданні аб усялякіх здзіўляючых выпадках на рыбнай лоўлі. Не былі забыты і апавяданні нават нашых дзядоў аб былых рыбацкіх удачах.

Нашы расказы ўсю ноч сцвярджалі драчы сваім насмешлівым: «дрр-дрр-дрр!»

Летняя ноч кароткая, белы туман пакрыў рэчку, і толькі верхавінкі алешніку чорнымі астраўкамі плылі па белай прасторы. Пачало хутка віднець.



— Пайшлі лавіць! — кажа Юзік.

— Так, самы час, — адказваю я, і мы цягнем па расістай траве цёмныя палосы слядоў да пастаўленых нанач вудаў.

Даўно прапаў туман, сонца высушыла расу. Робіцца горача. Рыба, якая дрэнна клявала на світанні, зусім пакінула ў спакоі вудачкі. У чыстай вадзе павіслі ўніз галовамі плоткі, якія нешта ўважліва разглядалі на дне.

Справа безнадзейная. Хочацца спаць. Юзік сядзіць побач, яго справы нічым не адрозніваюцца ад маіх. Размовы спынены. Вочы стамляюцца глядзець на паплаўкі і ваду. На хвіліну заплюшчваю вочы... І як-жа гэта я празяваў?! На правай вудзе паплаўка няма! Шнур нацягнуты ўглыб. Адно імгненне, падсечка — і праз галаву ляціць на бераг вузкім клінком сталі незнаёмая мне рыба. Хутчэй глядзець! Не ўстаючы, на карачках, кідаюся на рыбу... І, што за ліха, не адразу магу скеміць! У маіх руках спакойна ляжыць з кручком у жалобна сціснутым сухім роце звычайны салёны каспійскі селядзец.

Побач чую нейкае сіплае квактанне, з крыўдай паварочваюся... На спіне, сярод паперак з ежай, ляжыць і задыхаецца ад смеху мой таварыш Юзік.

Дык вось!.. А вы кажаце, нельга злавіць...






На першай старонцы вокладкі: **Кітайскія госці ў калгасе «Рассвет» Бабруйскай вобласці. Мастак з Шанхая Хан Шан-ій танцуе з даяркай калгаса Надзяй Бяляўскай**
Фота А. Дзітлава.

На чацвертай старонцы вокладкі: **На рацэ Сож, каля дома адпачынку «Чонкі» Гомельскай вобласці.**
Фота А. Дзітлава.


**Адказны рэдактар**
**Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Янка БРЫЛЬ (нам. адказн. рэдактара), Юрый ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Вадзім ПОЗНЯК, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.**

**«Молодость»**
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Газетна-журнальнае выдавецтва Белпаліграфвыдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Адрас рэдакцыі: Падгорны зав., 2.
Тэлефоны: адказнага рэдактара — 93-634, аддзела ілюстрацый — 93-985.

АТ 04822. Здадзена ў набор 9. VII. 53 г. Падпісана да друку 27. VII. 53 г. Фармат паперы 70×108[1]/8. Друк. арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.). Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз. Заказ № 478.

Цана 2 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105

Тэмп марша
Бадзёра, пявуча, энергічна

# МЫ ВОЛЬНАЯ МОЛАДЗЬ КРАІНЫ...

Словы М. ЛЕВАШОВА.

Музыка ПАПОВА.

Мы вольная моладзь краіны,
Мы партыі роднай сыны.
Нам мэтаў вялікіх вяршыні
У сонечным ззянні відны.

Прад намі скараюцца нетры
Спрадвечных балот і тайгі.
Мы вольная моладзь планеты,
Над намі Радзімы сцягі.

Фашыстам не ўдасца над светам
Ваенны пажар распаліць!
Мы моладзь краіны Советаў,
У дружбе народаў нам жыць.

**Прыпеў:**

Ідзем мы наперад калонай стальной,
І песня крыляе над роднай зямлёй.
Жыццё і цвіце і красуе вакол,
Ідзе, к комунізму ідзе комсамол!

Пераклад з рускай мовы А. Астрэйкі.

